# ЗЬМЕСТ № 4.

Стр.

Незалежнасьць—як програма сёнешняга дня . . *А. Галынец* . . . . . . 1

Заданьня чароднай нарады . . . . . . . . . *І. Яцьвяг* . . . . . . 6

Кастантын Каліноўскі (Гістарычны нарыс). . . *Іван Трызна* . . . . . . 10

„У хмарах Захаду"—з Рабіндраната Тагоры . . . . . . . . . . . . . 19

Пагляд П. Безсонава на беларускую справу (даканчаньне) *Др. А. Цьвікевіч* . 20

З Беларуска-Літоўскай мінуўшчыны—*Ластоускі* . . . . . . . . . . 24

Нашыя прозвішчы—*Станкевіч* . . . . . . . . . . . . . . . . . 29

Мікалай Галубовіч. Повесьць. Разьдзел I некалькі слоў аб паходжаньню гэрбу і протоплястах фаміліі пана Мікалая Галубовіча, гэрбу Разходнік *Власт* . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 34

„Эўразійцы" (новыя шуканьня расійскай думкі)—*А. Ц—ч.* . . . . . . . 38

**Палітычная кроніка:** Дэклярацыя Маршалка Рады Б. Н. Р. Вярхоўнай Радзе Лігі Нацый. Тэлеграма Старшыні Рады Міністраў Б. Н. Р. Конфэрэнцыі Вярхоўнай Рады Лігі Нацый ў Лёндане. Мэморандум Конфэрэнцыі Венскага Социалістычнага Аб'еднананьня ад Беларускай Партыі С.-Р. Пратэст Беларускіх Соцыалістычных Партый супроць засуду Расійскіх С.-Р. у Маскве . . . . . . . . . . . . . . . . . . 44—48

**Агляд прэсы:** Крывавы дакумант—заява беларускага жыхарства аб зьдзеках польскай окупацыйнай ўлады. Тэорыя і дзейнасьць. Як выглядае сучасны Менск . . . 49—51

**З усіх старон:** Літва—Сувязь селян-беларусаў у Літве корэсп. Алеь Карабач; Латвія—Выбарная Кампанія у Люцыне; Курсы беларусазнаўства ў Люцыне; Беларуская гімназія ў Дзьвінску. З пад Польшчы—Перапісь; Мэтрычныя кнігі для праваслаўных; Пагромы; Зьдзекі палякаў; Паўстанцкі рух; Сярод уцекачоў; Ліст з Лідчыны. Пастанова Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні аб выбарах у Варшаўскі Сойм. З пад Расіі—Вайсковыя падгатаўленьня; Ураджай; Паўстанцкі рух; Беларуская Архібіскопія. Прага—Са студэнцкага жыцьця. Ліст з Чэхаславакіі . . . . . . . . . 51—60

**Бібліографія:** Першая соцыялістычная беларуская брашура К. Цыгельман—„Аснаўныя пачаткі арымэтыкі". А. Круталевіч — „Элемэнтарная альгебра". Ул. Тэрраўскі — „Беларускі Лірнік". Цішка гартны — „Песьні працы і змаганьня". Цішка Гартны — „Сокі цаліны (раман). „Белорусский этнограф", А. Шлюбскага. Яго-ж „Свѣдѣнія по собиранію устного народного творчества в белорусии". „Беларускі партызан" — безпартыйная часопісь, Змагароў за Бацькаўшчыну". „Беларускі катэхізм", 1835 г. . . . . . . . . . . . . . . . 60—66.

**Свая почта.**

**Абвесткі.**

Redaktorius-leidejas **K. Duž-Dušauskas.** Рэдактар-выдаве **К. Дуж-Душэўскі.**

„Gudų Vėliava“

# БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ

ШТОМЕСЯЧНІК.

**Кошт падпіскі ўсюды:**
на 10 №№ ўпярод —
на 5 №№ „ —
Аддзельны № — — 75 мар.

**Аселасьць.**
Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**Lithuanie. Kaunas.**
Senatorių g-vė, 8.

**Кошт абвестак:**
За цэлую старонку — 2000 мар.
За 1/2 старонкі — — 1200 мар.
За 1/4 старонкі — — 750 мар.

129652

## Незалежнасьць—як праграма сёнешняга дня.

Вызнаньне незалежнасьці Беларусі ў ідэі не зьяўляецца чым-сь трудным і асаблівым. Калі прыняты аснаўныя постуляты, акрэсьляючыя зьмест паняцьця нацыі і тлумачачыя значэньне палітычных форм бытаваньня народу — дык вызнаньне прынцыпу незалежнасьці выплывае само сабой як дыалектычная абавязковасьць. Так сама не ўяўляе сабой асаблівых труднасьцяў зрынуць тыя quasi навучныя перашкоды, якія стаяць на шляху вызнаньня незалежнасьці ў форме дзяленьня народаў на гістарычныя (дзяржаўныя) і негістарычныя (недзяржаўныя) у форме „права“ нацыі на незалежнасьць і інш. Гэтыя перашкоды у сьвятле сучаснай веды і, асабліва, ў сьвятле фактаў перажыванай намі Рэвалюцыі, зьяўляюцца нічым іншым, як страціўшымі цікавасьць гістарычнымі і юрыдычнымі анахронізнамі. Пры разважаньні аб дзяржаўнай незалежнасьці мы заўсёды будзем разумець „права на незалежнасьць“ адзіна як змогу народу замацаваць і абараніць гэтую незалежнасьць сваей сілай, а дзяленьне народаў на два гатункі мы ўпрост адкідаем, як нешта да нічога нездатнае.

Труднасьць незалежніцкай ідэалёгіі тоўпіцца не ў дыалектычным і не ў юрыдычным яе апраўданьні, а ў апраўданьні яе ў бягучым жыцьці, ў паранясеньні праграмы незалежнасьці Беларусі з роўнадзі абстрактных разважаньняў у роўнадзь рэальных зьявішч. Труднасьці, ўзьнікаючыя пры гэтым перанясеньні могуць быць згары тлумачаны тым, што дакуль мы разглядаем незалежнасьць Беларусі як ідэю, дакуль мы гаворым аб ей як аб нейкай абстракцыі, мы маем стычнасьць з чыста лёгічнымі формулоўкамі і аргумантамі, для ўсіх аднальковымі і ўсіх забавязючымі. Калі-ж мы пераносім спрэчку аб незалежнасьці ў жыцьцё і гэтым самым хочамператварыць прынцып у справу, а веру ў дзейснасьць—мы адразу сустрачаемся з цэлым шэрагам папрярэджань, боязнасьцяў, нерашучасьці, ўрэшце, нават з ірoніяй. Арудаваць даннымі ад лёгікі тут трудна: тут пануюць зсылкі на „здаровы розум“, на „здаровае пачуцьце рэальнасьці“, на „практыку жыцьця“, якая бытцым сільней з кождае тэорэтычнае разважаньне і г. д. Сіла істнуючага ўзводзіцца тут ў закон, а справядлівасьць і абавязковасьць праўдзівага—адчуваецца як нешта далёкае і не забавязуючае.

Крытычны стасунак да дамаганьняў незалежнасьці Беларусі выходзіць амаль выключна з пераконаньня, што Беларусь не дасьпела да незалежнага істнаваньня. Сучасны стан нацыянальнай сьвядомасьці на Беларусі, толькі ў апошнія гады пашыраецца ў адпаведным маштабе, адносная слабасьць культурных сіл, у сваей большай частцы невысокай кваліфікацыі, нестача моцнай эканамічнай астоі і



агульная беднасьць краю, ставячая яго ў залежнасьць ад суседзяў—вось прычыны, дзякуючы якім, кажуць, адпадае надзея на зьдзейсьненьне незалежнасьці. Імкнуцца пры гэтых варунках да незалежнасьці і зьвертаць на гэтую справу энэргію народу рэч, бытцым, безнадзейная, і—знача, шкодная. Энергія народу павінна скіроўвацца выключна на арганічную працу ў сфэры культуры і эканомікі, і на асягненьне бліжэйшых мэт ў сфэры палітычнай працы. Такім парадкам родзіцца праграма так зв. „рэальнай палітыкі“.

Згодна гэтай праграме, палітыка можа быць дапушчана ў беларускае жыцьцё толькі ў аднэй форме—ў форме прытасоўкі да істнуючага палітычнага ладу і дамаганьняся тых уступак з боку істнуючага ладу, якія могуць забаспечыць нормальнае развіцьце беларускай культуры і эканомікі. Зрабіць гэта можна, бытцым, толькі пры адным варунку—шляхам уваходжаньня Беларусі ў склад аднэй з суседніх дзяржаў.

Падобнае уваходжаньне вызнаецца староннікамі „рэальнай палітыкі“ абавязковым яшчэ і з другой прычыны. На шляху зысчэньня Беларускай дзяржавы, акром культурнай і эканамічнай адсталасьці яе, лежаць перашкодай тк. зв. „гістарычныя няшчасьця“. Мова йдзе ў першы чарод аб тым, што Беларусь ляжыць паміж двох вялікіх дзяржаў—Расіяй і Польшчай—нагэулькі раўняючы з Беларусьсю магутнымі, што незалежнасьць апошняй ўяўляецца „рэальным палітыкам“ больш чым проблематычнай. Географічнае становішча Беларусі, лежачай ня толькі паміж дзьвема мацнейшымі дзяржавамі, але, заразам, паміж дзьвема сьветавымі культурамі—Усходам і Захадам—падкрэсьляе гэтую проблематычнасьць. Урэшце, безсупярэчная блізкасьць беларускага народу з аднаго боку да Польшчы, з другога—да Расіі і яго рэлігійная падвойнасьць, накладаючая на асновядзі сучаснага релігійнага змаганьня і зьмешаньня веры з палітыкай, сваей адмены пракляцьце—усё гэта прычыняецца да таго, што думка аб незалежнай Беларусі павінна быць адкінута. Але гэтага мала: паказаныя варункі, па мысьлі рэалістаў, пераконваюць у адваротным: замест незалежнасьці Беларусь чакае— і то ў бліжэйшай будучыні новае няшчасьце,—ў гісторыі яе яшчэ ня бывалае—падзел. Пагроза падзелу вісіць над нашай—бацькаўшчынай як дамоклаў меч і гэтую пагрозу трэба адвесьці. Згодна праграме рэальнай палітыкі—пазбавіцца ад пагражаючага падзелу можна ўсё тым жа шляхам—шляхам аб‘еднаньня Беларусі з адным са сваіх суседзяў.

Як апошняе слова сваей мудрасьці праграма рэальнай палітыкі высоўвае дамаганьне, каб Беларусь увайшла ў склад чужой дзяржавы .поўнасьцю, – г. зн. са ўсімі сваімі этнаграфічнымі землямі.

Падобная абмяжоўка пытаньня бытцым дае беларускай палітычнай думцы шмат здаровай духовай стравы, і яна павінна выясьніць стасунак да Беларусі як Польшчы, так і Расіі і тым самым сказаць, з кім з іх Беларусь павінна зьвязаць свой лёс; яна павінна высьцежыць унутраныя узаемаадносіны ў абодвых гэтых гаспадарствах, высьцежыць іх сілы і слабасьці, каб мець магчымасьць дабівацца з іх стараны максімума ўступак на сваю карысьць; яна павінна злажыць сувязную канстытуцыю, апрацаваць свае гарантыі і г. д. Беларускія палітычныя партыі павінны ўзяць самы блізкі ўдзел у палітычным жыцьці дзяржавы і прайсьці гэткім чынам патрэбную для сябе школу—вось якімі павінны быць заданьня беларускай палітыкі.

Выложаныя „рэалістычныя“ мяркаваньня зьверхне выглядаюць вельмі гладка, але ў істоце сваей яны тоўпяць ў сабе нявырашаныя і ўпрост забойчыя для іх супярэчнасьці. Супярэчнасьць заключаецца ў тым, што заклік да аб‘еднаньня з суседняй дзяржавай не дае адповедзі на пытаньне: з кім жа, ласьне, Беларусь

павінна аб'еднацца, каму даручыць сваю будучыну—Расіі ці Польшчы? Мы бачым, што-з пачатку беларускага руху на гэтае пытаньне ня было сталага адказу мы бачым, што і цяпер у рожных кутках Беларусі на гэтае пытаньне адказваюць па рожнаму: сымпатыі адных ідуць да Варшавы, сымпатыі другіх—да Масквы. Часта на аснове адных і тых жа данных, часта пад уплывам адных і тых жа падзей, тых і ці іншых захадаў акупацыйных ўлад, пераконаньня ў гэтым пытаньню дыамэтрычна меняюцца і вочы тых, хто працуе з Польшчай пачынаюць зварачацца на ўсход, а вочы тых, хто працуе з Расіяй—зварачацця на захад.

Мы сьмеем думаць, што адказу на гэта пытаньне наагул німа. Яго няможнайсьці ні ў сфэры гістарычнай супольнасьці Беларусі з гэтымі абедзьвемі краінамі, ні ў сфэры іх нацыянальнага антаганізму, ні ў сфэры гаспадарчай, ні ў сфэры рэлігійнай. Ня можна знайсьці яго і ў арыхмэтычным падрахоўваньню, хто з суседзяў будзе пераможцам, каб пераможцу аддаць сваю руку.

А калі так, калі ня можна адказаць на пытаньне з кім ісьці—дык усё іншае, ў тым ліку асягненьне бліжэйшых мэт,—траціць свой сэнс. Вымога яснага адказу на гэтае пытаньне вырывае з-пад ног рэальных палітыкаў грунт і яны вісну́ць ў паветры. Ужо дзеля аднаго гэтага мы ня можам пайсьці іх шляхам. Мы ня можам пайсьці шляхам іхніх мяркаваньняў яшчэ і таму, што ў зьвязку з немагчымасьцю вырашыць пытаньня—з кім йсьці?—гэтыя мяркаваньня уяўляюць сабой нішто іншае, як самае грубае contradictio in adjecto, самую непрыкрашаную прапаведзь падзелу Беларусі. Тое, чаго так рупліва хочуць пазбавіцца „рэальныя палітыкі“, тое самае аккурат і можа мець мейсца. Запраўды: да чаго апроч падзелу нашай бацькаўшчыны можа давясьці жаданьня адных ўпіхнуць Беларусь у арбіту польскай дзяржаўнасьці і жаданьня другіх—упіхнуць яе ў арбіту расійскай дзяржаўнасьці? Бачучы гэткае імкненьне і ня ўглядаючы ў беларускім народзе волі да самаістага жыцьця—абедзьве гэтыя дзяржавы могуць прыйсьці толькі да вываду аб патрэбе падзелу Беларусі, чым будуць здаволены і іх інтэрасы і імкненьня беларускіх рэалістаў.

На апошку мы ня можам згадзіцца з заклікамі прытасаваньняся да Расіі, ці да Польшчы таму, што гэткія заклікі паніжаюць годнасьць Беларусі, якую годнасьць мы павінны ставіць вышэй за ўсё. Мы ня можам зрабіць Беларусь об'ектам якога-сь торгу, ня можам углядаць у ей нешта служомнае, другараднае. Гэткія акрэсьленьня ня могуць быць нашым Сымвалам веры.

Цікуючы за тым, як пад націскам жалезнага бегу падзей рушыцца гладкапрычасаная праграма прытасоўкі і адрынаючы з агідай паніжаючыя заклікі мы на мейсца іх высуваем барацьбу як справу сёняшняга дня. У некаторых момантах сваіх праграма незалежнасьці разумеецца неправільна і гэтыя неправільнасьці трэба папярэдзіць.

Перш за ўсё глыбока мыляцца ўсе тыя, хто думае, што барацьба за беларускую незалежнасьць ёсьць толькі барацьба палітычная і што гэтая барацьба выключае арганічную працу дзеля адраджэньня культуры і эканомікі краю. Спрэчка аб тым, якая з гэтых спраў больш важная, прыпамінае спрэчку аб санях і калёсах—хто з іх больш патрэбны для гаспадаркі. У агромістым працэсе усходжаньня Беларусі на высоты сучаснай цывілізацыі маюць роўную долю ўсе адмены дзейнасьці і ў гэтай надзвычайнай справе німа „ні вялікіх ні малых спраў“. Асабліва гэта датычыць ідэі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, якая ідэя ёсьць апошняе слова нашага вызвольнага руху. Дзяржава ня родзіцца як Юнона з галавы Юпітэра і абавязковасьць доўгай, упорнай чорнай працы, якую трэба прарабіць для яе нарадзін,—ясна кождаму.

Другое непаразуменьне ў тым, што ад праграмы незалежнасьці Беларусі вымагаюць зышчэньня гэтай незалежнасьці на пэўны тэрмін; думаюць, што калі ёсьць прапаведзь за беларускую незалежнасьць, дык знача гэтая незалежнасць можа быць асягнута вось цяпер, вось на гэтых днях. Ставіць пытаньня гэткім чынам—знача распісывацца ў сваей поўнай палітычнай безграматнасьці. Той, хто гэтак робіць—не разумее ні духа, ні законаў барацьбы; той, хто ставіць падобныя пытаньня—той выяўляе сваю маладушнасьць і яму німа мейсца сярод аб‘еднаньня верных.

У барацьбе, якая вядзецца беларускім народам за сваю незалежнасьць німа пытаньня — калі гэтая незалежнасьць будзе асягнута? У ей не падраховуюцца ні хвіліны, ні дні, ні годы змаганьня, ў ей не падраховуюцца і ахвяры, якія кладуцца на яе аўтар. У служэньні высокім ідэалам ні час, ні сілы не граюць ніякай ролі. Сколькі бы часу яно не цягнулося, але пакуль жыва вера ў ідэалы пакуль у народнай душы гарыць агонь імкненьня да іх — датуль барацьба будзе трываць. Барацьба не шукае для сябе прызнаньня і падзяк, яна ня спыняецца ад сьвядомасьці незначнасьці асягненьняў, — наадварот: чым большыя перашкоды на яе шляху, тым больш у ей энтузыязму, чым далей мэта, тым сільней імкненьне. Барацба за свой ідэал, за сваю веру — ёсьць вызаў усяму істнуючаму і ўжо па аднаму гэтаму яна ня можа шукаць прызнаньня сваей праваты, а здаволеньне свае яна знайходзіць у сабе самой, у сваей ахвярнасьці.

Гэткі дух барацьбы — і гэткім духам дышыць змаганьне за незалежнасьць Беларусі. Гэткае змаганьне мае і свае законы. Галоўны закон барацьбы — гэта яе безупыннасьць. Ні на год, ні на дзень яна ня можа стрымацца — яна падобна рацэ, якая непрарыўна ад крыніц сваіх аж да усьця. Форма і розмах барацьбы ў рожных варунках могуць выяўляцца па рожнаму: яна можа то успыхаць, то заціхаць, але унутраная, істотная пэрманэнтнасьць яе — гэта яе закон. Барацьба за ідэал трывае датуль пакуль гарыць і сьвеціць сам ідэал і гасьне тагды-калі гасьне ідэал. Мы ведаем, што канечны ідэал беларускай вызвольчай барацьбы — незалежная Беларусь — ніколі ня можа пагасьнуць і таму мы пераконаны, што барацьба за яе будзе трываць да тэй пары, пакуль яна ня будзе асягнута.

Прыведзяныя мяркаваньня у пэўнай меры тлумачаць праграму незалежнасьці Беларусі, як чароднай практычнай працы.

У гэтым сэнсе яна ёсьць п р а в і л ь н а, з р а з у м е л а я і п р а в і л ь н а п а с т а ў л е н а я м э т а б е л а р у с к а г а а д р а ж э н ч а г а р у х у і п р а в і л ь н а а к р э с л я н ы ш л я х д а а с я г н е н ь н я г э т а й м э т ы. Вызнаваць праграму незалежнасьці Беларусі знача прызнаваць, што гэтая незалежнасьць ёсьць ня толькі нешта пажаданае, але заразам, што гэта ёсьць нешта неўнікненае што гэта ёсьць абавязковы вынік таго нацыанальнага абуджаньня, якім ахоплен цяпер беларускі народ. Ня трэба думаць, што яна збудзецца абавязкова „заўтра“, але разам з тым ня можна думаць, што прыход яе — справа якойсь неакрэсьлянай будучыны. Вызнаваць незалежнасьць Беларусі толькі ў ідэі, „для будучыны“ знача вызнаваць яе, ласьне, у прынцыпе, углядаць у ей якую-сь тэорытычную абстракцыю, пазбаўляную конкрэтнага жыцьцёвага значэньня. Такое вызнаньне прыпамінае з аднаго боку паганіна, які пакланяецца свайму богу-балвану толькі ў мінуты патрэбы і трымае яго ў звычайны час у куту і забыцьці; а з другога боку — яно сьведчыць аб непраўдным разуменьні стасунку чалавека да яго ідэалу. Вызнаць незалежнасьць Беларусі і паставіць гэтае вызнаньне ў старану — гэтага мала. „Вера бяз дзеяньня мертва ёсьць“ — кождая вера вымагае барацьбы за яе. Без барацьбы, без працы мы ніколі не прыблізім

ідэалу да сябе; мы дабьемся гэтага толькі пры варунку, калі зробім служэньне нашаму ідэалу, сваім штодзенным абавязкам.

Нам могуць сказаць што служэньне ідэалу незалежнасьці можа адбывацца ня толькі ў форме палітычнай барацьбы, але так сама і ў форме культурнай, эканамічнай і ўселякай іншай дзейнасьці. Мы з гэтым і не спрэчаемся. Мы хочам толькі адзначыць, што заклікі да арганічнай працы, чамусьці робяцца прывілеям староннікаў рэальнай палітыкі, дзякуючы чаму сваю згубную гегемонію апошнія апіраюць на якбы сваяцтвё сваім з усімі тымі, хто працуе на культурнай ніве.

Гэткае „незаконнае сужывецтва“ двох сіл нашага адраджэньня з якіх адна істотна карысна, а другая — істотна ганебна, павінна кончыцца. Добрае ад благога павінна адасобіцца. Трэба зразумець, што праграмма арганічнай працы можа быць зьвязана толькі з праграмай незалежнасьці, што толькі ў рамках незалежнасьці можа вясьціся гэтая праца.

Мэта незалежнасьці павінна быць пастаўлена ясна і выразіста як загадны імпэратыў для кождага сьвядомага беларускага дзеяча. Асабліва-ж ясна і выразіста яна павінна быць пастаўлена ў сфэры беларускай палітыкі. Ня трэба думаць, што вялікасьць пастаўленай мэты можа ўплыць дрэнна на разьвіцьцё беларускага руху, што яна можа забіць у народных масах пачуцьцё рэальнага. Наадварот, — вялікасьць мэты ёсьць галоўнейшы варунак перэтварэньня народных мас з начатку пассыўнага — у актыўны, ёсьць спосаб падняць яе на чын, ёсьць адзіная магчымасьць пазбавіць народ мадзеньня, рабскай паслухмянасьці, тхнуць у яго дух павагі да самаго сябе. Вялікасьць мэты, якую ставіць праграма незалежнасьці, ёсьць выражэньне веры ў беларускі народ, у яго творчыя сілы і разам з тым, гэта ёсьць вымога максімальных асягненьняў ва ўсіх дзедзінах народнага жыцьця. Не лагодная прытасоўка да істнуючага, а цьвёрдае імкненьне да павіннага — вось што паслужыць найлепшай гарантыяй буйнага розквіту беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, а разам з ей — і ўсяго іншага. Прапаганда пакорнасьці ёсьць хвальства слабасьці, пропаганда паўстаньня — ёсьць апотэоза сілы. І гэта пры ўсіх варунках, ва ўсе часы. Ў вызвольчым сьвятым змаганьні ня трэба рабіць толькі аднэй абмылкі — ня можна будзіць у народзе злудных надзей на хуткасьць і лёгкасьць перамогі. Лішні оптызмім у большасьці выпадкаў можа сыграць такую-ж негатыўную ролю, як і лішні пэсымізм. Агністы энтузыазм веры павінен быць замкнут у рамкі сьцюдзёнага разрахунку, барацьба павінна быць мэтодычнай, яна не павінна быць бунтам.

Дасьпеваньня беларускага народу да незалежнага дзяржаўнага істнаваньня павінна йсьці ласьне гэтым шляхам барацьбы, а не шляхам уходжаньня Беларусі ў склад мацнейшай суседняй дзяржавы. Мы за ніякую цану ня можам згадзіцца з тым, што заданьньнем беларускай палітыкі ёсьць пропаганда еднаньня Беларусі з Расіяй ці з Польшчай, ці то ў форме аўтаноміі, ці то ў форме фэдэрацыі. Мы можам разглядаць гэтыя формы толькі як панаваньня на беларускай зямлі чужой сілы, прыдушыўшай волю народу да незалежнасьці, ці як часовы кампраміс, выкліканый перамогай, ў барацьбе за тую-ж незалежнасьць. Мы ня можам гадзіцца наперад з гэтай перамогай, будзем заўседы заклікілі да аўтаноміі -фэдэрацыі лічыць самым страшным ударам па беларускаму адраджэньню.

Барацьба за незалежнасьць Беларусі павінна трываць безупынна што дня да самага апошняга моманту. Аканчальнае заданьняе гэтай барацбы павінна стаяць прад народнай сьвядомасьцю ва ўсей сваей вялікасьці, ва ўсей сваей абавязковасьці. Думка народу павінна быць скіравана ласьне сюды — на адшу-

каньне карацейшых сьцежак пеэўнейшых спосабаў для іх асягненьня. Гэтае шуканьне карацейшых сьцежак, пэўнейшых спосабаў іх асягненьня гэтая барацьба павінны адбывацца ў першую чаргу ў дзедзіне палітычнай, бо толькі ў гэтай дзедзіне канечныя заданьня могуць быць далей найбольш рэальны, толькі тут да іх можна падыйсьці і іх адчуць найбольш безпасярэдна. Дзеля гэтага — прапаганда незалежнасьці Беларусі ў шырокіх народных массах, тлумачэньне неўнікненнасьці яе прыходу, заклíканьне народу ісьці на змаганьне за гэтую незалежнасьць і класьці за яе ахвяры — вось нашае чарговае заданьне.

Калі трэба прыклады для больш акуратнага акрэсьленьня нашага становішча, дык мы можам знайсьці іх у становішчы соцыялістычных партый. Тут так сама німа адказу калі прыйдзе царства раўнасьці і справядлівасьці, якога яны чакаюць і за якія гінуць сотні і тысячы яе змагароў; тут так сама німа ні прызнаньня, ні ўдзячнасьці ў барацьбе — сьвядомасьць павіннасьі служыць і прызнаньнем і благаслаўленьнем; тут так сама робяцца „малыя справы“ і арганічная работа — але усё гэта падпарадкавана канцоваму ідэалу, які кіруе ўсім рухам. Сіла соцыялістычных партый і ёсьць у тым, што яны маюць цьвёрда зазначаную мэту і правільна выбраны шлях да яе. У тым жа павінна ляжаць і нашая сіла.

Мы ня склонны думаць, што асягненьня беларускай незалежнасьці ёсьць справа доўгага часу. Пасьля Вялікай Вайны сьвет зрушыйся з сваіх астой і наша эпоха ёсьць эпоха небывалай руйнацыі і небывалага будаваньня. Пераджыванаа намі эпоха адкрывае прад усімі паняволенымі народамі, ў тым ліку прад Беларусьсю, самыя сьмелыя магчымасьці. У такія часы рост палітычнай сьвядомасьці — надзвычай хуткі — год рэвалюцыі раўняецца ў гэтым сенсе дзесяці, а мо‘ і больш гадам супакою. І хто ведае — як уложацца лёсы усходу Эўропы і ці ня суджана нашым вачам убачыць усход сонца беларускай свабоды. Ня верыць у гэту магчымасьць, не чакаць што дня гэтага ўсходу могуць толькі тыя, хто ня верыць у творчыя сілы Рэвалюцыі, хто ня верыць у беларускі народ.

Але незалежна ад таго, каму суджана ўбачыць асвабоджэную Беларусь, — нам, сучасьнікам, ці нашым нашчадкам — сьцяг незалежнасьці, дадзеный нам чатыры гады таму назад, трэба трымаць высока і моцна і цяпер, не зважаючы ні на гойканьне і галёканьне нашых ворагаў, ні на кплівыя... усьмешкі нашых, бытцым прыяцелеў ні на насуваючыйся на нас дзевяты вал гістарычных пагроз. Бо толькі з гэтым сьцягам у руках Беларусь можа ськівуць кандалы няволі.

*А. Галынец.*

---

# Заданьня чароднай нарады.

Яшчэ ў часе Пражскай конфэрэнцыі, ўсімі учасьнікамі яе аднадумна была занатавана патрэба склікаць конфэрэнцыі, прысьвячаныя абгаварываньню беларускай справы, па магчымасьці пэрыодычна. Такая патрэба зусім ачавіста: ненормальны стан беларускага палітычнага жыцьця, разлучанасьць кіруючых сіл бацькаўшчыны, не маючых змогі весьці справу адраджэньня сумесна, адсутнасьць агульнага для ўсей Беларусі органу, ў якім маглі быць выяўлены ўсе кірункі беларускай сьвядомай мысьлі—ўсё гэта прымушае прызнаць ня толькі патрэбу, але абавязковасьць супольных сустрэч усіх тых, хто хварэе душой аб родным краю.

Апошнімі часамі мы чулі, што мысль аб скліканьні чароднай нарады стала актуальнай і ёсьць падстава думаць, што яна можа рэалізавацца. Гэта вельмі усьцешны факт, і мы вітаем яго ад усяго сэрца.

Наўзмечаную нараду чакае шмат пытаньняў, якія трэба разьвязаць. Спынімся на некаторых з гэтых пытаньняў, уяўляючых для нас найбольшы інтэрас.

Перш за усё аб складзе самой нарады. Нам здаецца, што практыка склі-каньня пражскай конфэрэнцыі паказала, што асабліва скрупулятна спыняцца над апрацаваньнем модуса прэдстаўніцтва ня сьлед. Цьвёрдая формула прэдстаўніцтва патрэбна ў тых здарэньнях, калі арганізацыя зьезду не сустрэчае перашкод. Варункі-ж, пры якіх склікаецца кождая беларуская нарада далёкі ад нормальных. Кожды дэлегат пры гэтых варунках цэнен, асабліва-ж, калі ён прыносіць з сабой на зьезд нешта сваё, якую колечы новую думку, новыя весткі, наагул, калі ён прыбывае з якім-небудзь духовным багажом.

Практыка тэй жа пражскай нарады даводзіць, што прыезд дэлегатаў з пад польскай і бальшавіцкай окупацый надзвычайна трудны. І што дзіўна: ня гледзячы на страшэнны уціск—прыезд беларускіх дзеячоў з тэрыторый, занятых палякамі, яшчэ так сяк магчымы, але прыезд іх з-за меж Усерасійскай „Фэдэрацыі“—амаль зусім выключан Гэта гаворыць не на карысьць „Фэдэрацыі“. На людзей, прывыкшых да элементарнай свабоды паруховасьці, парадкі, істнуючыя што да гэтага ў „камуністычным раю“, робяць ўражэньне самай запраўднай турмы. Ці аслабне ў бягучым часе турэмны уціск і ці выпусьціць савецкая ўлада беларускіх дзеячоў з Менску—німа ведама. У кождым здарэньні мы з радасьцю сустрэнем кождага чалавека—якой бы партыйнасьці ён ня быў—прыехаўшага адтуль, с па-за сьмяротнай сьцяны з вялікай прыемнасьцю даведаемся аб тым, як жыве (ці жыве?) і як дзее беларуская мысль у Усходнай Беларусі—і ад усей душы будзем імкнуцца да таго, каб у разважаньнях аб лёсах роднага краю асягнуць з імі аднадумныя пастановы. Аднача, надзеяй сябе ня лудзім і на праезд менскіх прэдстаўнікоў не спадзяемся. Турэмныя сядуны яшчэ ня хутка выйдуць на волю.

Што да праграмы прац конфэрэнцыі, дык нам здаецца, што яна зьявіцца больш ўчаснай, калі будзе пасьвячана справам не палітычным, а культурным. Пражская нарада дала беларускаму руху вычэрпываючыя пастановы, што да яго палітычнага кірунку. Усе пытаньня беларускага палітычнага жыцьця былі на ей разгледжаны з магчымай поўнасьцю і об'ектыўнасьцю, пры чым у гэтым разгледжаньню ўзялі удзел бяз вынятку усе важнейшыя беларускія партыі. З таго часу агульнае становішча Беларусі не зьмянілася, ў ім не здарылася ніякіх такіх падзей, якія маглі-б грунтоўна зьмяніць вехі, пастаўленыя ў Празе, што да дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі, што да адносін да окупацыйных ўлад і інш.—трывае на наш погляд і да сёньня і паддаваць іх сумніву здавалася-б бягучым жыцьцём не вымагаецца. Чародную нараду трэба пасьвяціць не агульным прынцыповым пытаньням, а пытаньням конкрэтным. З гэтым ласьне годзіцца большасьць культурных працаўнікоў, для каторых рэзалюцыі аб палітыцы не даюць падтрыманьня. Дзеля гэтага чародная нарада павінна зьявіцца калі не выключна, дык пераважна нарадай нацыянальна-культурнай.

Пытаньне беларускай нацыянальнай культуры гэта ёсьць пытаньне ў першую чаргу беларускай кнігі і школы. Як гэта ня сумна, але трэба прызнацца, што беларуская кніга і школа адсталі ў параўнаньню з газэтай, агітацыйнай лістоўкай палітычнай брашурай. Іншымі словамі—беларуская палітычная праца йдзе ўперадзе працы культурнай. Апошняй аддаецца і менш сіл і менш сьродкаў. Зьявішча гэта трэба прызнаць надзвычай нездаровым. Калі палітычная прапаганда не

падмацоўваецца адпаведнай культурнай работай, ці, лепш—калі палітычную працу не папярэджае праца культурная, дык уся будоўля аказваецца будоўляй на пяску. Як бы добра ў палітычным значэньні ня быў выхаван народ, але калі ў ім мала нацыянальнай сьвядомасьці, калі ў ім слабы культурныя астоі—будучына яго будзе заўсёды поўна ўселякіх неспадзевак.

Справа школы—справа найвялікшая. А тое, што дзеецца ў школьнай справе на ўсходзе і захадзе Беларусі выклікае сур‘ёзныя небяспекі. Асабліва нядобрыя весткі надыходзяць апошнімі часамі з савецкай Беларусі, дзе адносіны да беларускай культуры хоць на паперы больш менш былі задавальняючымі. Як на горадна-віленскіх землях, так і на землях менскіх (не кажучы аб Магілёўшчыне і Вітэбшчыне) надзеі на тое, што окупанцкія ўлады з тых ці іншых мяркаваньняў падтрымаюць беларускае культурнае адраджэньне—заводзяць. Варшава і Масква вельмі хутка зразумелі, што толерантны стасунак іх да беларускай школы ёсьць сукосная згода на ненавідны ім беларускі „сэпаратызм“, ёсьць сукосная узмацненьне ненавіднай ім „беларускай незалежнасьці“.

І стасунак да окраін—kresów меняецца: на адным баку фронту беларускую школу заносяць у рубрыку прэступленьняў пад назовай „контр-рэвалюцыі“—на другім—пад назовай дзеяньняў przeciwpanstwowych. Якая уміллньасьць у тэрміналёгіі!

„Беларуская школа ў небаспецы“—вось пад якім лёзунгам па нашаму разуменьню павінна прайсьці чародная нарада. „Усе сілы на падтрыманьне беларускай школы“!

Як зрабіць, каб беларуская школа расла і ўзмацнялася, як пашырыць школьную сетку і забаспечыць яе адпаведным вучыцельскім пэрсаналам — аб гэтым трэба сурьёзна і ўсестаронна параіцца. Трэба падробна абмяркаваць як матэр‘яльныя варункі істнаваньня школы ў сучаснай Беларусі, так яе праўныя варункі. — Калі ня будзе знойдзена магчымасьць афіцыяльнага адчыненьня нацыянальных школ на скарбовы кошт — а гэтая магчымасьць зарысоўвуецца вельмі неясна — дык трэба зьвярнуцца да арганізацыі прыватных школ, а ў некаторых мейсцовасьцях нават і патаемных. Практыка „инородцев“ старой Рассіі і практыка іншых паняволеных народаў у гэтай дзедзіне павінна быць намі грунтоўна дасьледавана і паўторана. Праўда, шырокіх плянаў ў гэтым кірунку ўкладаць нельга — сучасны стан нацыянальнай сьвядомасьці на Беларусі не дае нам для таго падставы — але ня трэба забываць, што адна добра пастаўленая прыватная школа варта пяці офіцыяльных. У сваю чаргу — калі німа магчымасьці выхоўваць вучыцельскі пэрсонал на бацькаўшчыне, дык трэба знайсьці шлях, каб выхоўваць яго загранiцай. Суседнія з Беларусьсю дзяржавы — Літва і Латвія—і, асабліва, больш далайшая ад нас, але ня менш прыязная Чэха-Славакія, заўсёды ахвотна адчыняюць нашай моладзі дзьверы сваіх вучомных устаноў і нават ідуць ей на падмогу матэр‘яльна. Гэта брацкая дапамога павінна быць скарыстана.

На гэтулькі важным як школьнае пытаньне зьяўляецца пытаньне кніжнае. Беларускі рух хварэе на адсутнасьць кнігі. Німа ні падручнікаў для школ, німа кнігі для чытаньня. Распраданы ўсе старыя запасы, а новых не відаць. Тое, што робіцца ў сэнсе друку можа здаволіць толькі 1/10 патрэб, а то і менш. Пры гэтым варунку ня можа быць пастаўлена як сьлед ні справа школьнай асьветы, ні справа культурнай прапаганды, пры гэтым нельга прыдбаць чытача, нельга задаволіць пісьменьніка. Німа кнігі — стаіць школа, стаяць курсы, інэрцен чытач, пасывен пісьменнік. Поступ руху затамован.

„Дайце кнігу на Беларусь“. — вось другі лёзунг, які павінен лунаць на

сходах нарады. Нам здаецца, што гэты лёзунг лягчэй поддаецца рэалізацыі. Усё пытаньне ў капітале, які трэба для гэтага знайсьці. Калі беларуская кніга зьяўляецца цяпер таварам, дык знайходжаньне зваротнага капіталу — рэч да выконаньня.

У кніжнай справе вельмі цікава было-б даведацца, якія сусьпехі зрабіла беларуская кніга за апошнія часы. І арганізатары нарады павялічылі-б зацікаўленьне калі-б арганізавалі пры нарадзе выстаўку беларускай кнігі. Гэта, ведама, вымагае часу, бо зрабіць выстаўку поўнай, г. зн. паказаць, што друкавалася на беларускай мове за апошнія гады (1917-1922) — знача мець экспанаты з-пад усіх окупацый. Але падобная выстаўка разам з дыаграмамі па школьнаму пытаньню і інш. графікамі ажывіла-б агульны выгляд нарады.

Чародным зьяўляецца пытаньне беларускага правопісу. Нам, стыкаючымся што дня з беларускім пісьмом, адсутнасьць цьвёрда ўстаноўленага правопісу, недахваты і абмылкі граматыкі Тарашкевіча — асабліва непрыемна даюцца адчуць. Мы разумеем, што нарада ня можа ўзяць на сябе задачы выпрацаваць беларускую правопісь, этымолёгію і сінтаксыс — гэткія задачы могуць быць вырашаны спэцыяльнай навуковай камісыяй — але зсунуць пытаньне з мёртвага пункту, даць хоць агульны кірунак, паправіць хоць грубейшыя абмылкі — гэта нарада можа і павінна зрабіць. У гэтым ей пойдуць на сустрач усе, хто працуе над беларускай філелёгіяй, усе, хто практычна ў ей зацікаўлен. Неўстаноўленасьць і бьючая ў вочы супярэчнасьць беларускага правопісу ня можа быць далей прыкрывана — занадта блага адбіваецца яна на ўсім беларускім руху.

Зазначаныя пытаньня — школы, кнігі і правопісу—належаць да адмены тых пытаньняў, падыйсьці да якіх з праектамі голых рэзалюцый нельга. Для таго, каб вырашыць іх з карысьцю, каб ня толькі вынясьці пастановы, але збагаціць скарбніцу беларускага культурнага адраджэньня трэба заняцца імі ва ўсеаружжы веды і падгатаванасьці. Мы хацелі-б дзеля гэтага чакаць ад нарады навукова пастаўленых рэфэратаў, пэўных цыфр (школьная статыстака) і практычных захадаў. Мы хацелі-б бачыць прысутнымі на нарадзе прэдстаўнікоў ад беларускай прафэсуры, беларускага вучыцельства, студэнцтва, ад беларускіх выдавецтваў і наагул ад усяго таго, што цікуе культурнае адраджэньне бацькаўшчыны. Бяз гэтых працаўнікоў і бяз іх аўтарытэтнага слова, зазначаныя вышэй пытаньня ня могуць быць вырашаны. Мы хацелі-б спадзевацца, што нарада здоляе гэтага дабіцца і як выраз свайго аб,еднаючага і практычна кіруючага значэньня пакіне пасьля сябе больш менш сталы орган, які бы ўзяў на сябе выкананьне яе пастаноў.

Блізка да спраў беларускай нацыанальнай культуры стаяць пытаньня аб беларускай меншасьці ў суседніх да Беларусі дзяржавах. Мы ня можам аднясьці гэтыя пытаньня да ліку палітычных, бо толькі ў незначнай і найменш істотнай частцы сваей яны стыкаюцца з палітыкай. Беларускае міністэрства ў Літве і Беларускі Аддзел Міністэрства Асьветы ў Латвіі маюць функцыі пераважна нацыянальна-культурныя. Гэтыя установы па думцы многіх, у тым ліку і па нашай думцы, могуць адыграць значную ролю ў беларускім адраджэньні і таму вельмі важна, каб праца іх працякала на вачах усяго беларускага грамадзянства. У правільнай пастаноўцы помачы беларускай меншасьці ў Літве і Латвіі зацікаўлены ня толькі гэтыя гаспадарствы, але і сама Беларусь і было-б пажаданым, каб чародная нарада азнаёмілася як з тым, што ўжо зроблена памянёнымі установамі, так і з тым, што плянуюць яны на будучыну. Трэба думаць, што кіраўнікі гэтых установ не адмовяць нарадзе ў адпаведных інформацыях і што яны

захочуць выконваць свае абавязкі ў згодзе з найбольш саліднымі беларускімі рэпрэзэнтацыямі.

Урэшці, адным з заданьняў наўзмечанай нарады можа быць арганізацыя дэлегацыі ў Амэрыку. Справа гэта — набалеўшая і цягнецца бяз выніку ужо даўно. Згодна павядомленьняў, ў некаторых штатах Паўн. Амэрыкі беларуская праца распачалася яшчэ прошлым годам, але на жаль ня ў тым выглядзе, як гэтага вымагаюць патрэбы нашага руху. Між тым адзіна той факт, што ў Паўночнай Амэрыцы ёсьць да I мільёна беларусаў гаворыць за тое, што ў Амэрыцы можа заснавацца адна з сільнейшых эміграцкіх калёній. Прыклад Галічыны і асабліва Літвы сьведчыць, што беларуская калёнія ў Амэрыцы можа зьявіцца вельмі выдатным фактарам адраджэньня сваей бацькаўшчыны, асабліва ў дзедзіне эканамічнай. Чароднай нарадзе, стаячай ў старане ад палітычных непаразуменьняў больш за каго іншага лацна устанавіць цесную і дзейную (рэчавую) зьвязь з нашымі амэрыканскімі пабратымамі. Калі-б арганізатарам нарады пашанцавала ўстанавіць гэткую зьвязь ужо цяпер і ўбачыць на сваіх паседжаньнях дэлегатаў ад амэрыканскіх беларусаў, гэта было-б найлепшым забаспечаньнем разьвіцьця добрых адносін на будучыну.

Самае важнае ў кождым зьезьдзе — гэта яго арганізаванасьць. Дзеля таго, каб жадаць ад чароднай нарады карысных вынікаў, ня трэба сьпяшацца з яе скліканьнем. Лепш склікаць яе пазьней, пасьля сумленай падгатоўкі, чым раней — ды наўсьпеш.

*І. Яцьвяг.*

---

## Кастантын Каліноўскі.

**(Гістарычны нарыс).**

Сьвядомае змаганьне за незалежнасьць і сувэрэннасьць беларускага народу пачалося яскравым выступленьнем на арэну гэтага змаганьня Кастантына Каліноўскага. Ен быў першым беларусам, каторы зразумеў, што нашы ўсходныя і заходныя суседзі, некалькі вякоў баеваўшыя паміж сабой і праліўшыя не адну раку крыві за ўладаньне беларускай тэрыторыяй, за права панаваньня над беларускім народам, — што яны нізашто і ніколі дабравольна ня вызнаюць права беларускаму народу распараджацца ўласным сваім лёсам. Асабістыя досьледы Каліноўскага даканчальна пераканалі яго ў гэтым і таму ён першы голасна і адважна выказаў думкі, да якіх беларускі народ дайшоў толькі праз 50 гадоў пасьля сьмерці Каліноўскага, пераждыўшы трагедыю ўсесьветнае вайны, пераждыўшы Берасьцейскі мір, і, ўрэшце, зьведаўшы польска-расійскую вайну і пачуўшы на целе сваім нож Рыжскага міру.

Каліноўскі першы заявіў што калі народ хоча быць вольным — ён павінен заваяваць гэту волю. Кінуўшы гэтую думку, паказаўшы шлях усім адважным духам, Каліноўскі сам стаў на гэты шлях: падняў аружнае паўстаньне супроць маскоўскага і і варшаўскага дзяржаўна-нацыянальнага гнёту.

Гэтага мала: Каліноўскі зразумеў грунтоўны варунак, пры якім магчыма нашае нацыянальнае вызваленьне. Ласьне, што гэтае, вызваленьне павінна ісьці разам, злучна, крок у крок, з вызваленьнем соцыяльным. Тут крыюцца карэньні сьмелага праекту Каліноўскага — выкінуць дачыста ўсю вяліказямельную польскую шляхту з Беларусі; ось чаму ён гэтак напорыста вымагаў аграрнае рэвалюцыі і поўнае роўнасьці кляс.

Апошняй думкай Каліноўскага, якая, — ў злучнасьці з дзейнасьцю з мукамі і сьмерцьцю якую ен прыняў, — дае поўнае права яго асобе на адно з пачэсных мейсц у вызвольнай гісторыі нашае краіны, — была думка аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Сёньня прыйшоў час, калі трэба прыпомніць гэтыя думкі надыйшоў час, калі трэба лішні раз прыпомніць што і мы, сучасьнікі, павінны йсьці толькі рэвалюцыйным шляхам да нашае волі, адкінуўшы нават думку аб здачы на літасьць часова дужэйшых ворагаў. Знаёмячыся з істасьцю Каліноўскага мы можам, як прыклад, знайсьці ў нашай мінуўшчыне слаўныя ўчынкі праўдзівых герояў, якія ня гнулі карку перад сілай, але ўмелі ўміраць за сваю ідэю з высока паднятаю галавою.

Аб асобе Каліноўскага захавалася надзвычайна мала матэр'ялаў. Ведама толькі, што ён радзіўся ў 1836 г. ў беднай шляхоцкай сям'і. Бацька яго быў па прафесыі ткач з-пад мястэчка Сьвіслач, Горадзенскай губэрні. Ні аб складзе сям'і Каліноўскіх, ні аб дзіцячых гадох Кастантына, ні аб варунках яго выхаваньня і адукацыі да часу студэнцкіх гадоў не засталося ніякіх данных. Тыя шчуплыя матэр'ялы, што маюцца ў нас пад рукамі, кажуць аб Каліноўскім ужо таго пэрыаду яго жыцьця, калі ён выступіў на арэну грамадзка-палітычнага змаганьня, як асоба зусім сфармаваная і закончаная. [1])

Паміма волі ўстае пытаньне: чаму ў даволі абшырнай літэратуры польскай і расійскай аб падзеях 1863 году амаль нічога німа аб асобе Каліноўскага.

Адказ просты: ні расійцам, ні паляком не было абсалютна ніякай карысьці застанаўляцца над асобай Каліноўскага, як беларускай нацыянальнай і палітычнай сіле. Наадварот, самы маленькі спынак над гэтым, бязумоўна прымусіў бы да сур'ёзнай развагі над прыкрым для іх пытаньням аб адносінах да Беларусі, зьбіў бы іх з раз прынятага патрыотычнага курсу, пакінуў бы ў душы чытача шмат розных шкодных сумніваў. Карацей кажучы, пісаць у тыя часы (дый і ў пазьнейшыя) аб асобе і чыннасьці Каліноўскага — гэта азначала-б падагрэваць і верадаваць і без таго гарачае і балючае беларускае пытаньне; гэта азначала для расійцаў і палякаў — ўласнымі рукамі вырываць з-пад ног апошні грунт, стоячы на якім абедзьве стараны гэтак крэпка баранілі свае „гістарычныя“ і ўселякія іншыя правы на прылучэньне да сябе беларускай краіны.

Трэба адзначыць, што нават і эмігранцкая расійская прэсса, асабліва створаная групай Герцэна і Бакуніна, якая шмат памагала польскаму руху, і якая, ласьне, вытыкала польскім патрыотам іх імпэрыалістычныя пляны — захапіць Беларусь, Літву і Украіну, — нават і гэтая прэса нічым ня ўспомніла змаганьне і сьмерць Каліноўскага. Трэба думаць, што для гэтай групы і ў асобнасьці для Бакуніна якраз падыйшоў момант цяжкай ідэйнай барацьбы з Карлам Марксам у справе ўтварэньня Першага Інтэрнацыяналу, і, што „пасьля неўдачы польскага паўстаньня 1863-1864 г. г., Бакунін адыйшоў ад славянскіх спраў, бо „панславізм“ у „гэты час меў ужо рэакцыйна-маскоўскі кірунак“ [2]).

Студэнцкія годы Каліноўскага акурат прыпадаюць на пэрыод найвялікшага ўплыву герцэнаўскай часопісі „Колокол“. Расійская эмігранцкая група, на чале з Герцэнам і Огаревым была ў ідэйным зьвязку з эмігранцкай групай польскіх

---

[1]) У часе друкаваньня гэтае стацьці, я атрымаў вестку, што ў Кракаўскай бібліатэцы ёсьць шмат цікавых матэр'ялаў аб Каліноўскім. Вестка вельмі панадная. Але сёньня паехаць у Кракаўскую бібліатэку — гэта значыць напэўна апынуцца замест бібліатэкі ў Кракаўскай турме.

[2]) М. Драгоманов: „Біографическій очерк о М. Бакунинѣ“.

палітычных дзеячоў і таму, час ад часу, ў часопісі „Колокол“ зьмяшчаліся артыкулы, бараніўшыя справу паўстаньня 63 году. Часьцей другіх пісалі аб падзеях і дамаганьнях тае эпохі сам Герцэн і М Бакунін.

Дзеля таго, што погляды гэтых людзей, асабліва Міхайлы Бакуніна, мелі выключнае значэньне ў сэнсе ўплыву на Каліноўскага, і нават стварылі Каліноўскага ў тым выглядзе, якім мы яго ведаем, мы лічым патрэбным сыпніцца на імі крыху даўжэй.

Зьведаўшы цяготы нямецкіх, аўстрыяцкіх, і расійскіх турмаў, 10 гадоў прасядзеўшы ў казэматах Петрапаўлаўскай і Шлісcельбурскай крэпасьці, поўгада сядзеўшы прыкуты ланцугамі да турэмнай сьцяны, тры разы прысуджаны да сьмертнае кары, — Бакунін найвышэй за ўсё цаніў свабоду як асобы так і цэлага народу. Ен ненавідзеў прыгнечаньне, як палітычнае так нацыянальнае і рэлігійнае. Супроць уціску, супроць гвалту ў імя волі і незалежнасьці Бакунін клікаў усіх чэсных барцоў да рэвалюцыі, як адзінага спосабу пазбавіцца гвалту і здабыць поўную волю.

„Наш ратунак толькі ў рэвалюцыі й нідзе болей... парвіце раз назаўсёды, парвіце з дыплёматыяй, парвіце са ўсякай палавіннай і нягоднай вас палітыкай. Толькі ў рэвалюцыі прабуджаньне, вашае ўваскрошаньне, ваша надзея, ваш ратунак, ваша будучына. У ёй ўся сіла, моц і пэўнасьць перамогі. Толькі той, хто ідзе за ёй і вядзе яе справу, ўбачыць сваю справу зьдзейсьненай.

Клічучы да рэвалюцыі, Бакунін разумее яе толькі як рэвалюцыю народную. Ен кажа:

„Ці можа быць у нас іншая мэта і іншае жаданьне апрача прыходу народнага царства. Мы любім толькі народ, верым толькі ў народ і жадаем толькі таго, чаго жадае народ.

Паўстаньне, якое Бакунін дапамагаў рыхтаваць палякам, ён так сама жадаў бачыць у форме народнага, селянскага, мужыцкага паўстаньня і ў гэткім бачыў грунт дзеля ўдачы самага паўстаньня і вызваленьня польскага народу, а разам і народаў — украінскага, беларускага і літоўскага. Свае думкі аб гэтым ён вылажыў у рожных творах, асабліва-ж ў вядомай адозве „Расійскім, польскім і ўсім слявянскім землям“.

„Мы, пісаў ён, навінны працягнуць братнюю руку ўсім славянам, але ў першую чаргу нашым пакрыўджаным брацьцям-палякам. Мы вельмі грэшны перад імі. І ганьба таму з расійцаў, у каго ў сучасную хвілю, калі расійскія войскі рэжуць польскі народ, топчуць польскіх жанчын і дзяцей, дастане духу сказаць хоць адно слова закіду геройскім і добрародным сынам гэтага замучанага, але далёка яшчэ ня прыдушанага краю“.

Бакунін верыў, хацеў верыць, што польскае паўстаньне будзе мець запраўды народны характар і будзе скіравана ня толькі проці расійскага дэспатычнага ўраду, але так сама проці польскіх паноў і расійскіх памешчыкаў. Ен верыў, што зысьціцца „вольная сувязь Селянскае Расіі і Хлопскае Польшчы“. Ен верыў і спадзеваўся, што польскае паўстаньне будзе сыгналам да паўстаньня народаў Беларусі, Літвы і Украіны, што жыхарства гэтых краёў выявіць сваю волю да самаазначаньня і створыць вольную фэдарацыю сваіх дзяржаў — з Расіяй ці з Польшчай, як самі таго захочуць. Але ведаючы прэтэнсыі палякаў да прылучэньня да Польшчы — Украіны, Літвы і Беларусі, Бакунін засьцерагае палякаў ад гэтае абмылкі і піша:

„Палякі можа будуць вымагаць занадта многа. Яны не абмежацца адным Царствам Польскім, яны прад‘яўляць гістарычныя дамаганьня на Літву, Беларусь

нават уключна з Смаленскам, на Ліфляндыю, Курляндыю і на ўсю Украіну ўключна з Кіевам... Я думаю, што палякі робяць вялікую абмылку, так ставячы пытаньне“.

Ён некалькі разоў падкрэсьляе права на незалежнасьць гэтых краёў. У гэтым напрамку Бакунін пайшоў далей і шчырэй ўсіх расійскіх рэвалюцыянераў — быўшых і сучасных, — ён не палохаўся поўнае сэпарацыі ад Расіі славянскіх і неславянскіх нацыяў.

„Адыйміце, пісаў ён, ад Расіі Польшчу, Беларусь і Маларосію, аддзяліцце ад яе Фінляндыю, Остзэйскія губэрні, Грузію і ўвесь Каўказ: застанецца агромністае вялікарускае племя ў 40 мільёнаў, племя энэргічнае, шыроказдольнае і, ледзь-ледзь зачэпленае і, дзеля таго, несапсутае гісторыяй, якое можна сказаць, да сяго часу толькі рыхтавалася да свайго гістарычнага жыцьця“.

„Я думаю, піша Бакунін далей, што ўся Украіна, а так сама і Беларусь будуць самаістымі сябрамі агульна-славянскае сувязі. Я вымагаю толькі аднаго каб кождаму народу, кождаму малому і вялікаму племю былі дадзены магчымасьці і правы паступаць згодна ўласнай волі: жадае ён зьліцца з Расіяй ці з Польшчай — ніхай зьліваецца. Хоча быць самаістым: ніхай будзе гэткім. Урэшці, хоча ён зусім ад усіх аддзяліцца і жыць на варунках саўсім асобнае дзяржавы — Бог з ім, ніхай адзеляецца“.

„Бог з ім з вяліччам пятроўскім, кацярыненскім, мікалеўскім, прымусіўшым расійскі народ адыгрываць ганебную ролю ката і разам раба-мучаніка. Мы шукалі сілы і славы, а знайшлі толькі безслаўе, заслужылі ненавісьць і праклячьця замардаваных намі народаў. Дзякуй Богу, нашая двохвяковая турма, пятроўская дзяржава, ўрэшце, валіцца. Мы-ж самі падапхнем яе ў бяздоньне. І воля нам; воля героічнай Польшчы, воля Беларусі, Літве, Украіне, воля Фінляндыі, воля Чухонцам і Латышам у Остзэйскіх правінцыях“!

Надзвычайная шчырасьць і сьветлая вольнасьць духа Бакуніна запаляла маладыя сэрцы і ня дзіва, што захапіўся ім і Каліноўскі.

У 1862 гаду Каліноўскі пераяжджае з Пецярбурга ў Вільню, дзе яго прыймаюць у лік сяброў Літоўскага паўстанчага камітэту. У той час гэты камітэт складаўся з чатырох асоб—капітана генеральнага штабу Зьвірждоўскага, двох быўшых афіцэраў расійскае арміі—Малахоўскага і Вэрыгі ды доктара Длускага. Каліноўскі ўвайшоў пятым поўнапраўным сябрам. Пасьля прыезду Каліноўскага камітэт паступова пачынае рабіць нахіл у бок рэвалюцыйна-дэмакратычных пляноў у процілегласьць плянам Цэнтральнага Варшаўскага паўстанчага камітэту, ў якім партыя арыстакратычна-шляхоцкага напрамку з ідэямі буржуазна-імпэрыялістычнымі ўзмацнялася што час то болей. Пад уплыў Каліноўскага падпадаюць усе сябры Літоўскага камітэту, апрача Зьвірждоўскага, які ўважна сачыў за ўзмацаваньнем новага кірунку ў Варшаўскім камітэце і, каб дагадзіць апошняму, воража ставіўся да чырвоных пляноў Каліноўскага. Але Каліноўскі цьвёрда пераконаны ў справядлівасьці сваіх пляноў энергічна і рашуча бараніў іх на паседжаньнях камітэту, дамагаючыся прыняцьця іх ва ўсей шырыні.

Прыехаўшы ў родны край, Каліноўскі пачынае на мейсцы знаёміцца з настроямі і жаданьнямі сялянскіх мас: ён ходзіць па беларускіх вёсках і корчмах, агітуючы за паўстаньне і адначасна прыглядаючыся і прыслухаючыся да таго чым жыве народ. Трэба думаць, што Каліноўскі не мінаў і панскіх двароў—на якія ў сэнсе паўстаньня пакладаў галоўную надзею Варшаўскі камітэт і ў якіх можна было пачуць шляхоцкія пагляды на справу ладжанага паўстаньня. Ходзячы і агітуючы сярод селян і стыкаючыся з поглядамі паноў, Каліноўскі зразумеў,

што паўстаньне толькі тады будзе мець удачу і моц, калі падыймецца селянства, калі возьмецца за зброю беларус-земляроб. Зразумеў, што ёсьць адзіны толькі спосаб загітаваць і падняць селян—гэта неадкладна зараз-жа раздаць ім усю зямельную ўласнасьць і жывасілам выпхнуць з абшараў Беларусі вяліказямельную польскую шляхту. Каліноўскі адразу зразумеў, (што потым і спраўдзілася), што мейсцовыя паны-земляўласьнікі калі і прыймуць удзел у паўстаньні, дык вельмі неахвотна, а некаторыя толькі пад прымусам і пагрозаю з боку цэнтральных арганізацый, і што гэты удзел будзе не далей першай няўдачы. Дзеля гэтага ён, вымагаў, каб паўстанчаая арганізацыя на мейсцох складалася не з паноў-земleўласьнікаў, а ласьне са здольных і сьмелых селян і беднай дробнай шляхты. Каліноўскі нават адшукаў сярод селян і беднай шляхты адпаведных асоб, каторых прапанаваў паставіць кіраваць паўстанцкім рухам і якія-б запраўды паднялі за сабою просты народ і прымусілі ўсіх паноў хоць-нехаць зямлю аддаць.

Намечаючы такі плян паўстанцкае працы і такіх выканаўцаў, Каліноўскі жадаў дасягнуць дзьвех мэтаў: Першае—яму хацелася паставіць перад вачыма беларускага селянства, як у сьвятле пражэктара, яго клясавага і нацыанальнага ворага, каб у самым працэсі паўстаньня, кіраванага мужыцкай рукой пад лёзунгам „усю зямлю і ўсю волю“—сялянства з імі немінуча стрэнулася; другою мэтаю Каліноўскага было—шляхам поўнага падзелу ўсяе зямлі паміж сялянамі аслабіць сярод іх ўражэньне расійскае аграрнае рэформы 19 лютага і гэтым падняць дух дзеля змаганьня з маскоўскім чужацкім гнётам.

Побач з зямельным пытаньнем у праграме Каліноўскага стаяла пытаньне ня меншае вагі дзеля ўдачы паўстаньня—пытаньне нацыанальнае. Сама лёгіка падсказывала, што-беларускае селянства магчыма ўцягнуць у аружнае паўстаньне толькі цьвёрда усьвядоміўшы, што барацьба йдзе не за польскую справу, але за беларускую, што селянін бярэцца за аружжа не для таго, каб адбудоўваць старую рэч Паспалітую, але каб сілаю ўзяць зямлю і волю для **б е л а р у с к а г а н а р о д у**.

На гэтым пункце пачаліся сурёзныя спрэчкі Каліноўскага з Варшаўскім камітэтам. Заместа выбыўшага з Літоўскага камітэту кап. Зьвірждоўскага назначан быў з Варшавы новы сябра—Дюлоран, заўзяты прыхільнік варшаўскіх плянаў. Гэты Дюлоран падаў вестку ў Варшаву, што Літоўскі камітэт пад уплывам Каліноўскага, апрача працы па падгатоўцы паўстаньня займаецца яшчэ агітацыяй і дзейнасьцю на карысьць нацыанальнай аўтаноміі Беларусі і Літвы і падбухторуе сялян проці паноў-земляўласьнікаў. Данос Дюлорана спалохаў Варшаўскі камітэт і ен пастанавіў параліжаваць небасьпечную працу Літоўскага камітэту: без паведамленьня і згоды апошняга ён назначае ва ўсе беларускія паветы сваіх агентаў дзеля збору грошы на справу паўстаньня ўводзячы такім чынам на гэту тэрыторыю сваіх людзей, зьвязаных беспасьрэдна з Варшавай. Калі Каліноўскі даведаўся аб гэтым ён на чарговым паседжаньні свайго камітэту выступіў з крытыкаю Варшаўскага камітэту і тут пачалася гарачая спрэчка з агентам апошняга—Дюлоранам, якога ў запале спрэчкі Каліноўскі сілаю выкінуў з салі паседжаньня.

Факт гэты выявіў варажасьць Літоўскага камітэту і ў асобнасьці Каліноўскага да Варшаўскага камітэту. Урэшці рэшт Каліноўскі адмаўляецца спаўняць загады з Варшавы, вымагаючы поўнай незалежнасьці ў чыннасьці на тэрыторыі Беларусі і Літвы.

У часе паўстаньня шляхоцка-рэакцыйныя групы польскіх дзеячоў зрабілі пераварот у Варшаўскім камітэце і ўсьлед за гэтым абвесьцілі небасьпечны „чырвоны“ Літоўскі камітэт распушчаным. Новы Літоўскі камітэт быў складзен з прыхільнікаў варшаўскіх рэакцыйных кірункаў. Цікава адзначыць, што ўсе сябры

Літ. К-ту прынялі моўчкі факт яго разгону і толькі адзін Каліноўскі напісаў з гэтай прычыны у Варшаву энэргічны пратэст.

І усёж-ткі ня гледзячы на гэты пратэст і на адкрытую варажасьць яго аўтара да палітыкі Варшаўскага камітэту, апошні назначае камісарам у Горадзенскую губэрню нікога іншага як таго-ж самага Каліноўскага, бачучы ў ім асобу вельмі энэргічную, здольную і карысную дзеля справы паўстаньня. Але Каліноўскі на гэтым не супакоіўся: ў патайку разам з другім сябрам Літоўскага камітэту першага складу—Малахоўскім ён працуе над плянам новага перавароту і захопленьня ў свае рукі кіраўніцтва ўсяго паўстаньня ў краю.

Варункі ходу паўстаньня спрыялі таёмнаму пляну Каліноўскага. Паўстанцкія аддзелы, кіраваныя доводцамі па загаду з Варшавы ня мелі ўдачы, паны-земляўласьнікі спалохаліся першых неўдач і пачалі ўхіляцца ад грашовай і іншай актыўнай дапамогі паўстанцам, а новы Літоўскі камітэт не надта спагадаў адважным выступленьням дробных атрадаў Каліноўскага і пачаў спыняць іх, каб гэтым аслабіць ўзмацненьне яго арганізацыі. Такім чынам атрымлівалася дэзорганізацыя паўстанчага руху, што давала магчымасьць расійскім войскам разьбіваць і ліквідаваць паасобныя паўстанцкія группы.

Неўдачы консэрватыўнай польскай партыі „белых“ узмацнялі становішча рэвалюцыйнай партыі „чырвоных“ і гэтым самым узрастала значэньне арганізацыі Каліноўскага. Уплыў апошняга яшчэ болей пасунўся наперад, калі галоўная надзея Варшаўскага камітэту—шматлічэбнае паўстанцкае войска пад камандаю вайсковага даводцы Літвы і Беларусі—Серакоўскага была разьбіта і сам Серакоўскі папаў у палон.

Каліноўскі ня гледзячы на гэту ўдачу расійскіх войск яшчэ больш энергічна павёў паўстанцкую арганізацыйную працу і дабіўся таго, што праз кароткі час на тэрыторыі Беларусі ўлада апыўлася ў яго руках.

Расійскі урад, убачыўшы што паўстаньне не спыняецца, а ўзмацняецца, пускаючы карэньні ў гушчу сялянства, назначае дзеля хутчэйшай ліквідацыі паўстаньня генерала Мураўева, дае яму самыя шырокія паўнамоцтвы і пасылае ў Вільню. Зараз жа па прыезьдзе на мейсца Мураўёў абвешчае інструкцыю па справе ліквідацыі паўстаньня, ў якой увесь цяжар адказу за паўстаньне ўскладаўся на паноў-земляўласьнікаў. Гэта адразу адпужала ўсю заможную шляхту ад актыўнай дапамогі паўстанцам. Пачаўшыяся ўсьлед за інструкцыяй, па загаду Мураўева сэквэстры маёнткаў і асабліва сьмертныя кары нагэтулькі напалохалі Варшаўскі камітэт што ён рашыў часова разпусьціць арганізацыі, ліквідаваць атрады, схаваць аружжа—адным словам замясьці ўсе сьляды і чакаць пакуль эўрапэйскія дзяржавы не падтрымаюць Польшчу ў яе дамаганьнях.

Падасьпеў і новы ўдар: амаль усе сябры Літоўскага камітэту арэштоўвуюцца і кідаюцца у цытадэлю.

Гэтым момантам і карыстаецца Каліноўскі. Уласным загадам ен арганізуе новы Літоўскі камітэт і каб вызваліцца з падпарадкаваньня Варшаўскаму камітэту, абвяшчае сябе дыктатарам Літвы і Беларусі, як незалежнай дзяржаўнай адзінкі. Насьпех зложаны новы ўрад, з Каліноўскім на чале пачынае гарачую працу, каб падтрымаць паўстанцкі рух, пашырыць яго і вясьці барацьбу далей, ня гледзячы ні на якія перашкоды, не зьвертаючы ўвагі на паніку Варшаўскага камітэту.

Але пара спрыяючая паўстаньню ўжо прамінала. Агенты расійскага ўраду пачалі сьцеклую агітацыю сярод беларускіх і літоўскіх селян, што нібы паўстаньне

робіцца польскімі панамі дзеля таго, каб умацаваць свой панскі прыгон над беларускай і літоўскай вёскай. Адначасна з гэтым па загаду Мураўёва, паўсюды была арганізавана так званая „сельская стража“—складзеная толькі з адных селян, каторыя прымушаліся сачыць і лавіць паўстанцаў, або даводзіць да ведама начальства дзе знаходзяцца паўстанцкія атрады, а такжа асобы дапамагаючыя і спрыяючыя паўстаньню.

Каліноўскі, які ласьне хацеў уцягнуць селян у паўстанцкі рух, які ласьне на селян паклаДаў найвялікшыя надзеі і які добра ведаў настрой і жаданьня селянскае масы, даведаўшыся аб арганізацыі „селянскае стражы“ адразу пачуў у ей сьмяротную небасьпеку для справы і пачаў рабіць пасьпешныя контр-захады, каб утрымаць селян ад службы ненавіднаму расійскаму ўраду. Праз кароткі час Каліноўскі ўбачыў, што селяне нацкаваныя на паноў вельмі ахвотна памагаюць расійскім войскам тлуміць паўстаньне, а з другога боку мейсцовыя паны-шляхта, каб уратаваць сваю скуру і ассабліва свае маёнткі, адракаюцца ад паўстаньня і і пачынаюць навет сабіраць подпісы для „всеподданейшаго адрэсу“.

Астаўся адзіны спосаб падтрымаць паўстанцкі дух — бязьлітасны тэрор да ўсіх трусоў і здраднікаў. Урад Каліноўскага не застанавіўся перад гэтым спосабам і першым актам гэтага тэрору быў напад на старшыню віленскай шляхты Домэйко, які зьбіраў подпісы і сам падпісаўся пад „чэлабітнаю“ расійскаму цару. Гэта паслужыла таму, што загады мураўёўскай улады былі падтрыманы панамі дзеля чаго хутка была разкрыта цэнтральная конспірацыйная арганізацыя Каліноўскага. Сам ён здолеў схавацца, але большая частка сяброў былі злоўлены і павешаны. Застаўшыя жывымі паўцекалі з Вільні заграніцу. Арганізацыя, пабудаваная надзвычайнымі высілкамі, — разпалася. Не пакінуў Вільні толькі адзін Каліноўскі, адзін ён аставаўся цьвёрдым і непахібным. 26 жніўня 1863 г. Мураўеў выдае загад, на якому кожды схвачаны з аружжам у руках прысуждаецца на мейсцы на сьмерць у 24 гадзіны, а ўсім самахоць зьявіўшымся да начальства і прынёсшым аружжа давалося выбачаньне. Гэты загад уплываў на маладушных і многа паўстанцаў прыходзілі да начальства — каяцца. Упадак духа ў паўстанцкіх аддзелах, хаваўшыхся па лясох, пачаў шырыцца з прыходам сьцюжы. Нестача цёплай адзежы і стравы, жыцьцё па лясох сярод сьнегу і марозу зьменшалі лік байцоў і адыймалі надзею на добры вынік.

Мацней за другіх трымаліся паўстанцкія атрады па лясох Ковенскай і Менскай губэрній. У першай — камандаваў паўстанцамі энэргічны і адважны ксендз Мацкевіч, які вельмі спрытна веў партызанцкую вайну і да кастрычніка 63 году ўпарта бараніўся ад акружыўшых яго атрад расійскіх войск. Нешчасьліве здарэньне загубіла справу Мацкевіча: расійскі конны раз‘езд выпадкова знайшоу яго сьпячым у лесе і прывеў у Коуну, дзе яго павесілі.

У Менскай губэрні, дзе аддзеламі паўстанцаў кіраваў Сьвентаржэцкі, доўгі час яшчэ, то тут то там, ўспыхалі паўстаньня, але пасьля уцечкі Сьвентаржэцкага заграніцу, нібы настаў супакой у цэлым краю.

Каліноўскі, з надзвычайнымі труднасьцямі хаваючыся у Вільніі усе-ж такі прадаўжае няўпынную і няўтомную конспірацыйную працу: Нанова арганізуе контакт з паасобнымі атрадамі, знайходзіць здольных і верных людзей, прыймае ганцоў, гарачымі адозвамі і срогімі загадамі падтрымлівае падаючы дух паўстанцаў, просячы іх пратрымацца толькі да цёплай вясны, калі лічба партызанаў ізноў павялічыцца, калі лягчэй можна будзе хаваць сьляды і лягчэй пераносіць ціжары паходнага жыцьця. Увесь час зьмяняючы фаміліі, пашпарты, адзяючыся у рожныя вопраткі ўключна да жаночых, энэргічна і ўмела працуючы дзеля пад-

трыманьня і пашырэньня паўстанцкага руху, Каліноўскі к канцу 1863 году даў адчуць Мураўёву і яго агентам, што пры ўсім зьнешным спакою, на Беларусі і Літве кіпіць падземная рэвалюцыйная праца, кіраваньня спрытнай і моцнай рукой.

Чыннасьць Каліноўскага спалохала Мураўёва і ён, думаючы, што цэнтр арганізацыі знаходзіцца ў Менскай губэрні, высылае туды спэцыальную камісыю на чале з палкоўнікам Лосевым. Дзякуючы працы гэтае камісыі ўрэшце была выкрыта ўся Менская рэвалюцыйна-паўстанцкая арганізацыя. Большая частка арыштаваных паноў шчыра прызналася ў прыналежнасьці да арганізацыі Каліноўскага, а адзін польскі шляхціц, які стаяў бліжэй за ўсіх да К. К. пасьля посулаў палк. Лосева выпрасіць яму памілаваньне і магчымасьць выехаць у цэнтральныя расійскія губэрні, выдаў местазнаходжаньне „небасьпечнага дыктатара“.

Адзін з галоўных супрацоўнікаў ген. Мураўёва, ачавідзец арэшту Каліноўскага, так апісвае арэшт:

„Шыфраваная тэлеграма з паведамленьнем аб гэтым (дзе знаходзіцца Каліноўскі) была атрымана ў Вільні а 9 гадзіне вечара, ў ей былі апісаны прыкметы Каліноўскага і сказана, што ён жыве па фальшываму пашпарту гарадзенскага шляхціца Вітальда Вітожэнца у Сьвята-Янскіх мурох. Гэтае апошняе паказаньне было крыху неясным, бо пад гэтаю назоваю разумеўся ўвесь будынак, які калісьці належаў касьцелу св. Яна, цягнуўся амаль што ня цэлы квартал і выходзіў адным бокам да палацу. У вялізарных будынках, каторыя належалі перш калегіі езуітаў, а потым унівэрсытэту, у той час знаходзіліся: гімназія, музэй старасьветчыны, цэнтральны архіў, абсэрваторыя, шмат кватэр для служачых і нават здаваліся прыватныя кватэры.

Зьмест тэлэграмы захоўваўся ў найглыбейшай тайне. Паліцмэйстару даручана было асабіста зрабіць спраўку ў кнігах (толькі што прыведзеных з прычыны новага году да парадку) аб акуратным адрэсе Вітожэнца і, як заўсёды здараецца пры пасьпешнасьці, імя яго прамінулася пры разгледжаньні кнігі, хоць і было ў яе запісана. Вымушаны былі зрабіць вялікі обыск і акружыць увесь св.-Янскі квартал, дзеля чаго прысланы дзьве роты салдат, падзеляныя на 10 партый, кождая пры афіцэры паліцыі і асобых чыноўніках. Імя асобы, якую належала арэштаваць было абвешчана ім толькі ноччу, перад самым обыскам.

Каліноўскі жыў ужо другі месяц на кватэры вучыцеля гімназыі, выехаўшага кудысь у правінцыю. Яго засталі на сходах са сьвечкаю ў руцэ і калі запыталі фамілію, ён самапэўна адказаў: „Вітожэнц“—і ў тую-ж хвіліну быў схвачан.

„Раннай раніцай, ня гледзячы на тайну, якою ўсё гэта было абстаўлена, жыды ўжо паўсюды разьнясьлі вестку аб тым, што арэштаваны „галоўны начальнік жонду“, хоць яшчэ ня ведама было, ці запраўды арыштаваны зьўляецца Каліноўскім“. [1]) Справа Каліноўскага была даручана спэцыяльнай „домініканскай камісіі“ і сам Мураўёў нагэтулькі цікавіўся ходам сьледзтва, што ўвесь час пасылаў у камісыю сваіх чыноўнікаў, якія пасьля асабіста дакладалі яму аб ходзе справы.

„Першы дзень, піша супрацоўнік Мураўёва-Масолов, Каліноўскі толькі кусаў сабе вусны і неахвотна адказваў на патаньня, але пад вечар ня вытрымаў і сказаў свае запраўднае імя. Ня гледзячы на ўсе высілкі сяброў камісіі, ім не ўдалося вырваць ад Каліноўскага дэтальных даных аб асобах, складаючых рэвалюцыйную арганізацыю краю. Ён, аднак, прызнаўся, што стаяў на чале ураду ўсяго краю, і як відаць з паказаньяў іншых асоб, умеў падрымаць падаючый рэвалюцыйны дух...

---

[1]) А. И. Масолов: „Виленскіе очерки 1863—1865 (Муравьевское время)“.

Дзейнасьць Каліноўскага не абмежвалася барацьбой толькі аружнай. Дыктатар Літвы і Беларусі ведаў сілу друкаванага слова і пры тым слова народнага, ведаў сілу народнай асьветы. За кароткі час, што Каліноўскі знаходзіўся на Беларусі,—ён арганізаваў патаемныя беларускія школы, стварыў у Беластоку конспірацыйную беларускую друкарню, дзе друкаваліся адозвы да беларускіх селян і адкуль выйшла некалькі нумароў (6—7) беларускай газэты—„Мужыцкая праўда“. У гэтай газэце Каліноўскі зьмешчаў свае артыкулы пад псэўданімам—„Яська гаспадар з-пад Вільні“.

Да нашага часу захаваўся зьмест двох пісем Каліноўскага, каторыя ён напісаў у турме за некалькі дзён да разстрэлу. У пісьмах сваіх ён прашчаецца са сваей горача каханай бацькаўшчынай і сваім народам, за вызваленьне і шчасьце каторых ён прынёс у ахвяру сваё маладое жыцьцё.

Вось зьмест гэты пісём: [2])

1. „Беларуская зямелька, галубка мая! Гдзеж-ся падзела шчасьце і доля Твая? Усе прайшло, прайшло, як-бы не бывала, адно страшэнна горыч у грудзёх застала. Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці, дый у правечнага суду вялеў прападаці — то мы прападзем марна, а праўды ня кінем, хутчэй Неба і шчасьце, як праўду абмінем! Не наракай, Народзе, на сваю бяздолю, а прыймі цяжкую кару — Правечнага волю. А калі мяне успомніш, шчыра памаліся, то я з таго сьвету Табе адзавуся. Бывай здаровы, даражэнькі Народзе!! Жыві ў шчасьці, жыві у свабодзе і часам спамяны пра „Яську“ Твайго. А калі слова пяройдзе у дзела, тады да бітвы станавіся сьмела, бо адно з праудай у грамадзе згодна дажджэшся, Народзе, старасьці свабоднай!“

2. „Беларусы, браты мае родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаці і можа раз астатні! Горка пакінуць зямельку родную і Цябе дарагі мой Народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але не жаль зьгінуць за Тваю праўду!

Прыймі, Народзе, па шчырасьці мае слова прадсьмертнае, бо яно як бы з таго сьвету толькі для дабра Твайго напісана.

Німаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тагды толькі памаліўшыся Богу, заслужыць Неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзіва ня йдзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна у нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, багацьця, і ніякай навукі, адно намі як скацінай варачаць будуць не для дабра, адно на пагібель нашу... Ваюй, Народзе, за свае чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную. Бо я Табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над Табой маскаля ўжо ня будзе!“

Да Каліноўскага, сядзеўшага ў турме і чакаўшага сьмертнага засуду, прыходзілі некаторыя з найбольш прыбліжонных да Мураўёва асоб, каб падзівіцца на знаменітага дыктатара. Супрацоўнік Мураўёва — Масолаў, які адведываў Каліноўскага ў турме, так апісвае яго: „Каліноўскі быў гадоў 26, крэпкага складу, з абліччам чорствым і выразным, кароткія русыя валасы былі зачэсаны назад, гэткім я яго бачыў у турме за некалькі дзён да сьмерці“.

Настаў дзень казьні... Была ясная, холодная раніца. Каліноўскі йшоў на казьнь сьмела. Прышоўшы на Лукішскі пляц, ён стаў тварам да шыбеніцы і

---

[2]) Гл. „Наша Дума; № 5, 1920. Календар „Сваяк“ 1919 г. Galler „Historyja powstania“ 1863 г.

толькі часамі кідаў погляд ў далёкі натоўп. Калі яму чыталі конфірмацыю, ён пачаў было рабіць увагі; так, напрыклад, калі назвалі яго імя: „шляхціц Кастантын Каліноўскі“, ён крыкнуў: „у нас німа шляхты, — ўсе роўныя!“... Паліцмэйстар паківаў яму галавой і прасіў замаўчаць“...

Сьмертная кара цераз павешаньне адбылася над Кастантынам Каліноўскім 7 красавіка 1864 году ў м. Вільні.

*Іван Трызна.*

---

## З РАБІНДРАНАТА ТАГОРЫ.

* *

У крывава-чырвоных хмарах Захаду, ў завірусе ненавісьці—гасьне апошняе сонца сталецьця.
Ахопленае бязмежнай прагавітасьцю, безсаромнае сябелюбства Нацый.
Скача свой бязглузды, пьяны танец пад гудзьбу бразгаючых мячаў, пад завываючую песьню помсты.

* *

Разпаленае шалёнай злосьцю, прагавітае цела Нацыі трэсьне ад нястрыманага лютажэрства,
Бо сьвет цэлы імкнецца зьмяніць ў сваю страву.
І аблізваючы, жвучы, сквапна глытаючы вялізарныя кавалкі,
Яна ўсё больш і больш набракае,
Пакуль няўспадзеў паўшы прамень нябеснага агня
Не абарве ганебнага йгрышча, пранізаўшы яе жорсткае сэрца.

* *

Барвісты водсьвет на на небасхіле, гэта ня золак твайго супакою, о, мая Бацькаушчына!
Гэта полымя кіпежы, на якой гарыць і ператвараецца ў попел
Вялічэзны труп сябелюбства Нацыі, загінўшай ад ўласнай памаўзьлівасьці.

* *

О, братэ мае! Не стыдайцеся стануць перад гордымі й сільнымі ў белых вопратках вашай прастаты. Ніхай вянком вашым будзе пакута, а свабодаю-свабода душы вашай.
На аголеных палёх жабрацтва штодзенна будуйце трон Бога Вашага.
І ведайце: аграмаднае яшчэ ня знача—добрае і цэннае, а пыха-недоўгавечна.

*Пер. І. Ц.*

---

# Пагляд П. Безсонава на беларускую справу.

III.

Безсонаўская „Прадмова“ ў стасунку да беларускай справы важна перш за усё тым, што ў ей высьветляюцца амаль усе пытаньня беларускага жыцьця, — ў кождым разе найбольш пякучыя, — і даецца на гэтыя пытаньня магчыма акрэсьляны і шчыры адказ. Безсонов нічога ня замаўчывае і ні ў чым не прытвараецца. На усё ён адказвае, як кажуць „у прастаце душэўнай“.

Па другое, яна важна тым, што у ей мы знайходзім пагляд на беларускую справу асьвечанага, інтэлігэнтнага маскоўца 60 гадоў. Мы падкрэсьляем, ласьне, маскоўца, г. зн. чалавека прыехаўшага на Беларусь, а не расійскага інтэлігента выехаўшага з Беларусі, родам адтуль. Безсонаў родам не беларус і гэта шмат што тлумачыць у яго поглядах на беларускую справу і шмат у чым яго апраўдывае. Паходжэньне Безсонава апраўдывае яго у пытаньнях беларускай літэратурнай мовы, а ў пытаньнях палітычнага характару выгадна адрожнівае яго ад тых вучоных, публіцыстаў і проста дзеячоў, якія былі родам з Беларусі і для каторых беларуская справа павінна была-б быць роднай справай.

Усе беларусы-расійцы таго часу, як прыкл. Міх. Каяловіч, Турцэвіч і інш. (пазьней, Сьнітко, Раманаў, Саланевіч) уяўлялі сабой большай часткай ласьне „западно-русских людей“, аб якіх гіранічна гаварыў Безсонаў. „Беларусафільства“, гэтых дзеячоў аб, якім яны заяўлялі, выклікалася ня столькі іх пераконаньнямі у беларускім пытаньню, сколькі іх антыпольскім настроем. Яны разглядалі сваё „беларусафільства“ як рэакцыю полёнізму і глядзелі на Беларусь вачамі актыўных русыфікатараў. Дзеля гэтага німа чаго дзівіцца Безсонаву у яго прароцтвах аб беларускай мове, калі такі паважны „беларускі“ вучоны, як Баброўскі, прапаведваў, што „расійскія школы на Беларусі больш патрэбны чым у самой Расіі“. *)

---

[1]) У сваіх разважаньнях аб беларускай мове, яе значэньні і будучыне, Безсонаў не дае нам нічога новага. Ён паўтарыў у 1871 г. у сваей Прадмове і прытасаваў да Беларусі тую тэорыю, якую у 60 гадох шэраг вучоных праектаваў у стасунку да Украіны. Вось што пісаў аб украінскай мове і украінскай літэратуры вядомы славіст В. Ламанскі:

„Прызнаемся, думка аб магчымасьці асобнае малорускае літэратуры (а не месцовай славеснасьці) уяўляецца нам надзвычайнай нісянеціцай. Гэтая літэратура магчыма ў варунках самых немагчымых Так, напрыклад, трэба пераканаць усіх думаючых малоросіян у яе патрэбнасьці, трэба забыцца ужываньня расійскае мовы, перастаць чытаць расійскія кнігі, трэба выхаваць цэлыя пакаленьня малоросіян у няведаньню расійскае мовы і літэратуры. Бяз гэтых варункаў украінская літэратура немагчыма. Але калі немагчыма самаістая літэратура малоруская, дык магчыма і карысна літэратурнае апрацаваньне нарэчча малоросійскага побач з агульна расійскай мовай, асобная малоросійская славеснасьць, побач з расійскай літэратурай, з расійскай навукай і асьвечаннасьцю“. Пры гэтым рэдакцыя, дзе артыкул быў надрукаваны, дабавіла: „для домашняго обихода“ („День“, 1861 г. № 21. Аб тым жа і у падобных словах пісаў Хомяков у „Русской Бесѣдѣ“). Рэдакцыя „Дня“ у перадавіцы № 20 за 1682 г. пісала: „мы ня думаем, каб развіцьцё малорускай народнай літэратуры калі-небудзь раздвоіла р у с к у ю літэратурную мову, — мову асьвечаннага грамадзянства“. У стасунку да Беларусі тая-ж рэдакцыя пісала: „трэба каб селянін разумеў гасудараў указ і внушэньня расійскай улады зусім выразіста, бяз непаразуменьняў, трэба, каб адчуў сябе зусім рускім, а для таго ён павінен адчуць сябе перш за ўсё беларусам: разам выляпіць з яго вялікарускага мужыка немагчыма, ды і німа патрэбы. Мы лічым, дзеля гэтага, што было-б надзвычайна карысным выкладаць першапачатковыя назпаньня і сэнс урадовых загадаў беларускаму ссляніну на беларускай мове, навучаць чытаць і пісаць яго па-беларуску, а пасьля безварункова па-расійску і царкоўна-славянску (1863, № 25). Дзякуючы падобным думкам у беларускіх гуртках Пецярбурга і ў самым краю думалі аб выданьню беларускай газэты, аб выданьню падручнікаў для школ на беларускай мове і г. д. Скончылася усё гэта толькі тым, што у 1863 г. у Вільні Управленіем Виленскаго Учебнаго Округа была надрукавана кніга: „Разсказы на уростонародном нарѣчіи“ і некалькі стацей на беларускай мове у „Книгѣ для чтенія в народных пчилищах Виленскаго Учебнаго Округа“.

Ці далёка адыйшла акружаючая нас сучаснасьць ад цьверджань П. Безсонава?

Можна думаць, што не. Пытаньня, закранутыя ім у Прадмове, да сяго часу належаць да адмены тых, што выклікаюць найбольш гарачыя супярэчкі і служаць прычынай найбольш варожых адносін да беларускага адраджэньня. Але усё-ж такі пэўныя крокі наперад можна заўважыць. Застановімся над пытаньнем аб мове.

Пяцьдзесят гадоў таму назад П. Безсонов заклінаў усіх і ўся, што „пісьменнасьць беларуская памерла і не мае прад сабой ніякай будучыны.“ А ў 1920 годзе проф. лінгвіст Бодуэн-дэ-Куртэнэ пісаў, што „за беларускай літэратурнай мовай ён вызнае ўсе правы на істнаваньне і развіцьцё, як за ўсякай іншай літэратурнай мовай“. Праўда, паважаны лінгвіст дадае пры гэтым, што ён асабіста мала верыць, каб беларуская літэратурная мова ўтрымалася побач з мовай расійскай; але гэта ўжо дзедзіна яго асабістай веры і яго асабістых гаданьняў. Даволі і таго, што ён „жадае беларускім патрыотам уселякага посьпеху на ніве адраджэньня мовы“. Ад чужака нам большага ня трэба. Бо, па нашаму разуменьню, вызнаньне „права“ мовы на жыцьцё, — калі толькі яно вызнаецца шчыра і не пярэчыць адпаведнай палітыцы — творыць рашачую палову ўсяго пытаньня. Пастараемся разтлумачыць нашую думку.

Калі П. Безсонов цьвердзіць, што „беларускай літэратуры ня можа быць“, дык за гэтымі словамі мы чуем зусім ясны імпэратыў: „беларускай мовы быць не павінна“. Пераконаньне ў безварунковай праўдзівасьці сваіх цьверджань у такіх выпадках звычайна выклікае актывізм, пераходзячый у варажасьць і барацьбу супроць іншых пераконаньняў. Прыклады таму бывалі: каталіцтва да часу протэстантызму, як і паганства да часу хрысьціянства — былі нагэтулькі пераконаны ў правільнасьці свайго веравучэньня, што спалялі на грудох усіх іначымысьлячых. Калі-ж ў душу іх жрэцоў закралася зьнявера, калі яны ўбачылі, што адступнікаў іх веры ня бье пярун, што вераадступнікі могуць жыць спакойна і без пакланеньня закону — фанатычная думка страціла сваю гастрыню — і гэта была першая азнака перамогі новай веры. Тое-ж бывае з псэўдонавучнымі цьверджаньнямі. Сумніў ёсьць вынік развагі, ёсьць вынік безстароннага досьледу. Чым пытаньне сур'ёзней, глыбей і неакрэсьляней, тым больш асьцярожна і крытычна ставіцца да яго навучная мысьль, баючыся трапіць у абсурд.

Пытаньне мовы, як было зазначана вышэй, асабліва тых магчымасьцяў, якія зьвязаны з яе развіцьцём, належыць да найбольш неакрэсьляных пытаньняў навукі. І таму ўселякае безгранічнае цьверджаньне, ўселякае „так“, ці „не“ — сустрэчаецца з боку вучоных вельмі рэдка. Асьцярожнасьць у цьверджаньнях тут можна сьмела прызнаць за азнаку сур'ёзнасьці.

Таму за словамі Бодуэн-дэ-Куртэнэ мы ня чуем імпэратыва: „быць не павінна“. Вызнаючы „права“ беларускай мовы на будучыну, хоць і сумневаючыся ў ей, ён пакідае беларускай мове магчымасьць паказаць у жыцьці, ці здольна яна зьдзейсьніць ускладаныя на яе надзеі і дайсьці да вымаганай вышыні, — ці не. Справа, гэт. чын. апіраецца толькі аб саму мову: ў поўнай свабодзе, без уселякага уціску развівацца і ў сваім развіцьці зьдзейсьніць надзеі, якія на яе ускладаюцца яе патрыотамі.

Адсюль пытаньне аб мове безпасярэдна зьвязваецца з пытаньнем аб школе. У Прадмове П. Безсонава аб школе німа ні воднага слова. Для аўтара німа пытаньня аб тым, якая школа павінна быць на Беларусі: беларуская ці расійская. Школа па яго думцы магчыма толькі расійская, бо выхоўваць мову, прад якой закрыта будучына і якая наперад вызнана нежыцьцёвай — рэч па

меншай меры нелёгічная. Школа паводле Бодуэн-дэ-Куртэнэ *можа быць* беларускай. Як бачым, рожніца паміж аднэй і другой пастаноўкай вельмі значная. Яшчэ большай яна будзе ў выніках.

У першым здарэньні прад беларускай нацыанальнай стыхіяй наагул зачыняюцца дзьверы: свабодна развіваючыся ў варунках вёскі і безпісьменнасьці, яна прымушана спыніць свае развіцьцё сохнуць і паміраць, як толькі выйдзе з сяла, як толькі захоча прыняць культурныя формы. Бо толькі школа даводзіць вясковую, народную культуру да дасканаласьці, да тае ступені, адкуль ідзе вольны шлях да вышэйшага літэратурнага выяўленьня яе. Калі ёсьць нацыональная школа, тагды прад „народным словам“ ёсьць будучына; калі яе німа—німа і будучыны, і нацыанальная стыхія засуджана на павольную сьмерць. Да слоў Бурачка— „трымайцеся мовы нашай беларускай, каб ня ўмерці“, трэба сёньня дадаць: „трымайцеся школы вашай нацыональнай, каб мець будучыну“.

Безсонаў глыбока мыліцца, калі кажа, што пры адсутнасьці беларускай літэратуры,—народная стыхія і яе праява—вусменная народная творчасьць, будуць істнаваць і развівацца далей. Такі парадак магчымы быў бы ў нашыя часы, толькі пры тым варунку, калі былі-б пазачыняны ўсе без вынятку школы і мы наагул вярнуліся ў варункі XII ст. Бо нават для таго, каб на Беларусі ўзьнікла расійская літэратура ў безсонаўскім разуменьню (беларускі Гоголь)—трэба, каб была школа. Школа зразумела расійская. А калі так, дык праз 50, а то і менш гадоў, пры абавязковасьці агульнага навучаньня і пры сучаснай тэхніцы народнай асьветы, на беларускай мове калі-б і гутарылі, дык толькі старыя бабы ды вучоныя этнографы. Мы і цяпер бачым, як далёка пайшла русыфікацыя нашай вёскі і як упала ў ёй пад уплывам русыфікацыі народная песьнятворчасьць. Заўважыў і жаліўся на гэта Раманаў, жаліўся раней і сам Безсонов Пры гэтых варунках зрабіць так, каб „за апошнім словам беларускім у хаце, выляцела першае слова расійскае ў школе“—рэч безнадзейная. Як немагчыма натуралізацыя расійскай літэратуры на Беларусі, так сама немагчыма ўзьнікненьне на беларускай ніве расійскай літэратуры. Пры чым, па нашай думцы, хутчэй магчыма першае, чым другое. Дзьве культуры на грунце двох нацыанальных стыхій ня могуць паўзьбежна істнаваць, калі адна мае магчымасьць развіцьця, а другая не. Вынік будзе — як і быў да сяго часу — той, што тая культура, якая ў форме школы мае засабы для развіцьця, забівае ў літэральным сэнсе тую, якая падобнага засабу не мае. У гэтым, ласьне, ляжыць сумная абмылка П. Безсонава, які так любіў Беларусь, беларускую нацыанальную стыхію, які жадаў ей як найлепшага розквіту і ў той самы час адмаўляў ей у адпаведным забаспечаньні.

„Дазваленьне“, даванае беларускай мове навейшымі праграмамі, „дапушчэньне“ яе ў школу ёсьць у пэўным разуменьні ня толькі ўступка духу часу, але поўная капітуляцыя акадэмічнай думкі перад жывым жыцьцём. Бо што фактычна знача падобнае „дапушчэньне“, як не ігольнае вушко, праз якое лёгка працягаецца ўвесь вярблюд т. зв. „ўсерусызма“? Калі „дапусьціць“ беларускую мову ў народную школу, дык чаму не „дапусьціць“ яе ў сярэднюю і вышэйшую школу? Калі навучыць дзіця па беларуску „А“, то чаму ня вучыць „Б“? Нестача падручнікаў і вучыцялёў таму прычынай? Знача гэта пытаньне часу, а ня прынцыпу.

І мы адважаемся думаць, што калі праграмы, падобныя праграме Бодуэн-дэ-Куртэнэ прапануюцца не дзеля адводу вачэй і сумыснай маны, то яны абавязкова павінны прывесьці да лёгічнага канца: да прызнаньня ўсіх бяз выніку лёзунгаў беларускага адраджэньня, ўключна да права Беларусі на незалежнае дзяржаўнае істнаваньне.

Ясна, што на падобны шлях „дапушчэньняў“ П. Безсонов стаць ня мог,

бо гэта неўнікнёна прывяло-б да катастрофы ўсяго яго сьветапагляду. На гэты шлях можа стаць сучасны вучоны, да таго яшчэ ў „акадэмічнай плашчыне“, г. зн. далёка ад практыкі жыцьця. Практыка жыцьця, як ведама, рэдка калі кіруецца акадэмічнымі паглядамі. Так, напрыклад, калі у свой час Расійская Акадэмія Навук, пасьля доўгіх спрэчак, вырашыла, ўрэшці, што украінская мова такі „ёсьць“, — то-м на Украіне ў практыцы нічагусенькі не зьмянілася. Яшчэ горш можа здарыцца з мовай беларускай, якая шмат маладзейшая ад украінскай у сэнсе літэратурнага апрацаваньня і мае менш магчымасьцёў абараняць сябе ў плашчыне акадэмічных спрэчак. Дзеля таго, што падобныя спрэчкі звычайна мала што рашаюць — іх трэба кінуць. Барацьбу за мову і яе будучыну трэба перанесьці ў жыцьцё і вырашыць у жыцьці. Трэба даводзіць аргумэнтамі не ад розуму, але аргумэнтамі ад сэрца, зьвертаючыся з імі не да вучоных, а да народу. Так сама як за зямлю — трэба падняць народ на барацьбу за родную мову.

Сваім паглядам на беларускую справу ў дзедзіне культурнай Безсонов вельмі прыпамінае свайго антыпода Рыпінскага. Гэты этнограф так сама любіў Беларусь, але „як частку Польшчы“; так сама „перахоўваў каля сэрца яе песьні“, клікаў усіх адносіцца з пашанай да беларускага мужыка (кмётка) і г. д. Але заразам, так сама як Безсонов лічыў, што грамаце беларус павінен вучыцца па-польску, бо беларуская мова—мова простая, для літэратуры ня годная, што Беларусь павінна вярнуцца ў нетры Польшчы і беларускі народ павінен зьліцца з народам польскім, частку якога ён становіць. Як слушна зазначае Пыпін: — „ён з жарам гавора аб патрэбе дасьледаваньня народнасьці, чакае тут адкрыцьця нацыянальнай сьвятыні і заразам, фактычна, жадае ей шчэзнуць“. Ні Безсонов, ні Рыпінскі не заўважалі унутраннай супярэчнасьці сваіх думак.

Скажам цяпер некалькі слоў аб палітычнай старане пагляду Безсонава.

Па агульнаму характару разважаньняў аб палітычна-грамадзкіх пытаньнях П. Безсонава можна залічыць у лік так. зв. „лібэральных славянафілаў“ найбольш раньнага тыпу (Хомяков, бр. Кірееўскіе і інш.).

У сваіх філёзофскіх шуканьнях славянафільства пераходзіла часта ў дзедзіну чыстага містыцызму, карэньнямі сваймі сягаючы Візантыі і гістарычных асноў праваслаўя. У гэтым кірунку яно было разплывістым і туманным. Але ў практычнай дапасоўцы яно было даволі рэальным. Так, напрыклад, у палітыцы яно зазначылася ярка апазіцыйнымі настроямі супроць пецярбурскага цэнтралізму, супроць нацыянальнай нівілліроўкі, супроць сухога бюрократызму і чыноўніцтва, супроць усяго таго, што уяўляла народ і нацыянальнасьць, як нерухавую сілу, варожую навізьне, варожую сучаснай асьвечанай уладзе. Таму першыя славянафілы былі разам і першымі народнікамі, першымі этнографамі, першымі зьбірачамі народнага багацьця—народных твораў. Да ліку гэткіх людзей належаў П. Безсонов.

Думкі яго, вылажаныя намі ў папярэднім раздзеле сьведчаць, што ён быў цьвёрда сьвядом сваіх славянафільска-народніцкіх прынцыпаў, хоць ніколі не ўжываў іх пад уласнай назовай. Мінулае палітычнае Беларусі уяўляецца яму ў самых сьветлых барвах і ён творыць яму запраўдны апотэоз: беларуская песьня—жывая крыніца для будучай палітычнай працы; народная мова—аснова ўселякай нормальнай ўлады; „месцовы“ характар і кірунак дзяржаўнага жыцьця—выхад з агульнай хваравітасьці і забаспечаньне здаровага істнаваньня дзяржавы. Пецярбург і усё пецярбурскае аўтар ачавіста ня любіць і яго высьмеівае. Вочы яго і любоў яго скіравана на народ, на зямлю, на правінцыю, якой ён гатоў даць як мага больш, каб яна разьвівалася незалежна ад цэнтру, завязшага ў абмылках і грахох.

ншымі словамі, ў стасунку да Беларусі, ён праводзіць програму краёвага аўтанамізму. Разам з тым П. Безсонов старэнна падкрэсьляў, што ён далёк ад палітычнага сэпаратызму, ад прызываў Беларусі аддзяліцца ад Расіі. Ен жадаў толькі ўважлівых адносін да таго скарбу, які ўяўляе сабой месцовы патрыотызм, як вынік пашаны да ўсяго свайго, ўласнага, самаістага. Ен хацеў бачыць Беларусь не палітычным трупам, але жывой краінай; краем, які жыве для ўласных інтэрасаў у складзе расійскай дзяржавы. Ен пратэставаў толькі супроць трупехлага палітычнага формалізму, які душыў праявы месцовай энергіі, недаваў выхаду месцовай ініцыатыве. Ен імкнуўся прабудзіць цікавасьць да Беларусі, зьвярнуць патрэбную ўвагу на гэты палітычна забіты, жыцьцёва—зьневажаны край, хацеў „падняць“ Беларусь да таго пачэснага мейсца, якое прысуджано было яй мінулай гісторыяй.

* * *

Як ведама, думкам і імкненьням Безсонава ня суджана было зысьціцца. Яны былі сказаны не да часу. Сямідзесятыя гады зазначыліся ўжо прытным паваротам палітыкі расійскага ураду ў бок рэакцыі. „Освободительная эпоха“ мінала і на сцэну пачалі выходзіць рыцары чорнага стану. Лібэральная славянафільства, насіўшае ў сабе семя унутраннай супярэчнасьці ў форме аполёгіі консэрватызму, пачало выраджацца; больш актыўныя элемэнты яго, зьмяшаўшыся з „западничеством“ пайшлі ў рэвалюцыйнае народніцтва; больш пасыўныя, буржуазныя—пайшлі па лініі найменшага адпору і праз Каткова дакаціліся да Пабеданосцава.

Пытаньня, паднятыя Безсонавым, праз гэты доўгі пэрыод палітычнага зьмерку, былі грунтоўна зацёрты. Расійская цэнзура забараняла кранаць іх нават у самых аддалёных „эзопаўскіх“ формах. Небасьпечны былі нават намёкі на якую-б то ні было асобнасьць Паўночна-Заходняга Краю.

Падняць на нова пытаньне аб Беларусі, аб яе правох і будучыне—лёс судзіў толькі ў констытуцыйныя часы рэвалюцыі 1905 году.

*Др. А. Цьвікевіч.*

---

## З Беларуска-Літоўскай мінуўшчыны.

Беларускія землі ў пэрыод еднаньня іх з Літвой (XII ст.) вызначаліся незвычайна буйным развіцьцем дэмакратычнага ладу і агранічэньнем да мінімума княжага аўтарытэту. Запраўдным сувэрэнным гаспадаром зямлі было веча; старэйшыя вядомасьці аб якім знайходзім пад 1176 годам (Лавр. лет.), дзе сказана, што Полацак „адпачатку“ спраўляўся вечам.

Веча выбірала князя, веча і „паказывала яму пуць“ (выганяла яго). Князь мог княжыць толькі са згоды веча. Полацкі князь жыў нават ня ў Полацку, а каля Полацка ў Бельчыцах, дзе жыла і яго дружына. У самы Полацак князі прыезджалі толькі на запрашэньне веча, або за сваімі прыватнымі справамі. Пад 1159 годам летапісь апаведае: „і пачалі палачане зваць Расьціслава лесьцю на братчыну да Св. Багародзіцы старой на Пятроў дзень, каб злавіць яго, ён-жа едучы апрануўся у броню пад вопратку і не адважыліся на яго памкнуцца. На заўтрый дзень пачалі яго вабіць ізноў да сябе кажучы: княжэ, прыедзь к нам у горад, ёсьць нам з табою мова“. Далей летапісь апаведае, што князь, папярэджаны дзецкім аб вечы ў горадае і думцы схапіць яго, „вярнуўся назад і сабраўшыся з

дружынай ў Бельчыцах, адтуль пайшоў палком (вайной), грабячы і разьбіваючы, да брата Валадара ў Менск“.

Знача, князь ня мог і думаць аб спрацiўленьні вечу і так слабы быў са сваей дружынай супроць волі веча, што даведаўшыся аб непрыхільных замыслах супроць яго, пасьпяшыў сабраць дружыну і ўцячы з Полацка.

Полацкае веча ў сфэры міжнароднай палітыкі выступае паміма сваіх князёў. Гэтак у 1128 гаду, калі полацкія землі былі разгромлены Рурыкавічамі пад верхаводзтвам кіеўскага князя Мсьціслава Валадзіміравіча, полацкае веча выступае як прэдстаўнік дзяржавы і, паміма сваіх князёў, вядзе безпасярэдныя перэгаворы і робіць умову з Мсьціславам. Гэта самае паўтараецца ў 1186 гаду пры нападзе на Полацак Давіда Смаленскага і Мсьціслава Ноўгародзкага. Палачане, так сама, паміма князя, ўступаюць у перагаворы. У летапісі сказана; „полачане, здумаўшы (абмяркаваўшы) сказалі: ня можам мы стаць супроць наўгародцаў і смаленцаў; або пусьцім іх у зямлю сваю, або зробім мір з імі“. Калі пусьцім іх у зямлю —многа нам зла ўчыняць, папустошаць зямлю ідучы да нас, пойдзем да іх на сумежжа. І сабраўшыся ўсе, пайшлі да іх і сустрэлі на межах з паклонам і чэсьцю і далі ім дары многі. І аддаліліся і разыйшліся ў староны свае кожды з іх“. (Лавр. Лет. стр. 170).

Усе дзяржаўныя полацкія граматы пісаліся ад імені веча, г. зн. ад імені ўсіх станаў грамадзянства, напрыклад: „Паном прыяцелям і суседам нашым: пану войту і бурмістрам і радцам і мешчанам і ўсяму паспольству Рыжскага места, наша прыязьнь ад баяр полацкіх і ад мешчан і ад усяго паспольства Полацкага места“ (Руск. Лив. акт. № 164-1476 г.) Форма грамат заўсёды аднальковая, векамі выпрацаваная і адшліфаваная, напрыклад:

„Мы, мужы, палачане даем ведаць, хто сію грамату узрыць, або чтучы услышыць нынешнім і на патом будучым людзям“... (Умова між Полацкам і Рыгай? 1407 г.) Або у грамаце 1330 году бачым такі пачатак“: „Тако хочам мы баяры, гаражане, мешчане і ўсё паспольства зямлі полацкае“... Тут не спамінаецца аб ніякіх ўладах: „мы, мужы палачане“ — і больш нікога, ніякіх дастойнікаў.

Хто-ж былі тыя самаўладныя, „мужы палачане“ гаварыўшыя ад імені баяр, мешчан і ўсяго паспольства?

З грамат відаць парадак старшэнства між гэных мужоў: сперша пісалі ў граматах „баяры“, пасьля „мешчане“ і ў рэшце „ўсё паспольства“.

Баяры (стараславянскае „болій“, што значэ вялікшы, старшы) былі прэдстаўнікамі мейсцовай земшчыны. Гэта не былі прэдстаўнікі княжай дружыны, каторыя зьяўляліся наёмнай выканаўчай ўладай і наёмнай, хутчэй паліцэйскай чым вайсковай, аружнай сілай; яны, як чужынцы, наёмнікі-не маглі і не ўхадзілі ў склад сувэрэннага дзяржаўнага органу. Гэта не былі такжа і прэдстаўнікі вялікага зямлеўласьніцтва, як мыльна даводзяць некаторыя гісторыкі, а быў гэта земскі вайсковы стан, у склад якога ўходзілі і мелі права ўходзіць „ратайскія сыны“, нараўне з „папоўскімі ўнукамі“ і патомнымі дзяцьмі баярскімі.

Баяры дзяліліся, як відаць з пазьнейшых данных, на „путных“ і „панцырных“. Кожды баярын дачтаваў ад дзяржавы дзьве валокі зямлі. Панцырны баярын карыстаўся зямлёй за сваю вайсковую чынную службу без ніякіх падаткаў; путны баярын служыць дзяржаве „паслухмянствам“ і, — ў пачатках XVI ст.,— плоціць у скарб капу грошэй падатку. „А калі па гаспадарскаму загаду паедзе ў дарогу то той год нічога ня плаціць“. (Статут 1529 г.). Землі баярскія называліся „вотчынамі“ і пераходзілі з бацькоў на дзяцей: яны маглі гэтымі землямі разпараджацца як поўнай сваей ўласнасьцю — дарыць, прадаваць — з адным ва-

рункам, што той, хто сядзе на гэнай зямле, павінен выпаўняць тую-ж самую службу, як і яе папярэдні гаспадар, ў стасунку да дзяржавы. З гэтай прычыны дзяленьне зямель і прадажа часьцямі найчасьцай не дапускаліся. Дзякуючы гэтаму ў Беларусі яшчэ ў XVI ст. саўсім не было вялікай зямельнай ўласнасьці. Полацкая рэвізія 1552 году ведае 118 баярскіх маетнасьцей з якіх ішло 323 ваяаўнікоў. Адна толькі фамілія Корсакаў была стасункова багацейшай: давала на вайну 33 коней. Рэшта баяраў давала перэважна ад аднаго да двох конных ваякаў. У Вітэбскай зямлі была яшчэ меньшая зямельная ўласнасьць: самы багаты баярын выстаўляе толькі 9 коней, а рэшта—блізка ўсе баяры—служаць адным канём. Гэткія самыя данныя маюцца аб Мсьціслаўскіх баярах, і тыя самыя вывады можна зрабіць аб усіх іншых беларускіх землях.

Вось якога стану былі „мужы палачане“ ад баяраў.

Другі стан станавілі мешчане. Гэтая апошняя катэгорыя рэкрутавалася з гарадзкіх жыхароў — купцоў і „агнішчан“ г. зн. людзей, якія мелі сваё ўласнае „вогнішча“, або, іначай, дом ў горадзе.

Трэйці кляс— „ўсё паспольства“ — складалася з прэдстаўнікоў ад „цяглых“ і „чорных“ людзей. Пад цяглымі людзьмі разумеліся селяне сідзячыя, як і баяры, на дзяржаўных землях.

Цягло было ўзложана на зямлю і селянін да палавіны XVI сталецьця меў права вольна разпараджацца зямлёй, абы толькі ляжачыя на зямлі павіннасьці выпаўняліся акуратна. Падобна як баяры і мешчане, селяне карысталіся становай самаўпраўнай капой. Копная кругаколіца мела сваіх выбарных старшын, свой становы суд і сваю селянскую адміністрацыю для зносін з прэдстаўнікамі ураду і другіх станаў. Копныя суды судзілі па абычаёваму праву; вынесены прысуд самі-ж судзьдзі выконвалі над засуджаным.

Да „чорных людзей“ у местох залічаліся: а) таргоўцы не запісаныя ў купецкую сябрыну; б) рэмесьнікі (залатыры, сядзельнікі, купцы, сырамятнікі, шаўцы, ганчары, піввары, цесьляры, каладзеі, а па аднэй грамаце—і скамарохі); в) чорнарабочыя, калі яны мелі дом на грамадзкай зямле і выпаўнялі дзяржаўныя павіннасьці. Чорныя людзі, як і купцы былі сарганізаваны ў сябрыны, мелі свой суд і сваіх выбарных старшын.

Ніводнае веча не магло быць праўным без узаконеных прэдстаўнікоў гэтых чатырох грамадзкіх станаў. У устаўной грамаце, дадзенай Полацку ў 1456 гаду, сказана: „а сымалісь-бы (зьбіраліся на веча) ўсе паспалу, на том мейсцы, дзе перад тым сымаліся здаўна; а без баяр мешчанам і чэрні соймаў не нада чыніці; а справы бы свае згодна паспалу спраўлялі па даўнаму“. Без прэдстаўнікоў каторага-бы то нібыло стану, вечэ не магло адбыцца і нават выдаткі з дзяржаўнай кассы былі немагчымы без удзелу і згоды ўсіх станаў, бо прэдстаўнікі чатырох станаў мелі, кажды ў сябе, па аднаму з чатырох ключоў ад дзяржаўнага скарбу.

Уход беларускіх зямель у склад літоўскай фэдэрацыі не парушыў іх унутранага ўкладу, ўсё асталося па стараму, акром аднаго, што замест дынастыі Рагвалодавічаў, княжылі сперша князі Мэндаговічы, а пасьля В. Княжыя намесьнікі і воеводы, якія выпаўнялі лежаўшыя перадтым на князёх адміністратыўныя павіннасьці.

У склад літоўскай фэдэрацыі беларускія землі ўвайшлі на аснове добраахвотных угод, кождая засьцярогшы свае правы і вольнасьці мейсцовымі „канстытуцыямі“. Праўдападобна Вітаўт выдаў правы і вольнасьці полацкай зямле, Падобна Вітаўту паступалі В. Кн. Жыгмунт, Казімір, Александр. Урэшце ўсе прывілеі

полацкай зямлі былі пацьверджаны Жыгмунтам,—Аўгустам 1547 г. лютага 21 дня. [1])

Вітэбская зямля прыняла Альгерда, як мужа апошняй князёўны з роду вітэбскіх князёў, на правах дзедзічнага князя. Праўдападобна мейсцовую канстытуцыю выдаў вітэблянам Альгэрд.

Пацьверджаючыя граматы былі дадзены В. Кн. Александрам у 1503 годзе, чэрвеня 16 дня. Зыгмунтам — ў 1509 г. і Зыгмунтам-Аўгустам у 1561 г. чэрвеня 6 дня.

Конституцыю Смаленскай зямлі праўдападобна выдаў таксама Вітаут. Пацьверджаючый прывілей быў выдан. В. Кн. Александрам 1503 г., сакавіка 1 дня.

Турава-Пінскае Князьства найдаўжэй захавала самаістасьць. Апошні Турава-Пінскі Князь Іван Васілевіч Яраславіч памер ў 1531 гаду.

Устаўныя граматы выданыя Вялікімі Князямі Літоускі беларускімі землямі не маюць адзінага пляну і зьместу, але затое маюць адзінае значэньне. Гэта ўсё мейсцовыя „конституцыі“, істотна абмежаўшыя сувэрэнітэт Вялікага Князя ў карысьць мейсцовага жыхарства. Калі можна гаварыць аб абсалютнай ўладзе В. Кн. Літоўскіх ў Літве, то гэта ўлада далёка не была такой у беларускіх землях.

Паводле устаўных грамат вярхоўнай ўладай у беларускіх землях зьяўляюцца іх вечы, зложаныя з усіх станаў. Ад імені ўсей зямлі прэдстаўнікі веча зносяцца безпасярэдна з князям. Вітэбскае і Полацкае агульна-земскае сабраньне маюць права выбіраць кандыдатаў на намесьнікаў гаспадарскіх, якіх сам гаспадар зацьверджае. Гаспадар павінен намесьніка свайго зьмяніць, калі яго „абмовяць“ перад Гаспадарам. У смаленскай зямле ваевода назначаўся Гаспадарам, але затое ўсё правінцыальнае ўпраўленьне знаходзілася ў руках мейсцовага жыхарства „па стараму“. Гэта аберэгала зямлю ад наплыву чужаземных урадоўцаў. Хоць у руках княжых намесьнікаў і ваеводаў знаходзіўся суд, але яму ставіліся вельмі істотныя абмежаньня: ваевода ў сваіх судовых пастановах павінен быў кіравацца толькі мейсцовым правам. Суд адбываўся на мейсцы. Вызаў на суд гаспадарамі ў другую зямлю не дапускаўся. На намесьнікоўскім і ваеводзкім судзе заседаюць прэдстаўнікі ад усіх станаў: „князі, баяры, мешчане і паспольства“, — дасматрэўшы з каторымі, воевода выносіць судовую пастанову (Вітэбская грамата).

У Смаленскай зямлі воевода судзіць: „з окольнічымі і нашымі враднікамі“. Усе гэныя асобы, заседаючыя ў судзе, зьяўляюцца абаронцамі мейсцовага права і звычаю.

Устаўныя граматы забасьпечаюць жыхарству асабістую недатычнасьць. Разбор спраў павінен адбывацца „на яўным судзе хрысьціянскім“. Ніхто ня можа быць пазбаўлен маемасьці іначэй, як толькі па суду. Жонка і дзеці не адпаведаюць за праступкі мужа і бацькі і наадварот, калі толькі яны ня ведалі, або самі не прыймалі ўдзелу ў праступку. (Полацкая).

Грамадзяне зямлі маюць права свабоднага выезду ў Літву і „куды хто схочэ бяз кождае зачэпкі“. Выезд павінен быць яўным, а не тайным. Выезджаючый мае права зрабіць разпарадак сваей маемасьці. Гаспадар не мае права „ўступаціся“ ў зроблены разпарадак. Усе граматы (Полацкая, Вітэбская, Смаленская) забасьпечаюць жыхарству права свабодна разпараджацца сваей маемасьцю.

„Безспадчына і адумершчына“ не спадаюць на Гаспадара (Полацкая, Вітэбская).

---

[1]) Гл. „Курс Белоруссоведенія“, Москва 1918—1920 гг. стацьця праф. Анучина „Исторія белорусского народа“.

Па сьмерці мужа, жану нельга прымусам выдаваць замуж (Смаленская, Полацкая, Вітэбская). Запісаная мужам маемасьць астаецца ў жонкі, нават па выхадзе замуж. Граматы збасьпечалі працэсуальнае права, тарговы суд, асобу і маемасьць ад уціску адміністрацыі і ўстанаўлялі павіннасьці грамадзян па адбываньню дзяржаўных падаткаў.

Граматы разглядаюць „зямлю“ як асобную адзінку ў Дзяржаве, зьвязаную дзяржаўным укладам з асобай Вялікага князя.

Шырокасьць аўтаномных правоў зямель ў складзе Літвы добра характэрызуе грамата 1404 г. „Мы палачане даем ведама, хто сію грамату ўзрыць, што містэр Задзьвінскі адпусьціў нятцы полацкія і тавар на рукі Вялікага князя Вітаўта і нашы рукі“. (Акт. Лів.) Тут побач як роўныя вялічыні выступаюць — полацкае вечэ і В. Кн. Вітаўт.

Другім, агранічаючым сувэрэннасьць Князя органам ў стасунку да беларускіх зямель, была Рада Гаспадарская.

У меру разросту беларуска-літоўскага гаспадарства і ўходжаньня ў яго склад паасобных князьстваў і зямель, пры Вялікім Князю вытвараўся дарадчы орган—„Рада Гаспадарская“.

У склад гэтай Рады ўходзілі прэдстаўнікі ад усіх зямель. Рада прыймала ўдзел у абмяркаванньню ўсіх дзяржаўных спраў, падлегаўшых веданьню Гаспадара. Пастановы Рады мелі моц толькі пасьля зацьверджаньня іх Гаспадарам. Ў часе нябытнасьці Гаспадара ў краю, ці яго хваробы, „Рада Гаспадарская“ заступае Гаспадара і ад яго імяні дзее.

Паскольkі Рада бéз зацьверджаньня Гаспадара не магла выдаваць законаў, то паводле прывілею 1506 г. — Гаспадар быў забавязан не выдаваць ніякіх законаў бяз згоды Паноў Рады. Бяз згоды Паноў Рады Гаспадар ня мог мець дыплёматычных зносін, надаваць і адбіраць землі і ўрады. Зьбіраньне і выдаткаваньне дзяржаўных сумм адбывацца магло, таксама, толькі са згоды і пад кантролям „Рады Гаспадарскай“.

Гэткім чынам забязпечэньне правоў беларускіх зямель было дваякае: з аднэй стараны—ўстаўнымі граматамі, забязпечаўшымі сувэрэннасьць зямель, і, з другой стараны прэдстаўніцтвам інтарэсаў зямель ў складзе „Рады Гаспадарскай“, якое прэдстаўніцтва надаючы адналітнасьць агульна-дзяржаўнай палітыцы, мела магчымасьць бараніць свае фэдэральныя правы і прывілеі.

Пры гэтым трэба адзначыць, што землі этнаграфічнай Літвы ўходзілі ў склад В. Кн. Літоўскага на роўных правах і ніякіх, ні ў чым, асаблівых прывілеяў, большых чым землі беларускія, ня мелі.

Словам, у аснову Літоўска-Беларускага сужывецтва ў мінуўшчыне, паложана была запраўдная роўнасьць і ўзаемная пашана правоў кождага народу. Гэтыя ў вышэйшай ступені культурныя адносіны сталіся тэй астояй, апіраючыся на якую фэдэратыўнае В. Кн. Літоўскае расло і множылася.

*В. Ластоускі.*

# Нашыя прозвішчы.

I. Найстарэйшыя і найболей арыгінальныя беларускія прозьвішчы [2]) на:

—**іч** (Савініч, Бобіч, Смоліч, Бабіч, Ярэміч). Прозьвішчы гэтыя пачалі ўзьнікаць яшчэ ў радавую пару жыцьця беларускага народу. Тыя, што былі з роду Смалы, сталі звацца Смолічы, з роду Баба (Боб)—Бобічы, з роду Бабы—Бабічы. Гэткія-ж канчаткі—**іч** маюць назовы ўсіх беларускіх плямен (Крывічы, Дрыгвічы, Радзімічы).

У Беларусі ёсьць вельмі шмат мясцовасьцяў на **ічы** (Бялінічы, Ігнацічы, Ярэмічы), усе яны вельмі старыя і абазначаюць бацькаўшчыну роду. Прозьвішчы на—**іч** і мясцовасьці на—**ічы** гусьцеюць, пачынаючы з Дзісенскага павету Віленшчыны. Яшчэ болей іх на захадзе, поўдні і цэнтры Вітэбшчыны, а магчыма, што гэткіх прозьвішчаў даволі ёсьць і на поўдне ўсходзе Вітэбшчыны, густа яны ёсьць па ўсей Магілёўшчыне, а па троху сустрэчаюцца і па ўсей Беларусі.

З усіх славян апрача Беларусаў прозьвішчы на—**іч** маюць толькі адны Сэрбы (Пашіч).

— **віч**. Побач з прозьвішчамі Смоліч, Смаляціч і г. п. маем прозьвішчы Смолевіч, Кляновіч, Родзевіч, Бабровіч і г. п., мясцовасьць Смолевічы і г. п. Прозьвішчы на—**віч** вельмі старыя, але меней старыя як папярэднія. У канчатках—**овіч**,—**эвіч** з паняцьцем радовасьці злуча на яшчэ якоесь паняцьце прыналежнасьці (Бабр-ов-іч).

Гэткія прозьвішчы, як Пятровіч, Дзямідовіч, Вайцюлевіч і г. д. паказуюць, што закладчыкі гэтых родаў былі ўжо хрысьціяне, а гэткія, як Ахматовіч, што іхныя закладчыкі былі мусульмане, бо Ахмат імя мусульманскае. Такія-ж прозьвішчы беларускіх мусульман, як Родкевіч, значыцца, прозьвішчы ня толькі з беларускімі канчаткамі, але і з беларускаю асноваю, паказуюць, што закладчыкі гэных родаў былі Беларусы, якія самі, ці якіх патомкі прынялі іслям. Ня ўсе Родкевічы магамэтане, часьць іх, як прыкладам тыя, што жывуць у Менску, каталіцкае веры. Гэткія магамэтане-беларусы пэўна прынялі іслям да пашырэньня хрысьціянства ў Беларусі, калі ісьлямскія ўплывы былі вялікшыя за бізантыйскія, або як гэтыя ўплывы змагаліся паміж сабою, значыцца ў IX-X в. в.

Есьць прозьвішчы Жыдоў з беларускімі канчаткамі на—**віч**, а з асноваю жыдоўскаю, або нямецкаю—Рубіновіч, Рабіновіч, Маўшовіч. Гэта тыя прозьвішчы, што ўтварыліся ў Жыдоў на беларускім грунце.

Прозьвішчы на—**віч** пашыраны па ўсёй Беларусі;—**ічы** і—**вічы** складаюць 30-35% ўсіх беларускіх прозьвішчаў. Прозьвішчам на—**віч** адпавядаюць назовы мясцовасьцяў (весі, мястэчкі, месты): (Куцэвічы, Попелевічы, Дунілавічы, Асіпавічы, Клімавічы). Апрача Беларусаў прозьвішчы на—**віч** маюць толькі Сэрбы (Стоеновіч).

---

[2]) Слова „прозьвішча“ ў некаторых мясцох ужываецца ў значэньні, так сказаць, незаконнага прозьвішча, але ў іншых мясцох нашае Бацькаўшчыны, прыкладам у иав. Менскім, ужываецца яно ў значэньні прозьвішча законнага, як па-маскоўску „фамилія“, а па-польску „nazwisko“. Ужываю ў апошнім значэньні. Дзеля абазначэньня-ж незаконнага прозьвішча трэба ўжываць слова мянюшка, як кажуць у Горадзеншчыне. Лацінскае слова familia (значыць сям'я), калі і ўжываць дык у такім значэньні, у якім ужывае яго наш народ; значэньне гэтае бліжэй да арыгінальнага і абазначае ўсю радню. Значыцца, калі якога, прыклад. Станулевіча, завуць яшчэ Канцавы, дык Станулевіч—п р о з ь в і ш ч а, Канцавы — м я н ю ш к а, а ўсе свае паміж сабою Станулевічы будуць ф а м і л і я або проста р а д н я,

Прозьвішчы на—**віч** часам называюць літоўскімі. Пайшло гэтя адтуль, што калісь Літоўскае Гаспадарства абымала ўсю Беларусь. Званьне беларускіх прозьвішчаў літоўскімі—гэта такое-ж недаразуменьне ў назовах, як Менск—Літоўскі, Берасьце Літоўскае, Камянец Літоўскі і г. п.

Бывае калі найарыгінальнейшыя і найхарактэрнейшыя беларускія прозьвішчы напару завуць польскімі. Палякоў з такімі прозьвішчамі зусім німа. Міцкевічы, [1]) Сенкевічы, [2]) Кандратовічы—гэта Беларусы, якія тварылі пэрлы польскае культуры. Калі прагледзіць, прыкладам, сьпісаньне сяброў польскіх таварыстваў у Польшчы, дык побач з чыста польскімі прозьвішчамі і многімі нямецкімі, толькі дзе-ня-дзе, надзвычайна рэдка сустрэнецца прозьвішча на—**віч** і заўсёды можна давясьці, што валадар яго Беларус. Прозьвішчы і наагул словы на—**віч** зьяўляюцца ў польскай мове зусім чужымі. Нат такое слова, як królewicz зьяўляецца беларусызмам са спольшчанай асноваю. Паняцьце аб польшчыне гэтых прозьвішчаў пайшло таму, што Беларусь ад 1569 г. да разьдзелу Польшчы была складоваю аўтаномнаю часткаю ўсяе фэдэрацыйнае польскае Рэчыпаспалітае, а яшчболей таму, што апалячаныя беларускія магнаты (Ходкевічы, Хрэбтовічы, Валадковічы, Ваньковічы), вадзілі рэй ва ўсім польскім гаспадарстве.

Згодна з духам беларускае мовы назовы дынастый па беларуску павінны канчацца на—**віч**. Гэткім парадкам трэба казаць: Рогвалодавічы (беларуская дынастыя Рогвалода Полацкага) — Усеславічы (беларуская дынастыя Усеслава Вялікага), Гедымінавічы, Ягайлавічы (а не Ягелоны), Пястовічы (польская дынастыя Пяста), Прамысловічы (чэская дынастыя Прамысла), Арпадавічы (угорская дынастыя), Сасановічы (дынастыя новапэрскага гаспадарства); Фаціновічы (егіпецкая мусульманская дынастыя), а не Прамысьліды, Сасаніды, што гучыць дзіка ў беларускай мове.

II. Прозьвішчы на **скі**, **цкі** лёкальныя. Утварыліся яны ад мясцовасьцяў. Хто быў з Дубейкава, той стаў Дубейкоўскі, хто з Сухадолу—Сухадольскі, хто жыў ля возера—Азерскі, за ракою—Зарэцкі, за лесам—Залескі і г. п. Зубоўскі, Дубіцкі, Сасноўскі. Студэнта, які вучыцца ў Вільні назавуць Віленскі, а які ў Празе—Пражскі і г. п.

Як ужо зьявілася шмат мясцовых беларускіх прозьвішчаў на—**скі**—**цкі**, дык падобныя ды новыя маглі тварыцца па аналёгіі (Жыдоўскі, Літоўскі).

Прозьвішчы гэтыя як старыя так і новыя. Пры гэтым, калі старыя, дык яны звычайна належылі людзём крыху ведамым, значыцца баярам, ці шляхце, бо каб называць па мясцовасьці трэба, каб чалавек быў крыху ведамым, каб было ведама скуль ён. Але новыя прозьвішчы на—**скі**,—**цкі**, належаць аднолькова ўсім клясам, нават жыдом. Разказываў мне адзін гаспадар гэткае. Каля м. Ашмяна, за гарой жылі Жыды; як выйшаў загад ад расійскае ўлады пазапісаваць усіх жыхароў у урадах, дык у канцэлярыі аказалася, што гэныя жыды ня мелі ніякага прозьвішча, проста дзед называўся Ліпка, бацька Бэрка, сын Шымэль і г. п., Ня ведалі як іх запісаць. Выручыў адзін сусед-Беларус, які неўспадзеўкі аказаўся „ды Гэта-ж, кажа, загорскія жыды“. Так іх і запісалі „Загорскі“.

Прозьвішчы магамэтанскае шляхты ў Беларусі на —**скі**, —**цкі** адначасна з беларускаю асноваю (Карыцкі і інш.) паказуюць, як і прозьвішчы тыпу Родкевіч, што гэта магамэтане не татарскага, а беларускага роду.

---

[1]) У Беніцкай вол. Ашмянскага пав. ёсьць шмат гаспадароў з прозьвішчам Міцька і ёсьць вёска Міцькавічы, што значыць тое самае, што і Міцкевічы, толькі што ў апошнім ацьвярдзела **ць** і зьмяніўся націск.

[2]) У Трабскай вол. Ашмянскага навету ёсьць весь Сенкеняты-

Прозьвішчам на —**скі**, —**цкі** адпаведаюць беларускія назовы мясцовасьцяў на —**шчына** (Скакаўшчына, Казароўшчына).

Прозьвішчаў на —**скі**, —**цкі** Беларусы маюць каля 12%.

Прозьвішчы на —**скі**, —**цкі**, як утвораныя ад мясцовасьцяў, сустрачаюцца ў усіх славянскіх народаў. Гэтак, апрача Беларусоў, у Палякоў (Dmowski), Чэхаў (Dobrovsky, Polacky), Украінцаў (Грушевський), а так-жа у Сэрбаў, Баўгар і Маскоўцаў.

Гэткія прозьвішчы на -**скі**, -**цкі**, як Усьпенскі, Багародзіцкі, Архангельскі, царкоўнага паходжаньня і аднолькава могуць быць у ўсіх праваслаўных славян.

**III.** Калі прозьвішчы на-**іч**, **віч** абазначаюць род, прозьвішчы на -**онак**, —**ёнак** (Юлючонак, Лазічонак, Арцямёнак), -**чык**, **ік** (Марцінчык, Аляксейчык, Іванчык, Язэпчык, Сяменік), -**ук**,-**юк** (Кухарчук, Міхалюк, Аляксюк, Аляксяюк) абазначаюць сына, а прозьвішчы на -**еня** (Васіл'еня) наагул дзіця (дзіця Васіля).

Прозьвішчам на -**онак**, -**енак**, -**еня** адпавядаюць беларускія назовы мясцовасьцяў на -**няты** (Піліпеняты, Загарняты, Каяценяты, Трасечаняты, Біцяняты).

Прозьвішчы на -**онак**, -**енак**, -**еня**, -**чык** -**ік** характэрна беларускія і агульна-народныя ў беларусаў, хоць не такія старыя, як на -**іч**, **віч**.

Прозьвішчы на -**онак**, -**енак** маюць толькі адны Беларусы.

Беларускім прозьвішчам на -**онак**, -**енак** адпавядаюць у Украінцаў прозьвішчы на -**енко** (Чэркасенко, Демиденко), а ў швэдзкай і англіцкай мовах прозьвішчы з канчаткамі на zon (сын), а прозьвішчы на -**еня** адпавядаюць грузінскім з канчаткамі на — швілі (Ремішвілі).

Прозьвішчаў на -**онак**, -**енак**, -**еня** **чык**, -**ік**, -**ук**, (**юк**) у Беларусі 25-30 %, значыцца прыблізна гэтулькі, сколькі на — ІЧ і -ВІЧ.

Прозьвішчы на -**онак**, -**енак** пашыраны найболей у Дзісенскім навеце Віленшчыны, яшчэ болей у Вітэбшчыне, мо крыху меней у Магілеўшчыне і ўсходнай часьці Меншчыны. Есьць яны і па ўсёй Беларусі.

Прозьвішчы на -**чык** **і** -**ік** разкіданы на ўсёй Беларусі. На -**еня**, -**ук** (-**юк**) найбольш у Горадзеншчыне.

**IV.** Далей ідуць прозьвішчы, што прыняты з назоваў розных рэчэй (Зуб, Кніга, Качарга, Бубён, Сак, Шышка, Шыла) расьцін (Капуста, Рэдзька, Бурак, Гічан, Груша), птушак (Верабей, Бусел, Сарока, Сініца), наагул жывёлы (Кароўка) дні тыдня (Серада), сьвяты (Вялікдзень, Каляда), іменьні людзей ставаліся прозьвішчамі (Сяргей, Барыс, Гардзей). Сюды адносяцца й такія прозьвішчы, што быццым характэзуюць чалавека. Гэтак паводле слоў пароцька (той, хто порыцца), лянуцька (хто лянуецца), забудзька (хто забываецца) ёсьць прозьвішчы! Будзька (хто будзіць), Сапоцька (хто сапе), і далей Родзька (ад радзіць), Ходзька (ад хадзіць), (Хоцька) ад хацець і шмат іншых падобных гэтым прозьвішчам.

Прозьвішчы гэтыя, як старыя (Воўк, Кішка, Жаба) так і новыя сустрачаюцца яны па ўсёй Беларусі; іх будзе каля 10—12 % усіх беларускіх прозьвішчаў.

**V.** Прозьвішчы з Канчаткамі на —**оу**, —**еу**, —**ін** лучаюцца ў Беларусаў пачынаючы з усходу і поўначы Вітэбшчыны, з усходу Магілеўшчыны; надта густа гэтыя прозьвішчы ў Смаленшчыне і беларускіх часьцях іншых губэрняў (Пскоўскае, Цьверскае і інш). Дзе-ня-дзе могуць лучыцца ў цэнтры і на захадзе Беларусі. Уздымаецца пытаньне, як гэтыя, характэрныя Маскалём і Баўгарам прозьвішчы, маглі паўстаць у Беларусаў.

Наўперад трэба зьвярнуць увагу, што гэтыя беларускія землі доўгі час (каля 300-400, а некаторыя на‘т каля 500 год) былі пад маскоўскаю ўладаю, што будучы пад Маскоўшчынаю яны ўпраўляліся не аўтаномна, а з маскоўскага цэнтру. Трэба думаць што ўжо ў даўнейшую пару маскоўскага гаспадараньня ў гэтых беларускіх землях, не паважаючы іншых асаблівасьцяў беларускіх зямель і народу, Маскоўцы не паважалі і асаблівых беларускіх прозьвішчаў, перакручаючы іх на свае шаблённыя з канчаткамі на **оў, еў, ін**. Цікаўна, што калі наш друкар Федаровіч зьявіўся ў Маскву, то яго назвалі там Федоровъ. Як перакручана прозьвішча Федаровіч ў Маскве, так перакручвана маса іншых беларускіх прозьвішчаў на беларускіх зямлях залежных ад Маскоўшчыны. Гэткім парадкам Беларусы гэных зямель мелі якісь час па два прозьвішчы — адно, якое яны самі ўжывалі, другое — якое знала ўлада. Начай кажучы „зваліся“ адным, а „пісаліся“ другім прозьвішчам. З часам аднак гэтыя апошнія пісаныя „праўныя“ прозьвішчы ўзялі верх. Валадары іх дзеля сваіх-жа інтарэсаў мусілі гэныя пісаныя прозьвішчы помніць. Гэткім парадкам Барысевічы сталі Барысавы, Трахімовічы — Трахімовы, Сапранкі — Сапранковы і г. д. Але там, дзе з старым родным прозьвішчам была зьвязана сямейная традыцыя, там яго ўпорна дзяржаліся і гэткія нацыанальныя прозьвішчы захаваліся ажно дагэтуль у найдалейшых усходных узьмежках Беларусі.

Найвялікшае аднак нішчэньне беларускіх прозьвішчаў у ўсходнай Беларусі прыпадае на XIX век і завяршылася яно ў XX в.

Сыстэматычна русыфікуючы Беларусь, маскоўская ўлада сыстэматычна русыфікавала і беларускія прозьвішчы.

Німа дзіва, што Маскоўцы абмасковілі часьць беларускіх прозьвішчаў, калі на‘т такім далёкім Маскоўцам па мове (не па крыві) народам, як Чувашы і Казанскія Татары, яны абмасковілі ўсе прозьвішчы. Дзеля таго, што Татары мусульмане, ў іхных прозьвішчах прынамсі карані асталіся мусульманска-татарскія (Балеев, Яманов, Ахмадзянов, Хабібулін, Хайрулін). Чувашы, што нідаўна ахрышчаны ў праваслаўную веру маюць усе прозьвішчы чыста маскоўскія ды дзеля таго, што хрысьцілі масамі і найчасьцей чамусьці давалі імя Васіль або Максім, то цяпер большасьць чувашоў маюць прозьвішчы Васільев, або Максімов. З гэтымі Васільевымі і Максімавымі часта бывае чыстая бяда, іх так шмат, што цяжка разабрацца.

Русыфікацыя беларускіх прозьвішчаў адбывалася, як па загаду, так і вынікала з агульнага русыфікацыйнага кірунку адміністрацыйнае і асьветнае маскоўскае палітыкі ў Беларусі. Гэтак, у валасьцях па загаду пераменялі цэлыя массы беларускіх прозьвішчаў на маскоўскія, але ў тых-жа валасьцях падобная перамена рабілася без загаду. Гэткі валасны пісар (дый іншае начальства) хоць добра знаў розныя беларускія прозьвішчы, але лічыў нехарошымі гэныя прозьвішчы ў іх звычайнай беларускай вымове, а дзеля таго, што пісаць мусіў памаскоўску „правільна“, дык папраўляў па магчымасьці нашыя прозьвішчы, запісаваў іх „правільна“. Рабіў гэта часта ў добрай волі.

З пашырэньнем украінскага руху украінскія прозьвішчы на —**енко** здабылі сабе ў расійскага начальства, а ў тэй лічбе і ў беларускіх валасных пісароў і іншыхураднікаў права грамадзянства, пачалі так сама лічыцца правільнымі. І тыя-ж пісары, зьмяняючы адны беларускія прозьвішчы на маскоўскія з **ов, ев, ін** адначасна другія зьмянялі на —**ко**, гледзячы да чага было бліжэй. Гэтак з сына Цярэшкі, Цярэшчанко (Цярэшчанок або Цярэшчонак) стаў Терещенко; з Зьмітронак — Зьмітрэнко (ці яшчэ „правільней“ — Дмитріенко), з Жаўток — Желтко. Усе прозьвішчы беларусоў на —**ко**, перакручаны з беларускіх прозьвішчаў на

—**онак**, —**енак.** Бывае, што тут заховуецца падвойнасьць — завуць усе, прыкл. Дударонак, ці Жаўток, запісаны „правільна“ ў воласьці: Дударенко, Желтко.

Як стала ў нас у пашане і модзе ўсё чужое, а сваё пайшло на зьдзек, дык некаторыя Беларусы самахоць, з собскае ініцыятывы зьмянялі свае прозьвішчы на модныя, чужыя, „панскія“. Асабліва гэтак былі зьменяны прозьвішчы, абазначаныя ў пункце IV, значыцца прозьвішчы з назовый розных рэчаў, жывёлы і г. п. Лічылі, што няхораша называцца Сакол, Сініца, Салавей, Сарока, Гардзей і зьмянялі на Соколов, Сініцын, Соловьев, Гордѣевъ, а Сакалёнак на Соколенко або рабілі іх бяз сэнсу; гэтак Груша стаў пісаць сваё прозьвішча Грушо, фарботка — Форботко, Мурашка — Мурашко, Варонка — Воронко, Ходзька — Ходзько, некаторыя Шылы сталі пісаць свае прозьвішча праз два „л“ — Шылло і г. п. Так сама зьмянялі прозьвішчы на прозьвішчы з Канчаткамі на —**скі,** якія не характэрна беларускія, бо яны, як мясцовыя, маюцца і ў іншых славян. Як на прыклад, пакажу на гэткае сумнае здарэньне. Знаў я аднаго гаспадара, прозьвішча якога было Відук (гатунак маку з вялікімі макаўкамі, цьвіце ён чырвоным цьветам). Разбагацеўшы, купіў ён сабе дваранскія паперы і падаў просьбу ўладзе, каб зьмяніць яму прозьвішча Відук на Макоўскі. Просьбы яго паслухалі і зьмянілі прозьвішча на падвойнае — Відук-Макоўскі,

Калі прозьвішчы на —**іч, віч,** абазначаюць род, на —**онак, енак,**—сына, дык прозьвішчы на —**оў,** —**еў,** —**ін** абазначаюць прыналежнасьць, гэтае прыметы, што адказуць на пытаньне чый. Чый ты? — Ильин, Драздов і г. д. Гэткія прыметы маюць ня толькі адны Маскоўцы і Баўгары, а і ўсе іншыя славяне (палякі, чэхі, украінцы, сэрбы). Маюць іх і Беларусы. У нас звычайна кажуць Янук Лявонаў. Ганка Лявонава, Пятрук Адамаў і г. п. дзе словы Лявонаў, Адамаў абазначаюць, што ён належыць да Лявона, Адама, звычайна сын ці дачка Лявонава і г. п. Прыналежныя прыметы прыходзіцца ўжываць дзеля адрожненьня, бо звычайна Янук, Пятрук і г. п. бывае не адзін. У нас пад маскальскім уплывам маглі паўставаць свае беларускія прозьвішчы на гэтыя канчары. У гэтым прыпадку розьніца паміж Маскалямі і Баўгарамі з аднаго боку, а іншымі славянаміз другога, тая, што ў апошніх гэтыя прыметы звычайна прозьвішчамі не становяцца.

Падсумовуючы ўсё, што сказана аб прозьвішчах на **оу, еу, ін** трэба сказаць каротка: гэтыя прозьвішчы сталіся I) вынікам перакручаньня або замены маскоўскімі ўраднікамі беларускіх прозьвішчаў, 2) некаторыя Беларусы апошнімі часамі самахоць іх перакручалі на модныя, маскоўскія і 3) яны маглі адчасьці паўставаць на беларускім грунце, але пад маскоўскім уплывам. Прозьвішчы гэтыя новыя і не зьяўляюцца характэрнымі для Беларусаў.

Прозьвішчаў гэтых ёсьць ў Беларусоў 15—20 %

Прозьвішчы на **оў, еў, ін** зьяўляюцца нацыянальнымі Маскалёў і Баўгар. Прыблізна гэтулькі, сколькі ў Беларусаў, ёсьць гэтых прозьвішчаў у Украінцаў, дзе яны маюць гэткі характар, як і ў нас.

*Я. Станкевіч.*

# Мікалай Галубовіч.

Некалькі слоў аб пахожданьні гэрбу і протоплястах фаміліі, пана Мікалая Галубовіча, гэрбу „Разходнік“.

Гэрб Разходнік стаўся радавым знамен фаміліі Галубовічаў, можна сказаць, з няпомных часаў. Сьведкай безпрярэчнай прыналежнасьці гэтага гэрбу Галубовічам можэ быць печатка, каторая ў іх родзе пераходзіць з бацькі да сына. Скептыкі маглі-бы зрабіць закід, кажучы, што печатка сама па сабе нічога не гаворыць ў карысць гэрбоўнасьці фаміліі Галубовічаў, што, акром печаткі, патрэбны яшчэ дакуманты, сьверджаючыя прыналежнасьць гэрбу і права ўжываньня яго; маглі-бы, агледзіўшы печатку, выказаць сумніў, што да прыпісыванай ей старасьвецкасьці, і, шмат чаго іншага, маглі-бы сказаць скептыкі, але печатка служыць, дзякаваць Богу, не якімасьці там недаверкам, а Галубовічам. Галубовічы-ж, не разьедзеныя чэрвям скептыцызму, самі ведаюць цану і мейсца свайму радавому клейнаду, гісторыя каторага ўгрунтавана на цьвёрдых падвалінах радавых кронік.

Вустная радавая кроніка адносіць паходжаньне печаткі да часоў князя Бая, які ею мёўся ашчасьлівіць протаплясту роду Галубовічаў. Але, калі прыходзілася на чыстату гаварыць, то выясьнялася, што пэўныя, вустныя, кронікі Галубовічаў не сягаюць ў цемру мінуўшчыны далей трэйцьяга пакаленьня.

Паза гэтым рубам пачыналіся ўжо легендарныя часы.

Дык і мы, веручы статэчнасьці нашага гэрбоўнага роду, прыймем за пэўнае, што як сама печатка, так і нададзеный ею Галубовічам гэрб, паходжаньнем сваім сягаюць легендарных часаў.

Аб пачатку роду і яго гісторыі радавыя кронікі паміж сабой не згаджаюцца: адны выводзяць род Галубовічаў ад Варагаў, другія ад Рымлян, трэйція, больш скромныя, ад старадаўных крывічанскіх князёў.

Цётка-ж Юстуся (з дому Галубовіч) заўсёды цьвярдзіла, што — ўсе гэрбоўныя роды паходзяць ад Адама, а толькі мужыцкія ад Хама.

Дзеля таго-ж, што цётка Юстуся вочавідкі перакручвала Біблійную генэалёгію, трэба лічыць, што і яе вэрсыя ня пэўная.

Бо кожды, не мужык і не шляхціц, безстаронна прызнаць павінен, што і Хам таксама паходзіў ад Адама, будучы яго патомкам.

Хоць у родзе Галубовічаў ні вояводзкіх, ні сэнатарскіх парсун не бывала, але род гэты ня менш быў слаўны ў сваей ваколіцы як якісь там іншы ў краю.

І гэта заразумелым будзе, калі прымецца пад увагу, што прадзед Трахім, здарова з намі бытуючых Галубовічаў, быў кавалём і разам з гэтым зубным лекарам.

І цяпер дзядзька Пранук, успамінаючы, з немалым патасам апавядае ўдатную апэрацыю, якую нябожчык Галубовіч прарабіў з ім:

„Пракудны чалавек,—апаведае дзядзыка Пранук,—„быў нябожчык Трахім, сьвяці Божухна душачцы яго“.

„Калі, бывала, прыходзіў хто да яго ў кузьню з балючым зубом, ён, зазвычай, даваў палажыць на зуб купарвасу, а як не памала гэта—навязываў на зуб струну, прадзеваў канец праз шчаліну ў дзьверах кузьні і прыцягнуўшы хворага ўшчыць да даскі скажэ—„пастаі там гэтак, Ваша“—а пасьля, знячэўку, пырхане да бела разпаленым жыгалам, ў ровень вачэй, праз дзьверную даску.

„Затрашчыць, засквярэцца даска. Бухане едкі, сівы дым у вочы і з перапуду тарганецца чалавек, а тут табе зуба як і не бывала... Дык, во, быў доктар на зубы!“, тонам найвышэйшай пахвалы заканчаў сваё апавяданьне аб нябожчыку Трахіму Галубовічу дзядзыка Пранук.

Але на адным дзядзьку Прануку не канчаўся почат жывых сьведкаў чынаў і мысьлеў нябожчыка Трахіма.

Цётка Югася гэтак сама любіла апавядаць, як нябожчык Трахім лячыў яе ад трасцы.

— „Было гэта летам, — кажэ цётка Югася, — прыходжу да яго я ў кузьню і кажу — так і так: — сэрца томіць, косці ломіць“...

— „А чым лечышся“, — пытае.

— „Замаўляла, — кажу я, — крапівай ў лазьні парылася, дзевасіл піла“...

— „Дрэнь ўсё гэта“...

Ськінуў скураны фартух і кажэ:

— „Хадзі за мной“.

Іду; ажно прыводзіць ён мяне ў свой садок. Ябланькі, — агрэсьнік, — пчолы ў лежнях гудуць, — камары таўкуцца... Углядаюся... — А ён:

— „Раздзевайся, — кажэ“.

Я йшчэ маладуха была тады. Ведама-ж у моладасьці ды ў нашым жаночым стане — сорамна, дык перэмінаюся.

А ён як не закрычыць:

— „Што я забаўляцца з табой прыйшоў, га ?! Раздзевайся“!.

Прымусіў ськінуць ўсё да сарочкі.

— „А цяпер, — кажэ, паказваючы на агрэсьнік, — качайся“.

Я пачала нешта гаварыць.

— „А, то ты гэтак хвора“. — Ды, як не піхне мяне на агрэставы куст, як не качане ды не крутане, раз сюды, раз туды. Дык я ўся як брусьніца чырвоная стала. Крычу...

А ён — дай яму Божухна супакой вечны — кажэ мне:

— „Уставай, ды барджэй дзьмухані ў лежань з пчоламі, а то ізноў па кусьце качаць цябе буду“.

Мне ўжо задача гэта не цяжкой здалася. Падыйшла я да лежня, дзьмуханула... Зазьвінелі Божыя пчоланькі. Я ешчэ раз... Божухна, бацюхна! што апасьля сталася! Увесь рой пчаліны як ня высыпле на мяне. Я ўцекаць, а яны ў плечы, ў грудзі, ў твар... Я сюды, я туды, а ўцячы некуды: садок частаколам абгароджаны, вароцяйкі на запоры... Я ўжо і ў агрэсьнік хавалася і калючак яго ня чула... Бегала, бегала дый самлела. Тады ён мяне вынес адтуль, вадой папырскаў у твар, гарэлкі чарку ўліў у губу. Ачуняла я...

— „Ну, ідзі цяпер, — кажэ, — дамоў, як рыба здарова будзеш“.

— „І што вы скажаця: як рукой ўсю хваробу зьняло“.

Трахім Галубовіч з усіх мер быў чалавекам выдатным, і, што рэдка між людзьмі бывае, ён акуратна перадумаўшы людзкое жыцьцё, знайшоў на ўсе трудныя жыцьцёвыя пытаньня ясныя і здаровыя адпаведзі. Свой духовы дабытак

ён ня скрыў пад кораб, але ў навуку другім ахвотна дзяліўся ім. Аснаўным прынцыпам яго было: што „хлеб ня ходзіць за брухам, але бруха за хлебам“ і што „яда ляжыць заўсёды ніжэй губы“.

З гэткага акуратнага разуменьня жыцьця, выцекала ня менш правільнае яго паступаньне.

Трудзіўся ён, ад раньня да ночы, не шкадуючы на працу сваіх турбот і поту› дык меў ня толькі на бягучы дзень кавалак хлеба, але і, дзе што, спароміў на чорную гадзіну.

— „Крутнёй сьвет пяройдзеш, ды назад ня вернешся“ — гаварываў Трахім Галубовіч... У мысль гэтага, паступаньне яго з людзьмі было на зьдзіў сумленнае; а што: — „шапкай, папкай і сольлю, людзі людзей няволяць“ — абходжаньне яго з людзьмі было ветлае, уважлівае.

Не хварэўшы ні разу ў жыцьці, памер Трахім Галубовіч на 86 гаду жыцьця стоючы. Калі пачуў хваробу, ён не лажыўся, хадзіў, спадзяючыся перамагчы слабасьць, і, калі, ноччу на добра ўжо сьціснула яго, хацеў разбудзіць нявестку: падыйшоў да ложка яе, абапёрся аб балясў, працягнуў руку, каб, відаць, пабудзіць, дый так застыг. Раніцой знайшлі яго стаячым каля ложка, але ўжо нежывога. Iамылі, прыбралі, ухаўтурылі.

Пасьля Трахіма асталося двох сыноў Петра і Сымон. Старшага Петру нябожчык Трахім адукаваў на здатнага цесьлі. Некалькі дворных палацаў і царквей, выйшоўшых з рук Петры, дагэтуль аздабляюць крывічанскую зямлю. Цесьля ён быў здатны, але, ходзячы на сьвеце не захаваў у цэласьці бацькаўскіх навук. Затое набыў сваё, адменнае, разуменьне людзёў і жыцьця.

Ен казаў: — „Людзі вераць не рабоце, а славам“, ды пацьверджаў гэта прыказкай што: „хваленая каша і без масла смачна“. Людзі аб ім казалі, што ён—быў—іншы зьверху, чым у сярэдзіне.

Малодшага, Сымона, як слабейшага здароўем, нябожчык Трахім, прыстроіў да доктара ў вучні. Прапрактыкаваўшы, абычаем таго часу, пры лазарэцэ ў доктара 15 гадоў, ён атрымаў пасьведчаньне ў знаньні доктарскага рэмясла. Пасьля стаўся дамовым лекарам ў дварэ мейсцовых магнатаў.

У часе Напольёнскай руіны эміграваў з краю, і, разам са сваім патронам, падарожнічаў па сьвеце: знаў добра Парыж, Рым, Лёндон. Надакучыўшы ўрэшце бадзяньне па сьвеце, вярнуўся на бацькаўшчыну. За сабраныя грошы купіў лясьнічоўку, дзесяцін пяць зямлі, на адзіноце, і там асеў на стала. З усіх сваіх падарожаў па сьвеце і высокіх коліг цый вынес філёзофічную формулу, якую кождаму рад цьвердзіў, што — „сьвет — гной, а людзі — сьвіньні“.

Браты не атрымаўшы па бацьку спадку ня мелі чаго дзяліць, і, дзеля гэтага, не было ім аб што сварыцца, але не было ў іх і лішняй блізасьці. Петра быў гаварлівы, а Сымон, наадварот, маўклівы. Малодшы брат адносіўся да Петры з пашанай, як да старшага, старшы да малодшага з ешчэ большай пашанай, як да чалавека бывалага і адукаванага. Жылі браты здалёк ад сябе і, праз гэта, рэдка сабе дакучалі гасьцінай. Зьвязывала іх між сабой, памяць аб бацьку, катарага глыбока абодвы браты шанавалі.

Трэба адзначыць, што Сымон вярнуўшыся с падарожы не ахвотна браўся за сваё доктарскае рэмясло, кажучы, што· — „найлепшы доктар — сам Бог, а самае скутэчнае лекарства—хлеб з маслам“. Але ўсё.ж такі для свайго радавога зельля — разходніку — рабіў вынятак. Разходніку ён прыпісваў розныя цудоўныя ўласьнасьці.

Ен казаў: — „ад расходніку, як і сама яго назова паказвае, разходзіцца ўселякае недамаганьне. А найперш, навар, сабранага ў маі, і ў засені засушанага расходніку, памагае ад цягаты на сэрцы.

— „Найболей людзей,—гаварываў Сымон Галубовіч,—хворых сэрцам, душой... З сэрца ідуць усе хваробы. Дайце хвораму чалавеку здаровае серца і ён як Лазар ачуняе“.

Калецтва і пошасьць Сымон не называў хваробамі: першае — нешчасьце, другое — напасць; хвор чалавек калі ў яго душа ные...

І дзеля гэтага лекарскі экзамен пачынаў Галубовіч, прымерам так:

— „Тошна вашэці? Як даўно сэрца ные“?

Калі гэтым шляхам не дабіваўся чаго жадаў, то пачынаў з другой бочкі: ці жывы бацька, маці, ці ўсё здаровы, ці памысна ў сямейцы, як ручыць гаспадарка.

І бясёда яго з хворым прыпамінала споведзь з усяго жыцьця.

Не раз Сымон мешаў сваю сьлязу са сьлязой хворага. А канчалася ўсё тым, што даваў жменьку разходніку, залецаючы яго піць не сьпешаючыся, ў цішыспакою, ды на адзіноце.

І Галубовічаў разходнік славіўся вельмі далёка. І дзівіліся людзі, што памочан ён на ўселякія надамаганьня.

Брат, Петра, быў высокага суда аб доктарскіх здольнасьцях свайго брата чаго не скрываў перад людзьмі, а асабліва ў цёплай, дружнай кампаніі, калі поўная чара кружала па стале. Ен тады, хітра падмігаючы, зазвычай, забіраў голас аб сваім браце. Кажучы аб разходніку намекаў, што ўплывае не сама па сабе зёлка і не братняе ўменьне лячыць, а што галоўная заслуга лекарства выцекае з іх радавога клейнаду. Якая містычная зьвязь істнавала паміж зёлкай і гэрбам Разходнік, ён такі і сам, на перакор свайму глыбокаму пераконаньню, ня ўмеў высказаць.

Абычаем словаахвотлівых людзей, ён лёгка пераходзіў з тэмы на тэму і ад пахвал свайму брату, незначна перакідаўся да гутаркі аб самім сабе. Спыніўшыся на гэтай тэме, Петра, выварачываўся нутром наверх, фантазыя яго разгаралася, словы набіралі яркай барвістасьці і сказы востра зарысаваных абрысаў. Такая гутарка заваражвае слухачоў, зварушае ў іх найглыбей затаёнае і пацягае да інтымнай шчырасьці.

Духовую структуру Петры добра адтваралі яго будынкі: проста, нават рэзка ў агульным рысунку зазначаныя, яны ўражалі розмахам і сілай мастацкай кампазыцыі, а ў загібах і канчынах — нечаканымі, поўнымі стройнасці і містыкі, дробнымі аздобамі. Яго будынкі — гэта былі наскрозь мастацкія, наскрозь прасякнутыя багатай індывідуальнасьцю творы, нажаль ня меўшыя і не маючыя яшчэ дагэтуль сваіх цаніцеляў.

Петра перабіваўся, як кажуць, з дня на дзень: яго жыцьцё было няўпыннай барадзьбой з горам, каторае ні на момант не переставала яго гнясьці. Перад людзьмі Петра апраўдваўся са сваей беднасьці тым, што — падпеччу ў яго завяліся злыдні. Але чым крапчэй ціснула Петра бядота з гаротай, тым ярчэй працавала яго фантазыя. У цяжкіх варунках жыцьця ўмысловая творчасьць была для яго адзінай патоляй.

Прычына неўдачніцтва Петры, крылася ў тым, што ён не цаніў малой абыдзеннай работы, не прыкладаў да яе свайго розуму і сэрца — збываў яе абыяк і абычым. На вялікіх-жа работах, мала, або і саўсім нічога не зарябляў, бо

клаў залішне многа працы на мастацкую старану работы, за якую яму нічога не плацілі.

„Петра — чалавек з хворым сэрцам“, сказаў бы яго брат.

І, запраўды, сэрца ён меў хворае: яму хацелася пабудаваць такую царкву, — каб усе свае думы — лятуценьня пераліць ў яе. Царкву гэну ён выкалыхаў у сваей душы аграмаднай з шатропадобнымі стрэхамі і застрэшкамі, з прыбудоўкамі і надбудоўкамі. Калі ў размовах, хваліў датыхчасовые свае будоўлі, то Петра сам перад сабой крывадушыў: ён цаніў толькі тую царкву, якую насіў у сваіх грудзёх, ды ў думах. Пабудаванае, выкінутае ўжо з галавы, мала яго цікавіла.

Аднак пабудаваць задуманую царкву не ўдалося Галубовічу: сьмерць заскочыла яго зьнячэўку і патушыла гарэўшый ў яго душы чароўны агонь.

Дзеці Петры закінулі бацькаўскі талент, лічуцы яго непаплатным і прыспасобіліся да іншай, больш усьціжнай, працы.

Сымон Галубовіч, здакучыўшы адзінотай, на шостым дзесятку лет сваіх, ажаніўся, ўзяўшы за сябе маладую, 20 гадоў, Югасю Дзямідзянку. Жылі яны даладна і згодліва, проста на зьдзіў людзём, але дзяцей у іх не было.

Сымону-ж, як на грэх, хацелася мець патомства.

Пробавалі лекаў, хадзілі пехатой на одпусты — не памагала. І ўжо, немаль быў памірыўся Сымон са сваей бяздзетнасцю, як ні с таго, ні з гэтага, на дзесятым гаду сужэнства, жонка яму апавесьціла радасную навіну, што яна „пры надзеі“.

**Власт.**

---

# „Эўразійцы.“

## (новыя шуканьня расійскай думкі).

Катастрафічнае здарэньне ў жыцьці Усходу Эўропы—Расійская Рэвалюцыя—пачынае ўсё глыбей і глыбей уходьзіць у сьвядомасьць сучаснага пакаленьня. Сэнс і значэньне Рэвалюцыі, прычыны выклікаўшыя яе і вынікі, якія яна з сабой нясе, пачынаюць вырысоўвацца прад вачыма сучасьнікаў ва ўсім сваім неабнятным розмаху, ва ўсім сваім неабмежаным разьліве. Праблема расійскай рэвалюцыі пачынае захопліваць ня толькі палітыкаў і ня толькі гісторыкаў, яна трывожыць філёзафаў і паэтаў, маралістаў і духоўнікаў, усіх тых, хто жыве ня хлебам адзіным і барацьбой за яго, ўсіх тых, хто шукае сьцежак праводчых і імкнецца надаць сэнс свайму жыцьцю ў страшных падзеях штодзеннасьці. У гэтым усьвядомленьні, ў гэтым захопленьні адбываецца поўная пераацэнка цэннасьцяў: адны знайходзяць ў гэтай пераацэнцы свой сьмяротны засуд,—другія запаветы Новага Жыцьця; адных яна прымушае адмовіцца ад старых лятуценьняў, падрэзае ім скрыдлы—другіх акрыляе надзеямі, падымае над руінай адкуль адкрываюцца шырокія і сьветлыя гарызонты. На асновядзі трагічных фактаў Рэвалюцыі, ў яе упадках і ўздоймах, у яе „разрывах і зьвязях“ шмат што безпаваротна загінула, але заразам шмат што нарадзілася, каб зазіяць сьвятлом нязвычным.

Тыя, хто назваўся непрывычным найменьнем „эўразійцаў“, належаць да апошніх шчасьліўцаў. Тое, што робіцца з Расіяй, не забіла ў іх духа жывога, не запужала іх да страты чалавечага абліччя, не прымусіла адмовіцца ад павагі да самых сябе і да людзей наагул. Яны не праклінаюць сьлепа Рэвалюцыі („змагацца

з ей і вінаваціць яе бязмэтна і неразумна“), але разам з тым яны ня міраццa з яе агідным абліччам. У тым, што дзеецца, ў тым, што ўмірае і нараджаецца, яны з прасьвятлёнаю, крытычнай мудрасьцю адсеваюць добрае ад благога, чалавечае ад зьверачага, дробнае і чванае—ад вялікага і ўзвышаючага. У хаосе дзейнага, сярод безнадзейнай цемры, ў якой замецяны ўсе шляхі і перасыпаны капцы і ў якой зловесьлівы крывавы сутон сьведчыць ад заходзе іх бацькаўшчыны,—яны знайходзяць „свой шлях“, свой сьвет, сваё хоць і далёкае і труднае, але запраўднае Царства—і сярод цемры, сярод выцежы алюцейшых, стануўшых на заднія лапы, пабратымаў—спакойна і з верай запаляюць сьветачы сустрэчы Новага Жыцьця.

* * *

У рэдакцыйнай прадмове да свайго першага зборніка [1]„—Исход к Востоку“, эўразійцы з задаваляючай паўнатой тлумачаць сваё разуменьне сучаснасьці, свой пагляд на сэнс і значэньне Рэвалюцыі і, разам з тым, на будучыну Расіі. Іх сьветагляд зложыўся ў „атмасфэры катастрафічнага сьветаадчуваньня“. Той не значны шмат часу, які праходзіць на нашых вачах, разглядаецца імі „ня толькі як пераходны, але як п а в а р о т н ы час“. У тым, што дзеецца, яны ўглядаюць „ня толькі скаламут, але к р ы з і с,“ яны „чакаюць ад наступаючага глыбокае з ь м е н ы п р ы в ы ч н а г а о б л і к у с ь в е т у“.

„У катастрафічнасьці дзеячагася мы ўглядаем,“ кажуць эўразійцы, „азнаку дасьпеваючага перэсяленьня культуры. Культура ўяўляецца нам у заўсёдным руху і безупынным абнаўленьні... Мы ня верым, к а б і с т н а в а л і н а р о д ы, п р а з н а ч а н ы я н а в е к і б ы ц ь в ы б р а н ц а м і і н о с ь б і т а м і к у л ь т у р ы... Гісторыя ёсьць для нас свабодная і творчая імпровізацыя, кожды момант якой мае сваё (аддзельнае ад іншых) значэньне.“

Азнака часу заключаецца ў тым, што Захад Эўропы клоніцца да ўпадку і мейсца яго павінен заняць Усход. Романа-германская культура, якую ўсе, ў тым ліку эўразійцы, „чцяць“ у прошласьці і ў сучаснасьці“—адыходзіць ў гістарычны пантэон ня ей належыць будучына. Эўразійцы адчуваюць, што „гісторыя стукаецца ў нашыя вароты“ (Герцэн), — ў вароты народаў усходу Эўропы Той паварот, які мы перажываем, уяўляецца як гістарычны катаклізм, кшталтам таго, які адбываўся ў часе заваяваньня Александрам Македонскім Малой Азыі, ці ў часе Вялікага перяяленьня народаў. „Мы знаем што гістарычная спазма, аддзеляючая адну эпоху ўсесьветнай гісторыі ад другой—ужо пачалася. Мы не сумневаемся, што зьмена заходна-эўропэйскаму сьвету прыдзе са Усходу.“

Зразумела тут ня можна вымагаць точных доказаў. Пераконаньня падобнага зьместу могуць зьявіцца ў выніку толькі інтуітыўнага адчуваньня ў аснове якога ляжыць тая ці іншая частка веды. Аднак нешта ад чыстай навукі эўразійцы прыводзяць. Так напр. досьледы П. Савіцкага: „Міграція культуры“, „Континент-океан“ і інш, пераконваюць аўтара, што „перамешчаньне культурных цэнтраў адбываецца са старон з цёплым кліматам у староны з халодным кліматам“ (Нінівія, Вавілон, Баглад, Фівы, Троя. Афіны, Рым, Парыж Бэрлін). Так сама досьледы П. Сувчынскага над сучасным станам літэратуры, будаўніцтва і інш; прыводзяць яго да вываду, што мы ўступаем у новую паласу—крушэньня матэрыялізму і пераможства веры. „Эпоха навукі ізноў зьменяецца эпохай веры“, ня ў сэнсе зьніжтажэньня навукі, але ў сэнсе прызнаньня бязсільля спроб вырашыць навучнымі сьродкамі аснаўныя, канечныя праблемы істнаваньня. Дзякуючы гэткаму адчуваньню

[1]) Эўразійскіх зборнікаў дацяпер вышла два: „Исход к Востоку“. Предчувствія и свершенія. Утвержденіе евразійцев. Софія, 1921 г. стр. 125. Другі — „На путях“. Утвержденіе евразійцев. Изданіе Геликон, Москва—Берлин, 1922. Стр. 355 Стацьці Петра Савицкаго А. Карташева, П. Сувчинскаго, кн. Н. С. Трубецкого, Герогія Флоровскаго, П. Бицилли.

эўразійства і робіць у сваіх разважньнях галоўны націск на „пачуцьцё“, а не на веду, на містную прасьвяду, а не на эмпірычны досьлед: „Тайна нашае натхнёнае эпохі раскрываецца ў безбярэжным разьліве містычных адчуваньнеў“. Рэвалюцыя, разам з руйнацыяй старых палітычных форм, кладзе канец рацыяналізму, безжыцьцёвым матэрыялістычным тэорыям. Гэтай зьмене асноў сучаснага духовага жыцьця прысвячана ў эўразійцаў не адна страніца. Пры чым яны ня толькі ставяць на першы плян містыку, інтуіцыю, веру наагул, у іх чыстым неаформленым выглядзе, але імкнуцца давесьці, што гэтыя новыя начаткі жыцьця павінны быць зафіксаваны, павінны выявіцца „ў строгіх формах Цэрквы“. (П. Сувчинскій—„Эпоха вери“; Георгій В. Флоровскій:—„Хитрость разума“; П. Сувчинскій: „Вѣчный устой“ і інш.). „Толькі ў зьеднаньні містыкі і рэалізму ў адно арганічнае цэлае, толькі ў р э а л ь н а й р э л і г і й н а й к у л ь т у р ы, г. зн. ў містычным ажыцёўленьні многаабліčнасьці жыцьцёвай практыкі збаўленьне і выхад з тупіка і бязодні сучаснаснай заблуднай культурна-духовай сьвядомасьці... Пытаньню падобнай рэконкрэтызацыі містыкі, зьяўляючайся слабым мейсцам евразійства, і апраўданьню царкоўнага культу, прысьвячаны так сама спэцыяльны трактат А. Карташева: „Реформа, реформація и исполненіе Церви“.

З прыведзеных данных ясна зарысоўваецца зьвязь эўразійства, як пэўнага грамадзкага цячэньня, са старым славянафільствам. Ідэолёгічная зьвязь гэта заключаецца перш за ўсё ў тым, што эўразійцы, як і славянафілы, вызнаюць самаістую цэннасьць расійскай нацыянальнай стыхіі, веруць, што Расія, „так сама, разкрые сьвету нейкую агульначалавечую праўду, як разкрывалі яе вялічайшыя народы пройшлага і сучаснага“. Яны не ўглядаюць у Расіі „правінцыі Захаду“ што паўтарае яго зады і таму яны далёкі ад быўшых „заходнікаў“. З апошнімі эўразійцы зыходзяцца толькі ў дзедзіне эканамічнай: яны мысьлюць, што расійская „община“ нічога не дасьць, што на „общинных“ начнатках няможна будаваць эканамічны быт Расіі. Зьяўляючыся пасьледавацелямі гістарычнага індывідуалізму эўразійцы скэптычна ставяцца да эканамічнага колектывізму і тым самым да практычнага яго выражэньня—соцыялізму. Паводле іх слоў—Рэвалюцыя пераżываная намі ёсць нішто іншае, як „опытное опроверженіе соціалистических ученій.“ Яна зацьверджае процілежны прынцып—індывідуальны, іначэй кажучы, прыватна ўласны, на аснове якога прынцыпу эўразійцы лічуць магчымым будаваць праграму адраджэньня Рассіі. Ласьне, сьвядомасьць эканамічнай прымітыўнасьці Усходу і вяжэ эўразійцаў з „заходніцтвам“, і яны імкнуцца пазбыцца гэтай прымітыўнасьці шляхам гаспадарчай творчасьці аддзельнай асобы, росквітам эканамічных сіл краю.

* *
*

У артыкуле П. Савіцкага „Поворот к Востоку“, мы знайходзім тлумачэньне арыгінальнага тэрміну—„эўразійцы“. „Расія ёсьць ня толькі“ Захад, але і Усход, ня толькі „Эўропа“, але і „Азыя“ і нават зусім не Эўропа, але „Эўразыя“... „У працэсе вайны і рэвалюцыі эўропэйскасьць“ Расіі пала, як падае з твару маска. І калі мы ўбачылі облік Расіі, не прыкрытый тканіной гістарычных дэкарацый,—мы ўбачылі Расію двулікай“. Пры гэтым аўтар успамінае словы Уэльса аб тым, што Горькага як кашмар гняце страх перад паваротам Расіі на Ўсход“. Эўразійцы не баяцца гэтай магчымасьці, наадварот,—яны яе вітаюць, бо ў п а в а р о ц е Р а с і і н а ў с х о д л я ж ы ц ь з б а ў л е н ь н е я е а д с м е р ц і. і знайходжаньне яе заданьня ў будучыне. „Ці шмат знойдзецца ў Рассіі людзей“, пытаецца адкрыта аўтар, „ў жылах каторых не цячэ хазарская, ці палавецкая, татарская, ці башкірская кроў? Ці шмат рускіх зусім пазбаўлена печаткі ўсходнага духа, яго містыкі, яго любві да разважаньня, ўрэшці яго созерцацельнай лені“.

Яшчэ больш рашуча кажа кн. Н. Трубецкой, „Верхи низы русской культуры. Этническая база русской культуры“: Расійскі народ не зьяўляецца вы-

ключна прэдстаўніком „славянства“. Расійцы разам з угрофінамі і з волжскімі тюркамі твораць асобную культурную зону, маючую зьвязь і з славянствам і з „туранскім“ усходам, пры чым трудна сказаць, якая з гэтых зьвязей больш трывалая і сільная. Зьвязь расійцаў з „туранцамі“ замацавана ня толькі этнографічна, але і антраполёгічна, бо ў расійскіх жылах безумоўна цячэ угрофінская і тюркская кроў“.

А калі так, калі гэткіх людзей чыстай славянскай крыві мала, калі Расія па духу свайму блізка ўсходу, дык німа чаго хавацца за старыя забабоны, а сьмела йсьці на аб‘еднаньне з гэтымаграмадным, яшчэ не паказаўшым сябе, сьветам. Ня трэба турбавацца тым варункам, што і сама Расія і ўвесь Усходны Сьвет у параўнаньню з Эўропай культурна слабы, культурна бедны. У культурнай слабасьці, ў культурнай адсталасьці Рассіі і народаў усходнай Эўропы і Азыі — зарука іх сусьпеху ў барацьбе з трухлеючым заходным, рамана-германскім сьветам. Эўразійцы ў гэтым пункце з асаблівай глыбінёй захопліваюцца аргумэнтацыяй славянафілаў, раскаяўшыхся“ заходнікаў“, заснаўцоў народніцтва і, наагул, усіх тых расійскіх мысьліцяляў, што займаліся горкім і пякучым для іх пытаньнем, пытаньнем аб культурнай адсталасьці Расіі. У гарачай стацьці „О народах неисторических“, Ф. Флоровскі прыводзіць думкі, знаёмыя расійскай літэратуры за часаў Чаадаева. („Философическія письма“ „Апологія сумашедшаго“): „мы, расійцы ,нічога не рабілі ў тую пару, калі ў барацьбе энэргічнага барбарства паўночных народаў з высокай думкай хрысціянства, складалася храміна сучаснай цывілізацыі... Ніводная карысная мысьль не радзілася на нашым грунце!!. Увесь час Расія зьяўлялася культурным жабраком бяз роду і племен[1]. Аднак гэта не засуджае яе на ролю заўсёднай прыслужніцы Заходнай Эўропы. Наадварот, прад Захадам ужо німа жыцьця — ён пражыў яго — будучына належыць усходу. „Захад — гэта забытак, сакрофаг, пышны сьлед мінулага жыцьця“ (Герцен), і ў гэтым значэньні, як сказаў Вл. Соловьёв, „вецер з заходнай стараны сьлёзы навевае“... Захад—страна толькі мінулага, страна астоіўшагася і таму ўжо не парушаючаяся больш. Усе сілы яе уходзяць на ахоў дзедаўскіх багацьцяў і на чыстку музэеў.

„Стары грунт занадта насычан „успамінамі“, занадта засьмечан адкідзьзямі доўгіх векаў жыцьця, і новым растком прыходзіцца ўзыходзіць на вынішчаным грунце, прабівацца паміж застарэўшых атожылкаў. Цягар векавых набыткаў, спадчынных забабонаў, збытых і разьбітых надзей, заўсёды гняце і абярэмяняе мысьль, заўсёды паралізуе тропатнасьць творчага шуканьня“. Маладыя народы Усходу Эўропы пазбаўлены гэтага цэннага, але заразам і цягнучага на дно, багажа. Яны — вольны ў сваіх парываньнях, яны нічым нестрыманы, гэта — іх вэксаль на будучыну. Так „адсутнасьць гістарычнай спадчыны абертаецца ў неацэннае багацьце“.

Успамінаюцца словы Заратустры: „Нядоўга яшчэ чакаць — і новыя народы ўзьнікнуць“... І прад вачамі эўразійцаў адчыняецца пэрспэктыва адраджэньня іх зьневажанай, абяднеўшай, даведзенай да апошняй ступені ўпадку Бацькаўшчыны — як новай старонкі. На зьмену Старога Сьвету прыдзе Эўразія — комплекс народаў, сярод якіх Расія займае серадзіннае палажэньне (Амэрыка, як процістаўленьне Старому Сьвету, так сама залічаецца эўразійцамі ў „староны будучага“, з чым быў згодзен яшчэ Гегель).

Гаворучы аб набліжаючымся адраджэньні Расіі (славянафільскага „трэцьцяга Рыму“), эўразійцы годзяцца, што іх настроі, адчуваньня і вера ёсьць сваеаблічнае выяўленьне нацыяналізму. Але яны далёкі ад нацыяналізму ідэолёгаў „вялікай і недзялімай“ Расіі. Не для таго, кажуць яны, стукаецца гісторыя ў нашы вароты, каб парадзіць якое небудзь зоолёгічнае нашэ самаазначаньне, а для таго, каб у

вялікім высілку Расія дала сьвету новыя цэннасьці. „Не аб Вялікай Расіі павінна гарэць наша сэрца, але перш за ўсё аб ачышчэньні памеркшай ў бязодні Рэвалюцыі расійскай душы.“ У стацьці кн. Н. Трубецкого „Истинный и ложный национализм“ ёсьць прызнаньне, што„ праўдзівы нацыяналізм, які цалком аснованы на самапазнаньні і які вымагае ў імя самапазнаньня перабудовы расійскай культуры, быў у Расіі удзелам толькі адзінічных асоб.“ Ня ў тым, каб крозіць аб вялікадзяржаўі, а ў тым, каб „знайсьці сябе“—задача расійскай думкі. А знайсьці сябе Расія можа толькі ў аб‘еднаньні са ўсходам.

Згодна пераконаньню эўразійства, Расія павінна пайсьці са ўсходам яшчэ з другіх, на гэты раз чыста практычных прычын. Выплываюць яны з таго, што ўзвароту да старога ўжо німа, што ён немагчымы. „Адбудаваньне Расіі ў тым выглядзе, як гэта рысуюць сабе расійскія палітычныя эмігранты, ёсьць нішто іншае, як цуда. Аднэй пекнай раніцы мы прачнемся і даведаемся, што ўсё, што адбываецца цяпер у Расіі, было толькі цяжкім сном і што гэта разам куды-сь згінула“. Праўда, цуды бываюць, але кн. Трубецкой не будуе на ім свайго палітычнага прагнозу. На гэта ў яго знаходзяцца больш празаічныя абасновы: „Вайна і бальшавікі давялі Расію да гэткай ступені занепаду, што падняцца з яе можна толькі паволі і пры дзейнай дапамозе чужаземцаў. Апошнія безумоўна прыдуць на дапамогу Расіі, але, канешне, ня з тым, каб адбудаваць яе мінулую моц: Эўропа прыдзе ў Расію, каб абярнуць яе ў сваю калёнію. Каленіяй Заходнай Эўропы Расіі суджана быць пасьля бальшавіцкай Рэвалюцыі пры ўсіх коньюктурах—ці спраўдзяцца надзеі бальшавікоў на ўсесьветную рэвалюцыю, ці не. „Бяз гэткай Рэвалюцыі Расія будзе калёнія буржуазных рамана-германскіх старон, а пасьля гэтай Рэвалюцыі—калёнія комуністычнай Эўропы. „Але калёніяй яна будзе як пры тэй, так і пры другой комбінацыі. „Страніца гісторыі, на якой напісана „Расія—вялікая эўропэйская дзяржава“ раз на заўсёды перэвярнулася“... „Адцяпер Расія ўступіла ў новую эпоху свайго жыцьця, ў эпоху ўтраты сваей незалежнасьці. Будучая Расія—калёніальная старана, кшталтам Індыі, Эгіпту, ці Марокко“.

Аднак эўразійства не прыходзіць ад гэткай панурай прагнозы ў роспач. „Калёніальнасьць“ будучай Расіі не выклікае ў іх стыда за яе, яны ўжо пазбаўлены фальшывай саромлівасьці. Для калёніальнай Расіі яны знайходзяць вялікую задачу на аграмадным Эўразійскім контынэнце, якая задача дыктуецца зьвязаннасьцю яе з усходным сьветам, і якая можа прывесьці да зусім неспадзеваных вынікаў.

„Уступленьне Расіі ў сямью калёніальных старон адбываецца пры спрыяючых аўсьпіцыях. Аўтарытэт романа-германцаў у калёніях за апошнія часы значна падае. Пагарджаныя „туземцы“ паўсюды паволі пачынаюць падымаць галовы і ставіцца крытычна да сваіх паноў. І трэба вызнаць, што бальшавікі, якія сваімі экспэрымэнтамі прывялі Расію да неўнікнёнасьці абярнуцца ў загранічную калёнію—падгатавалі яе заразам да ролі павадыра за вызваленьне калёніальнага сьвету ад романа-германскага ярма. „У сьвядомасьці значнай часткі „азіятаў“ бальшавікі, а разам з імі і Расія, крэпка злучыліся з ідэямі нацыянальнага вызваленьня ад эўропэйскай цывілізацыі. Адцяпер інтэрасы Расіі непарушна зьвязаны з інтэрасамі Турцыі, Пэрсыі, Афганістану, Індыі, магчыма, Кітаю і іншых старон Азыі... У перамогадайным выніку гэтага змаганьня—адзіная надзея на ўратаваньне Расіі.“ Яна павінна стаць на чале сваіх азіяцкіх сясьцёр у іх сумеснай барацьбе супроць рамана-германцаў і эўрапэйскай цывілізацыі.

Гэткі апошні практычны вывад і погляд эўразійцаў на сучаснасьць і бліжэйшую будучыну. Кажучы праўду, да падобных мысьляў трэба прывыкнуць,

асабліва ўсім нам, углядаўшым (ды і ўглядаючым!) у Расіі толькі імпэрыялістычную сілу, славэтную „турму народаў“. Расія на чале паняволеных каленіальных нацый—гэта так неспадзявана, так нязвыкла, супярэчыць нідаўнаму прошламу, што адразу неяксьці не паддаецца да ўразуменьня. Аднак падобныя цьверджаньня, выказаныя найбольш аўтарытэтнымі прэдстаўнікамі расійскай філёзофска-палітычнай думкі, павінны навесьці кождага чытача на глыбокую сумленную развагу.

* *
*

Карэньні крытычнага стасунку эўразійства да сучаснасьці і агульны характар яго цьверджань, можна прасьледзіць у расійскай літэратуры яшчэ некалькі гадоў назад. Так напр., пропаведзь барацьбы Эўропэйскага усходу супроць рамана-германскай культуры мы ў перш знайходзім у таго-ж кн. Н. С. Трубецкога ў яго працы: „Европа и человѣчество“, (Софія 1920 г.) дзе аўтар зазначае што „думкі ў ей зазначаныя зьявіліся ў яго яшчэ 10 гадоў таму назад“. Галоўнай ідэяй аўтара лёгшай у аснову сучаснага эўразійства была мысль аб тым, што Эўропа прысвоіла сабе якуюсь гегемонію над сьветам (культурны эгоцэнтрызм) і што чалавецтва, якое складаецца ня толькі з рамана-германскай расы і якое тоіць ў сабе цаннейшыя элемэнты螺 рознаякай культуры, павінна пазбавіцца гіпнозу „добрасьцяў эўрапэйскай цывілізацыі“. Цьверджаньне Эўразійцаў аб адсутнасьці ў гісторыі „апошніх слоў“ і выбраных народаў, можна паставіць у зьвязь з тымі шуканьнямі ў дзедзіне філёзофіі права, якія пачаў у 1909 г. вядомы расійскі праўнік проф. П. Новгородцев у сваіх працах, „Кризис современнаго правосознанія“ і, асабліва, ў сваёй знамянітай працы выйшоўшай сёньня трэйцым выданьнем: „Об общественном идеалѣ“. (1917, 1919 і 1921). Яго тэорыя свабоды безканечнага развіцьця і бліскучы досьлед аб „разпадзе утопій зямнога раю“, як можна заўважыць, паслужылі адным з грунтоўных аргумантаў для эўразійства ў развенчваньні стодахвальства прад рацыоналістычным Захадам і прычыніліся лішнім доказам бязсільля матэрыялістычных, у тым ліку соцыялістычных, марксікіх тэорый. У заходнай літэратуры ў самай безпасярэднай зьвязі з эўразійствам стаіць Spengler: „Der Untergang des Abendlandes“, 1921, сваімі сінхроністычнымі табліцамі даводзячый, што Заходныя дзяржавы знайходзяцца на перадодні гістарычнага занепаду. Безварункова значную ролю павінны былі адыграць у сьветапаглядзе эўразійцаў навейшыя творы ў французскай літэратуры, насамперад тыя, ў якіх праводзіцца сваей адмены поэтызацыя усходу, яго глыбіні і вялікасьці (напр. Ch. Diche „Bysance“, 1919).

Як відаць з параўнаньня імён супрацоўнікаў першага зборніка з другім, лік пасьледаваццеляў эўразійства павялічваецца незначна (прыбавіліся А. Карташев,—яго стары багаслоўскі трактат ад 1916 г. і П. Біцілі). Аднак папулярнасьць эўразійскіх цьверджань надзвычайная, што можна бачыць з таго, што першы зборнік ужо разышоўся. Сярод сучасных пісьменікаў вельмі блізка да эўразійцаў стаіць Ів. Бунаков („Пути Россіи“, Соврем. Записки, 1921-1922 кн. 3, 4, і далей, які прыводзіць яшчэ больш дэтальны агляд мінулых шуканьняў расійскай думкі (Чаадаев, Герцен, Міхайловскій, Чернышевскій і інш), які так сама годзіцца, што „ў Расіі німа прошлага, што прошлае яе пустое беднае і абмежанае—і ў гэтым яе перавага“ Ен так сама склонен думаць, што хоць у Чалавецтве шляхі Расіі не асобныя, але для Захаду—Расія скажа своё новае слова! Разам з эўразійцамі Ів. Бунаков годзіцца, што будучына Расіі—на вялікім Эўропэйска-Азіяцкім контынэнце і што адраджэньне яе можа паўстаць не праз народніцкую „грамаду“, а звычайным „эўропэйскім“ шляхам, толькі са усходнымі асаблівасьцямі („Расіі належыць цяжкі і мучыцельны шлях новага гаспадарчага увасходжаньня к Захаду“). Ів. Бунаков нагэтулькі блізка (у яго разважаньнях адсутны рэлігійны момант) стаіць да эўарзійцаў, што ня будзе нічога дзіўнага, калі ў бліжэйшым часе мы

ўбачым яго сярод іх. Крытыка сустрэла эўразійцаў з вялікай зацікаўленасьцю. Само сабою, што аднадумнага адношэньня да проблем, імі закранутых у крытыцы німа, як німа у ей наагул чаго небудзь акрэсьлянага, агульна прынятага ў стасунку да падзей сучаснасьці, асабліва да Рэвалюцыі. Найбольш рашуча выказаўся аб эўразызме Пётр Струвэ („Россія“, Русская Мысль, 1922, Март, стр. 104-105). Ён прытасоўвуе да яго тэрмін „гібрыднай ідэолёгіі пароджанай Рэвалюцыяй“ і робіць спробу паставіца да яе іранічна параўнаньнем эўразійскай тэорыі да дактрыны „аднаго славянскага ненавісьніка Расіі, нейкага паляка Духінскага, які больш чым 50 гадоў таму назад прапаведваў, што „маскавіты“, гэта усходная туранская раса толькі зьверхне стыкнуўшаяся з Заходнай, славянскай культурай“ (F. N. Duchinski de Kiew. Peuples Aryas et Taurans... etc. Paris, 1864). Ад паборніка „новой жизни и старой мощи“ (гл. П. Струве—„Размышленія о русской революціи“) іншага чакаць ня можна; але можна адзначыць, што іронія яго няшкодная, бяззубая: як мы бачылі, эўразійства ў сваім ўздойме над фактамі сучаснасьці перашагнула ўчарайшыя патрыотычныя шпаргалкі аб „адзінай недзялімай“ і яго падобнымі закідамі не парушыш. Ня могуць давесьці „бездарожыцы“ эўразійцаў і нацыянал-бальшавікі (сьменавехаўцы), для якіх „апраўданьне“ октября, становіць офіцыяльную задачу.

*А. Ц—Ч.*

---

## Дэкларацыя Маршалка Рады Б. Н. Р.

### Вярхоўнай Радзе Лігі Нацый.

Дзеля таго, што 18 чэрвеня зьбярэцца ў Лёндане Вярхоўная Рада Лігі Нацый для абмярквааньня больш важных і неадложных пытаньняў, ў тым ліку і пытаньня аб меншасьцях у Польшчы, лічу патрэбным зазначыць нижэйпісанае:

Пытаньня аб меншасьцях як гэткага, ў Польшчы німа. Усе нацыі, акром польскай, аднальково прыгнечаны і ніводная з нацый у Сойме не прадстаўлена, акром жыдоўскай, бо ў часе выбараў у Сойм была апавешчана нацыянальная дыктатура, прадоўжаньнем якой быў і Віленскі сойм у студні месяцы гэтага году. У Польшчы ня можа быць ня польскай арганізацыі, а тым больш гаворачай не на польскай мове, хоць-бы яна аднасілася і саўсім лояльна да польскай дзяржаўнасьці.

Астаецца пытаньне аб акупаваных палякамі ня польскіх абшарах Беларусі, Украіны і Галічыны. Гэты меншасьці, калі, нават не лічыць немцаў, чэхаў, расійцаў і жыдоў, складаюць ня менш палавіны ўсяго жыхарства Польшчы—пытаньне аб іх і становіцца на парадак дня у Лёндане.

Мы, беларусы, катэгарычна адкідаем ўсякае супрацоўніцтва з палякамі ў форме меншасьці ў Польшчы. Абшары этнографічна беларускіх зямель павінны быць вернуты Беларусі, ануляваньнем Рыжскага міру і нават лініі Кэрзона. Прызнаньне сувэрэнных правоў беларускага народу на гэтых землях будзе самай справядлівай разьвязкай беларускага пытаньня.

Быў час у 1919 і 1920 г. калі, здавалася магчымай думка супрацоўніцтва з Польшай на правох дабравольнай сувязі няўшчэрб незалежнасьці Беларусі, але пасьля таго, як афіцыяльна і ўрочыста у Рызе 18. III. 21 абедзьвемі старонамі, Польшчай і Расіяй—была прызнана праклямаваная 25. III. 18 г. незалежнасьць Беларусі, а на мейсцох зьпішчана, ня толькі незалежнасьць, але і куль-

турна-нацыянальная аўтаномія—ўсім папалітычным групоўкам Беларусі стала яўнай фальш і лжа польскай палітыкі.

Школы, дабрачынныя і культурныя арганізацыі, коопэратывы, нават цэркві, —ўсё тое, што выяўляла сабой беларускую нацыянальную ідэю, безпашчадна зьнішчалася Польшчай. З усяго, што было ў Беларусі, нават пры Немцах і бальшавіках, асталося толькі, для адводу вачэй, 9 беларускіх пачатковых школ, утрымліваных селянамі сваім коштам.

Усё жывое і змагаючаеся за ідэю беларускага адраджэньня часьцю разстрэляна, а ў большасьці морыцца дагэтуль у турмах і концэнтрацыйных лагерах Польшчы.

На ўсей Беларусі пануе гвалт і ўціск польскіх жандараў, разпраўляючыхся з жыхарствам ня горш савецкіх чэкістаў. Палякі—бальшавікі ўрукавічках—робяць ўсякія зьдзекі з ня меншай, чым камуністы жойстрасьцю, толькі спрытней і скрытней ад воч Эўропы.

Памалу, але плянова, зніштажаецца палякамі беларуская нацыя, ня толькі нацыянальна, але прост фізычна.

Умысловае, культурнае і маральнае жыцьцё, Польшча кінула ў летарг.

Віленскі польскі унівэрсытэт зьяўляецца ня мейсцам навукі для маладзежы, а моўніцай для пагромнай агітацыі супроць чужародцаў. Студэнты яго заўсёды акуратна прыймаюць удзел у арэштах і обысках беларусаў, літвіноў, жыдоў і нават у жыдоўскіх пагромах, як гэта мела мейсца 2 чэрвеня г. г. у Вільні („Gazeta Krajowa“ Nr. 144—4 VII. 1922)

Вярхоўная Рада Лігі Нацый, прыймаючы пад увагу ўсе гэты гвалты над нацыянальнасьцямі прылучанымі аружнай сілай да Польшчы, павінна сказаць свае цьвёрдае і рашучае слова ў абарону паняволеных нацый,

Пытаньне пякучае і неадложнае. Мы жджом. Разьвязка гэтых пытаньняў пакажа ўсім народам, за што стаіць Ліга Нацый—за справядлівасьць ці пагнобленьне.

*П. Крэчэускі.*

---

## Тэлеграма Старшыні Рады Міністраў Б. Н. Р.

### Конфэрэнцыі Вярхоўнай Рады Лігі Нацый у Лёндане.

Беларускае жыхарства акупаванай Польшчай Горадзеншчыны, Віленшчыны і часьці Меншчыны пазбаўлена ўсякіх нацыянальна-палітычных і чалавечых правоў. Нахрапная полёнізацыя ўсё атабрала.

1. Карыстаньне беларускай мовай у установах і цэрквах забаронена;

2. Сыстэматычна зачыняюць беларускія школы: ва ўсей Горадзеншчыне німа ўжо ніводнай беларускай школы;

3. Нешчадна прасьледуюцца беларускія грамадзка-палітычныя і культурныя арганізацыі—закрыты ўсе коопэратывы;

4. 262 праваслаўных цэркзі закрыты;

5. Разхічаецца ацалеўшае пасьля вайны беларускае нацыянальнае багацьця—ў першы чарод лясы;

6. Землі беларускіх уцекачоў аддадзены польскай вайсковай каланізацыі;

7. Усякая праява беларускай нацыанальнай самаістасьці і самаабароны нешчадна караецца: стасаваныя супроць беларусаў арэшты, грабяжы, выгнаньнянапасьці і страшэнныя зьдзекі абярнулісяў ў сыстэму вынішчаньня абяздо-

ленага войнамі і гібеючага ад пошасьцяў і голаду беларускага жыхарства.

Беларусы становячыя абсолютную большасьць, звыж (70%) жыхарства захопленага палякамі абшару, ня хочуць, каб іхнімі сувэрэннымі і дзяржаўнымі правамі карысталіся іх гістарычныя і цяперашнія палачы.

Просім Раду Лігі Нацый настаяць на выяаўненьні, замацаваных аўтарытэтам Вялікіх Дзяржаў, і, прынятых на сябе Польшчай у Спаа забавязаньняў. Нараў і Буг гістарычная і этнографічная граніца Польшчы з Беларусьсю.

*Ластоускі.*

Старшыня Рады Міністраў Беларускай Нардонай Рэспублікі.

16. VII. 22.

---

# Мэмарандум.

## Канфэрэнцыі Венскага Соцыялістычнага Аб‘еднаньня, ад Беларускай Партыі Соцыялістаў-Рэволюцыанэраў.

28 чэрвеня мінуўшага 1921 году ў Выпаўняючы Камітэт Венскай Міжнароднай Соцыялістычнай Канфэрэнцыі ад Беларускай Партыі Соцыялістаў-Рэволюцыанэраў была пададзена заява, ў якой коротка вылажана гісторыя Партыі, яе агульныя заданьні, яе становішча і праца ў бягучы момант. Разам з тым была выказана просьба аб улучэньні Беларускай Партыі Соцыялістаў-Рэволюцыанераў у склад Венскага Соцыялістычнага Аб‘еднаньня. Пытаньне аб улучэньні нашай Партыі ў склад В. С. А. па скольскі нам вядома, было перададзена на абмяркаваньне Выпаўняючага Камітэту Аб‘еднаньня і на наўзбежнай Канфэрэнцыі будзе вырашана. У гэтым мэморандуме Беларуская Партыя С. Р. у асобе Камітэту Загранічнай Групы, яшчэ раз просіць аб улучэньні яе ў лік сяброў Венскага Аб‘еднаньня. Гэтым нашай партыі будзе выказана падтрымка ў яе змаганьні за вызваленьне працоўнага беларускага народу і ўзмацуе яе сьвядомасьцю, што эўрапэйскі пралетарыят солідарызуецца з Беларускай Партыяй С. Р. у гэтым змаганьні.

Разам з гэтым Камітэт Загранічнай Групы далучае свой голас да гарачага пажаданьня многіх, каб думка аб аб,еднаньні ўсіх міжнародных соцыялістычных органаў, і груповак была праведзяна ў жыцьцё, каб энэргія працоўных Эўропы ў змаганьні з насуваючайся рэакцыяй не раздраблялася на між-арганізацыйныя спрэчкі і перасуды, Б. П. С. Р. дабачае ў падобным аб‘еднаньні вялікі акт сьвядомай пралетарскай прыміроннасьці і сьведзтва сілы тых, хто змагаецца за вызваленьне сьвету.

Акром таго Б. П. С. Р. Робіць некалькі заяў у пытаньнях палітычнага палажэньня Беларусі, на якія-б яна хацела пачуць адповедзь ад наўзьбежнай Канфэрэнцыі, бо мы бачым у Канфэрэнцыі ня толькі орган соцыялістычнай мысьлі і клясавую арганізацыю, але, такжа, міжнародную чынную сілу, могучую і павінную заняцца пытаньнямі агульнай палітыкі, ўстраіваючай долю цэлых народаў.

* * *

I. — Беларусь з прычыны свайго географічнага палажэньня зьяўляецца арэнай змаганьня расійскага і польскага імпэрыалізму. За селянскую Беларусь (Беларусь край з 75% селянства не мае сваей нацыанальнай буржуазіі, ні тарговапрамысловай ні зямельнай) паміж Расіяй і Польшчай вядзецца векавое змаганьне (пачынаючы з XVI ст.). Гэта яе гістарычнае нешчасьце, гэта галоўная прычына таго, што Беларускаму Працоўнаму Народу назвычайна цяжка замацаваць сваю незалежнасьць. Была на-

дзея, што пасьля 1917 году, апасьля разпаду царскага ладу і вызваленьня Польшчы, вышэйпамянёнае гістарічнае нешчасьце будзе ліквідавана. Аднак надзеі ня зысьціліся: паміж вызваленай Польшчай і Рэволюцыйнай Расіяй тойчас узнавілася старое змаганьне за абладаньне Беларусьсю. Гэта лішні раз спраўдзіла тую гістарычную праблему што згода паміж абедзьвема старанамі адзіна магчыма шляхам выключэньня Беларусі, як аб'екту спрэчкі і прызнаньня яе незалежнасьці. Каждая са старон намагаецца захапіць Беларусь цалком, толькі пры гэтым варунку яна цяміць сябе спакойнай. Гэткае заданьне польскай і Савецкай палітыкі ў бягучым часе, незважаючы на Рыжскі мір. Заданьне-ж беларускага працоўнага народу — дабіцца свайго вызваленьня ад польскага і расійскага уціску і замацаваць сваю незалежнасьць. У гэтым змаганьні імпэрыалістычных дзяржаў з народам Соцыялістычны Інтэрнацыанал, думаем, не астанецца індэфэрэнтным. На пытаньне аб незалежнасьці беларускага народу павінна быць дадзена ясная адповедзь і мы ставім гэтае пытаньне перад Канфэрэнцыяй. Б. П. С. Р. чакае ад Канфэрэнцыі падтрыманьня.

II. — Рыжскі мірны трактат спыніў безпасярэдныя ваенныя чыннасьці паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. Але ён не пазбавіў іх імпэрыалістычнай лачнасьці. Пракавечнае мінулае паўтараецца. У бягучым моманце ізноў адбываецца старая барацьба за Беларусь. Мы сьцьверджаем, што згода паміж Польшчай і Расіяй і зьніштожаньне прычыны безканечных збройных закалотаў на Усходзе Эўропы, магчыма адзіна толькі шляхам вылучэньня Беларусі як аб'екту спрэчкі, іначы кажучы, шляхам прызнаньня яе незалежнасьці. Усе гэта разумеюць, але рэдка хто заўляе гэта наўсуслыш.

Рыжскі трактат зрабіў фарысейскую спробу прызнаньня незалежнасьці Беларусі. Параграфам першым гэтага трактату незалежнасьць Беларусі абедзьвема старанамі прызнана, але наўсьледнымі параграфамі абшар Беларусі падзелены паміж Расіяй і Польшчай. Больш цынічных адносін да найвялікшай сьвятыні народу—яго адзінства нельга прыдумаць. У гэтым сэнсе падзел Беларусі ўчынены Рыжскім трактатам, роўназначны падзелу Польшчы ў 1772 гаду. Сучасныя Урады Эўропы з розных, больш за ўсё эгоістычных, мяркаваньняў, замаўчваюць агіду Рыжскага трактату, як штучна вымінаюць гвалт трактату Вэрсальскага. Абодвы гэты акты імпэрыалістычнага гвалту павінны быць перагледжаны — соцыялістычнае сумленьне павінна голасна заявіць аб гэтым. Б. П. С. Р. адкрыта ставіць перад Канфэрэнцыяй пытаньне аб сьцьверджаньні пагвалтнасьці рыжскага трактату і аб патрэбе перагляду яго.

III. Жахлівае становішча беларускага працоўнага народу пад варожымі акупацыямі—польскай і бальшавіцкай—павінна хоць на момант спыніць увагу Канфэрэнцыі. Эканамічнае багацьце Беларусі, ў першы чарод лясы, становячыя адзінае абазпечаньне народу, зруйнаванага вялікай вайной, бальшавіцкай руінай і расійска-польскай вайной,—разхічаюцца акупантамі самым безсумленным спосабам (згодна статыстыцы, за час вайны і акупацый, вынішчана ня менш 25% лясавых багацьцяў). На землях беларускіх уцекачоў, выгнаных з краю старой царскай уладай, ў ліку 2-х мільёнаў, перад навалай нямецкіх войскаў і правёўшых на чужыне ў голадзе, холадзе і хваробах больш 5 гадоў—разселяюцца польскіе салдаты каланісты (закон польскага ураду ад 27/XII-1920 г.). Вярнуўшыся няшчасьнікі, бяз хлеба і страхі, дзесяткамі тысяч гінуць у вайсковых акопах і зямлянках. Беларускае нацыянальна-культурнае адраджэньне з з аднэй стараны фронту апавешчаецца дзеяньнем контррэволюцыйным (Саветы), з другой стараны— супроцьдзяржаўным (Польшча). З больш чым 300 школ быўшых у часе вайны, пад польскай акупацыяй, асталося меньш дзесяці. Беларуская масса ад акупанцкай улады пераносіць рэлігійные прасьледаваньня. Беларускіе палітычные дзеячы і цэлыя партыі (ў першы чарод беларуская

партыя С. Р.) ставяцца ўзне права. У польскіх турмах у гэтым часе знаходзіцца да 10-ці тысяч беларускіх палітычных вязьняў; колькі увязьнена ў бальшавіцкіх турмах—трудна устанавіць, але ня меней 3-х тысяч.

Змучаная ўсім гэтым і давeдзеная да розпачы беларуская селянская масса адпаведае акупанцкім уладам паўстаньнямі. За апошні 1921-1922 год пад польскай акупацыяй зарэгістравана 6 буйных збройных массавых паўстаньняў, пад бальшавіцкай 4. Гэта пацягае за сабой масавые разстрэлы, паленьня вёсак, перасяленьне цэлых сяліб у другія мейсцы і г. п. Змаганьня народу з акупацыйнай ўладай не спыняецца ні на момант. Да страхоцьцяў сямілетняй вайны і разьдзелу далучаюцца жахі і апошняга эканамічнага адненьня, галоднай сьмерці, нацыанальнага прыгнобленьня, палітычнага і рэлігійнага сьціганьня. Калі ў долі Беларусі ня прыйме ўдзелу якая небудзь магутная міжнародная ўстанова,—будучына нашай Бацькаўшчыны самая панурая. Беларуская Партыя С. Р. прыймае абарону інтарэсаў Бацькаўшчыны на сябе і апэлюе да Міжнароднага Соцыялістычнага Аб'еднаньня—бягучай Канфэрэнцыі. У Канфэрэнцыі ёсьць способы, хоць чым колечы, дапамагчы палягчэньню нашага змаганьня за права жыць і разьвівацца. Гэтым способам перш за ўсё ёсьць—сьцьверджаньне фактаў ва ўсей іх жыцьцёвай агідзе, і пасьля—магчымасьць пацягнуць да маральнай адвядальнасьці тых, хто проста, ці скосна, прыймае ўдзел у зьдзеках, якія вытвараюцца над працоўнымі масамі Беларусі.

У першы чарод павінна быць затрэбавана адповедзь ад Польскай Партыі Соцыялістаў (П. П. С.). Які яе стасунак да тых гвалтаў, ад якіх гібее жыхарства Заходнай Беларусі, захопленай польскімі войскамі. Які яе стасунак да адносных загадаў Ураду Польскай Дзяржавы, з якім Урадам Польская Партыя Соцыялістаў (П. П. С.) мае безпасярэднюю стычнасьць. Дагэтуль ніхто ня чуў ад яе ні слова дакоры дзейнасьці польскага Ураду і мейсцовай Улады, і маўчаньне яе ў тэй страшэннай справе ёсьць сукосная падтрымка тэй дзейнасьці. Мы вымагаем на гэтыя пытаньні яснай адповедзі.

Расійскія партыі левых Соцыялістаў-Рэволюцыанераў і Соцыал-Дэмократаў, мы спадзеемся, прыдуць з брацкай пад трымкай Беларускай Партыі С. Р. Падтрымка ад іх можа выразіцца, як у тым, што імі будзе выражана прызнаньне права беларускага Народу на сваю незалежнасьць, так і ў тым, што яны вынясуць засуд страхоцьцям, якія дзеюцца ў Усходняй Беларусі, захопленай маскоўскімі камісарамі. Мы не скіроўваем свайго вымаганьня да Расійскай Камуністычнай Партыі, бо ведаем, што акурат рукамі гэтай партыі зроблен падзел Беларусі ў Рызе (а раней у Бярэсьці-Літоўскім), што, мяноўна, ею робіцца разбураньне Беларусі як эканамічнае так і палітычнае.

Становішча Беларускага Народу, падзеленага на двое і які на два фронты вядзе змаганьне, ставіць усю справу беларускага вызвольнага руху ў асабліва трудныя варункі. У тым, каб весткі аб чыненых у Беларусі гвалтах не пранікалі ў друк, каб на цярпеньня беларускага працоўнага народу не прыцягаць увагі,—ў гэтым адначасна зацікаўлены і камуністы і эўрапэйская буржуазія: камуністы — рупячыся аб савецкай Рассіі, і буржуазія—рупячыся аб польскім Урадзе. Паміж Савецкай Расіяй і Польшчай, датычна Беларусі, істнуе якбы няпісаная, маўклівая згода, сваей адмены ўзаемная парука.

Беларуская Партыя Соцыялістаў-Рэволюцыанераў пэўна, што праз гэту Канфэрэнцыю голас замучанага беларускага Народу будзе пачуты ў Эўропе, што Канфэрэнцыя скажа, аб беларускім пытаньні сваё цьвердые слова. Наша партыя чакае гэтага слова, яна чакае ад Канфэрэнцыі дзейнай Соцыялістычнай дапамогі.

З таварыскім павітаньнем:

Старшыня Камітэту Заграничнай Группы Беларускай Партыі Соцыалістаў- Рэволюцыанераў А. Карабач,

Сэкрэтар В. Пракулевіч.

30 Жніўня 1922 году

## Пратэст

### Беларускіх Соцыалістычных Партый супроць засуду Расійскіх С.-Р. ў Маскве.

Заграничнае Бюро Партыі Беларускіх Соцыалістаў-Рэвалюціанераў, Партыя Соцыалістаў-Фэдэралістаў і Соцыал-Дэмакратаў рашуча пратэстуюць, супроць акту помсты, учыненага маскоўскім трыбуналам над нашымі таварышамі расійскімі соцыалістамі-рэволюцыанерамі, засуджанымі на кару сьмерці.

Нечуваны працэс, у якім судзілі старых барцоў расійскай рэвалюцыі, па нагавору правакатараў, за мінулые учынкі революцыйнай барацьбы, навет за тое, што яны думаюць рабіць у будучыне — ёсьць зьдзек ня толькі над соцыалістычнай справядлівасьцю, але проста чалавечай.

Беларускія Соцыалістычныя Партыі горача выказуюць героям глыбокую пашану і верацъ, што рука катаў не падымецца на таварышоў Соцыалістаў-Рэвалюцыанераў, калі проці гэтага пратэстуе соцыалістычнае сумленьне працоўных мас усяго сьвету.

Ад Заграничнага Камітэту Беларускай Партыі Соцыалістаў-Рэвалюцыанераў —А. КАРАБАЧ.

Ад Беларускай Партыі Соцыалістаў-Дэмакратаў — М. ВЕРШЫНІН.

Ад Цэнтральнага Камітэту Беларускай Партыі Соцыалістаў-Фэдэралістаў —- В. ЗАХАРКО.

# Агляд прэсы.

### Крывавы дакумант.

ЯГО ДАСТОЙНАСЬЦІ

Пану Прэзыдэнту Літоўскай Рэспублікі (копіі ўсім Прэдстаўнікам Эўропэйскіх Дзяржаў і Амэрыкі ў Літве).

МЭМОРЫАЛ.

1922 году, ліпня 25 дня, мы ніжэйпадпісаныя дэлегаты ад акупаваных палякамі валасьцей Віленшчыны і Горадзеншчыны, просім Вас падаць да ведама Урадаў і грамадзянстваў Эўропы і Амэрыкі і паклапаціцца аб назначэньні, магчыма хутчэй, камісыі Лігі Нацый дзеля разсьледаваньня гвалтаў і зьдзекаў, робленых палякамі над бацькамі і сваякамі тых, хто не прызнае акупантаў, не прыймаў удзелу ў „Віленскі Сойм“ і ня хоча ісьці ў польскае войска, а хаваецца ў лясох.

Падаем некаторыя факты гэтых абураючых гвалтаў.

1. Прывязваюць да ног дошку і бьюць па ей даўбешкай пакуль не пакажацца кроў з вушэй і носу, а пасьля ледзь жывога кідаюць на разтурзаньне сабакам (Зьміцер Будзька, стараста вёскі Бэршты, Горадзенскага павету).

2. Рэжуць жывое цела і раны пасыпаюць сольлю, а пасьля цкуюць сабаками. Гэтак зрабілі з Валадзімерам Васілевічам, за брата, які адмовіўся пайсьці-

ў польскую армію (вёска Бэршты, Горадзенскага павету).

3. Гарачыя шомпалы ад карабінаў ўбіваюць у ногі — Сяргейчыку Язэпу 47 лет, за сына (вёска Бэршты, Горадзенскага павету).

4. Зьбілі, і, пасьля, падвесілі на 2 гадзіны за ногі В. Варонку, старасту в. Бэршты, Горадзенскага пав).

5. Зьбілі ціжарную матку за сына — гэтак, што яна раней часу радзіла (Марыя Шэставіцкая — вёска Бэршты, Горадз. пав).

6. Зьбілі і зацкавалі сабакамі Александра Гурскага з в. Сухары, Бэрштаўскай воласьці, Горадзенскага павету).

7. Жандары зьбілі да паўсьмерці Тумаша Шчаснулевіча 58 гадоў, з вёскі Марцінканцы за тое, што не пазволіў пасьвіць коні на сваей пожні.

9. Зьбілі да паўсьмерці Васіля Дабравольскага за тое, што брат яго не пайшоў у польскую армію (в. Абруч, Астрынскай вол, Лідзкага павэту).

10. Зьбілі бацьку і сына Крушыцоў за тое, што сын не пайшоў у польскую армію.

11. За тое, што Іван Брыкач з вёскі Алішковічы, Астрынскай воласьці, ня хоча ісьці ў польскую армію і хаваецца ў лесе, зьбілі да сьмерці яго бацькоў, такжа ўсіх селян вёскі зьбілі да паўсьмерці і ўсю іхню маентнасьць разграбавалі.

Турмы перапоўнены грамадзянамі акупаванага краю.

Наагул, усіх жыхароў Горадзенскага, Лідзкага і Троцкага паветаў неміласэрна зьбіваюць і грабуюць іхню маемасьць.

Зусім разграблены жандарамі і салдатамі сялібы Троцкага павету: Марцінканцы, Ліпіца, Шумы, Крокшлі, Кобелі, Даржэлі, Маргевічы, Капянішкі і інш.

Лідзкага павету: Зенякі, Алішковічы, Новы-Двор, Астрына, Абруч, Рыбакі і інш.

Горадзенскага павету: Бэршты, Сухары і інш.

Пералічаныя факты толькі часткова асьветляюць польскія гвалты і вылічаюць самую незначную частку таго, што вытвараюць палякі акупанты над гаротным жыхарствам Віленшчыны і Горадзеншчыны.

Дакумант падпісан 38 прэдстаўнікамі ад 10 валасьцей Віленшчыны і 7 валасьцей Горадзеншчыны.

---

## Теорыя і дзейснасьць.

„Kurjer Krajowy“ № 153, ад 14/VII—22 г. разважае, ў артыкуле пад павыж дадзеным загалоўкам, аб беларускім руху, з прычыны цьверджаньня п. Кульчыцкага ў „Tydzień Polski“ („Spór o stosunek do Rosji“ „№ 10 ад 4/III 1922 г.), што „гутарка і пісаньне аб беларускай дзяржаўнасьці, гэта палітычная наіўнасьць. Беларусы ніколі ня мелі і не маюць удачы патрэбнай да ўтварэньня ня толькі асобнай дзяржавы, але нават да ўтварэньня асобнай нацыанальнасьці?

На гэткае цьверджаньне п. Кульчыцкага „К. К.“ заўважае, што п. Кульчыцкі праз свой палемічны тэмпарамтнт загнаўся лішне далёка, бо:

> „Безстароннае дасьледаваньне беларускага руху, на працягу апошніх гадоў, павінна давесьці да высноўку, што рух гэты няўпынна разьвіваецца агартаючы што раз шырэйшыя кругі паходзячай з народу інтэлігенцыі і поўінтэлігенцыі, а так-жа знаходзячы ў некаторых мейсцовасьцях падатны грунт у настроях народных масс. Разрост беларускіх школ, а так-жа пабольшаньне ліку студэнтаў—Беларусаў у Віленскім Унівэрсытеце—гэта толькі пару найболш відавочных довадаў разьвіцьця нацыанальнай сьвядомасьці паміж Беларусаў. Паторная думка шырокіх кругоў нашага гра-

мадзянства, што беларускі рух штучна выкліканы нашымі ворагамі—вялікая памылка. Рух гэты уяўляе сабой адну з праяў прычын дабачаных на працягу апошняга сталецьця ва ўсей Еўропе.

Ці праява гэта з пункту інтэрасаў польскай дзяржаўнасьці пажадана, ці-не—гэта ўжо зусім іншае пытаньне. Трэба перад усім сьцвердзіць, што рух беларускі істнуе і становіць вядомую рэальную сілу, з якой польская дзяржава ня здужае ня лічыцца ў бліжэйшай, або далейшай будучыне.

Ня трэба забывацца, што на ўсходных абшарах дзяржавы ёсьць колькінадцаць паветаў у якіх працэнт праваслаўнай народнасьці хіблецца ад 52 да 81. Народнасьць гэта этнічна ёсьць безсумнеўна беларускай... пераконаньне, што можна яе ў блізкай будучыне спольшчыць уяўляецца надта рызыкоўным, а нават не рэальным.“

---

### З Менска.

Карэспандэнт расійскай амэрыканскай газэты „Новое Русское Слово“ пабываўшы ў ліпені г. г. ў Менску так яго апісывае:

„Шкілеты менскіх вагзалаў час абмыў і абламаў ешчэ болей. Пад парканамі прывагзальных домікаў семы ўцекачоў разпалажыліся табарам. Вось пад бруднай радніной жыве чэцьвера: зьнебыткаваны расійскі селянін, у „паддзёўцы“ з мешка, на голым целе, кабета ў лахманах, бытцым чараўніца з басьні, дзяўчынка трохгадовая, ўсе босыя. Кабета корміць дзяцёнка, але той квола папісківаe, бачна, не супакоены сьвянай маршчыстай грудзьдзю маці. На скрынцы міса з вадой, у якой плаваюць абрэзкі бульбы, семья па чародзе кусае лустку хлеба і запівае вадой. Дзяцёнак крычыць крапчэй. Бацька адыходзіць і небавам вярнуўшыся, з задаволеным выглядам, суе ў губу дзяцёнку, абгладаную курыную костку. Дзяўчынка з загарэўшыміся вачонкамі хапае нейкія агрызкі і паўзе ў груду рызьзя.

Тут-жа ў вагзале чарод за білетамі. Шматаблічны натаўп. Шастаюць „лімоны“, каму трэба плацяць і за „неўчарод“, і за „насільшчыка“, і хто ешчэ ведае за што...

Беглы „перадмытны“ прагляд багажа — і—о, багі Нэпа, чаго толькі німа ў мешках і карзінах: брытвы пачкамі, мыла пачкамі, вязкі грэбянёў, каробкі одеколону, шакаладу, шкарпэтак... Нейкі грамадзянін у майскім гарнітуры і пэнснэ ўмудрыўся ўціснуць у мяшок „Ундэрвуд“, бутлю сьпірту і галаву цукру.

Ад вагзала вярсты на паўтары разцягнуліся кавярні і чайні.

Вуліцы поўны народу, мігаюць камашы з французкага шэвро, модныя манто, „Эйфэлевы“ капалюшы.

На пляцу парад мейсцовых войск; як адлітыя праходзяць шэрыя шарэнгі і жоўтыя лініі шапак, грыміць музыка. Пухлая таргоўка, завінаючы булку, пранікліва аглядае мяне, і, мабыць, супакоеная, злорада ківае на вуліцу:

— „Ну, дык яны запэўняюць, што гэта іх салдаты... вочы нам чмараць... Гэта старыя салдаты, я вам кажу, старыя прыехалі ад генералаў і наняліся“...

---

## З усіх старон.

### З Літвы.

Сувязь Селян-Беларусаў у Літве. Дзейнасьць Сувязі разпачалася з 10-га траўня г. г. у склад Цэнтральнай Рады Сувязі увайшлі: Карабач—Старшыня, Чэркас—Секрэтар, Палікша—Скарбнік; Пракулевіч і Галавінскі сябры Рады.

У першы чарод Рада пастанавіла занняцца арганізацiяй школ у мейсцох населяных беларусамі.

Дзеля падгатоўкі кадру вучыцялёў, Рада зьвярнулася ў Міністэрства Асьветы з прозьбаю аб дазваленьні адчыніць у Коўне кароткатэрміновые вучыцельскіе курсы, бо на Літве маецца значны лік старых рускіх вучыцялёў Беларускай нацыянальнасьці, і наагул, народнай інтэлігенцыі; многіе з іх ведаюць і Літоўскую мову. Праслухаўшы цыкль лекцый па Беларусазнаўству і азнаёміўшыся з тэорыяй Літоўскай мовы, гэтые вучыцялі былі-бы добрымі працаўнікамі. На жаль-Міністэрства Асьветы ў адкрыцьці такіх курсаў адмовіла, знашоўшы матывам для адказу—адсутнасьць на Літве беларускіх школ.

Атрымаўшы адмову на аткрыцьце вучыцельскіх курсаў Рада парашыла заняцца арганізацыяй беларускага селянства і папутна выясьніць на сколькі пасьпела патрэба ў адчыненьні, сваіх нацыанальных-пачатковых школ. У кароткі тэрмін аддзелы былі заложаны у Евейскай, Сумілішскай, і Высокадворскай валасьцёх. Беларускае жыхарства гэтых валасьцёў па рэлігіі дзеліцца на дзьве ня роўныя часткі. Большасьць, каля 75% каталікі і рэшта праваслаўныя. Каталікі моцна спаланізаваны. Дзяржаўная паветовая адміністрацыя да працы беларускіх інструктароў адняслася карэктна і нават прыхільна. Сярод мейсцовай адміністрацыі спатыкаюцца людзі з паланафільскім пераконаньнем. На мейсцох безумоўна маюцца, моцна заканспірававаныя, польскія агенты якія сваімі нашептамі псуюць настрой каталіцкай часткі беларускага насялення да Літоўскай Дзяржрўнасьці і паланізуюць беларускае каталіцкае нясяленьне. У гэтых валасьцёх на гвалт патрэбна інтэнсыўная культурная праца. У другіх паветах праца вядзецца ў большасьці сярод праваслаўнага насяленьня, якое правёўшы з прычыны вайны па 5-6 гадоў на эміграцыі ў Расіі, а такжа дзякуючы спэцыяльнай палітыцы старога царскага ураду моцна абрусела. Нягледзячы на гэта, яно, даведаўшыся аб магчымасьці адчыненьня беларускіх школ, вельмі ахвотна робіць прыгавары аб аткрыцьці-такіх школ. Характэрна, што і стара веры, якіх на Літве маецца значны лік і большасьць якіх зьяўляецца выхадцамі з Вітэбшчыны, так сама цікавяцца беларускімі школамі і выказуюць пажаданьне каб гэтыя школы былі адкрыты ў іх.

Да 1/VIII Інструктарамі і Старшынёю Рады, акром Троцкага павету, заложаны аддзелы ў гэтакіх мейсцовасьцях:

1) аддзел Ушпольскай воласьці Уцянскага павету, які аб'еднвае вёскі Нарвойшы, Рамэйкі, Дзегасі, Подзи; 2) тэйжа воласьці для вёсак-Давейкі і Капрышкі; 3) м. Рагове Паняважскага павету; 4) м. Ежаранах (Нова-Александраўскае) 5) вёсцы Езусолі (Александраўская слабода), туржанскай воласьці, Ковенскага павету; 6) У Вуцянах паветовы аддзел, які аб'еднвае селян-беларусаў, Аніштынскай, Дабейскай, Ляманскай, Суеманскай валасьцей; 7) м. Кронах Троцкага павету; 8) у сяле Калойне (Б. Благавешчанскае) Шавельскага павету; ўсяго да 1/IX адкрыта 11 правінцыяльных арганізацыяў Сувязі. Селянамі вынесены прыгавары аб аткрыцьці беларускіх школ у гэткіх мейсцох. Троцкі павет: 1) в. Нікраны, 2) Татарышкі, 3) Нова-Александраўка—, Вялікадворскай воласьці, 4) Бальцэрышкі, 5) Пакальнішкі Евейскай воласьці, і 6) м. Кронях. Вількомірскі павет, 7) м. Вілкоміры. 8) Шавальскі павет. м. Радзівілішках. Ежэранскі (б. Нова-Александраўскі павет: 9) м. Ежэрэны. Уцянскі павет, 10) Мажэйкішкі, II) Довейкі і Кайрышкі, Ужпольскай воласьці. Ковенскі павет. 12) у вёсцы Езусолі (Александраўская слабада) і 13) в. Паскуцішкі Туржанскай воласьці. На агульным сходзе беларусаў м. Коўны, адбыўшымся 19/VIII вынесена пажаданьне адкрыць ў Коўне беларускую пачатковую школу і прагімназыю. Прыгавары аб адкрыцьці школ са сьпіскамі дзяцей, скіровываліся ў Міністэрства Асьветы,

або паветовай школьнай адміністрацыі. Да гэтага часу ў Цэнтральнай Радзе Сувязі маюцца данныя аб адмове адчыніць беларускіе школы у вёсцы Новая Александраўка, Троцкага павету, дзе культурна-прасьветная камісісія Высокадворскай валасьці находзіць, што там жыве не беларускае, а рускае насяленьне. Узапраўды жыхары гэтай валасьці праваслаўные беларусы. Аддзел Селянскай Сувязі Сумілішскай валасьці на гэту пастанову вынес энэргічны пратэст і затрэбаваў перагляду вынесенай пастановы. Вынік пратэсту невядомы.

Другі выпадак адмовы ў адчыненьні беларускай школы меў мейсца з боку школьнага інструктара Вількомірскага павету, які ў паперы адзначае, „што так, як німа беларусаў, то німа патрэбы ў адкрыцьці і беларускай школы“. Адначасова Радаю арганізавана ў Коўні музыкальная школа ў якой у данны момант абучаецца ігры на рожных інструмантах 59 чалавек.

Ідучы на сустрэч заявам паасобных асоб і калектыўным прозьбам грамадзян беларускай нацыанальнасьці, Цэнтральная Рада рабіла старэньне перад належнымі установамі аб зьвальненьні, ці палепшаньні жыцьця, ў лагерах інтэрнаваных і аб одпуску ляснога матэрьялу уцекачам, якія вярнуўшыся з Расіі ў свае родные вёскі, знайшлі іх зруйнаванымі. Ніякай адпаведзі на прозьбы да гэтага часу Рада не атрымала. Да Рады зварачаліся селяне Уцянскага павету з заяваю, што паветовая адміністрацыя, на аснове адпаведнага закону, зьбіраецца іх землі нацыаналізаваць, а самых выслаць з Літвы.

На мэморыял Цэнтральнай Рады Сувязі па гэтаму пытаньню Міністэрства Земляробства дало адповедзь больш менш заспакаіваючага зьместу. Маючы на мэце арганізаваць у Коўне Беларускую бібліатэку-чытальню. Цэнтральная Рада Сувязі выпісала 17/VII з Вільні праз Латвію беларускіе газэты і кніжкі для бібліатэкі і для школ. Дзякуючы захадам Цэнтральнай Рады Міністэрства Беларускіх Спраў разпачало выдаваць беларускую літэратуру, навучна-папулярнага зьместу. У данны момант друкуюцца адначасна дзьве брашуры: „Неба і Зоры“ і „Закон Жыцьця сярод жывёлаў і Расьцін“.

У самы разгар арганізацыйнай і культурнай працы Цэнтральнай Рады, на яе плечы звалілася заданьне вялікай палітычнай вагі—выбары ў новы законадаўчы Літоўскі Сойм, якія павінны адбыцца 10-11 кастрычніка г. г. За кароткі тэрмін сваей працы і пры тым у культурным кірунку, Рада не магла падґатавацца да выбараў. Прыймаючы пад увагу, што у Літве акром селянскай Сувязі німа ніякай мейсцовай грамадзкай арганізацыі, Цэнтральная Рада Сувязі прымушана была вырашыць ісьці беларусам на выбары, ці не? І калі ісьці то якім чынам—адным, ці ў блоку з другімі нацыанальнымі, ці класавымі арганізацыямі. Абгаварыўшы гэтае пытаньне і прыняўшы пад увагуі 1) што беларусы ў Літве з нацыанальнага боку маласьвядомы, значная частка іх лічаць сябе ў залежнасьці ад рэлігіі—палякамі, ці расійцамі, 2) што значны лік праваслаўных беларусаў за адсутнасьцю сваей нацыанальнай-арганізацыі, у свой час увайшла ў стараабрадчаскую Дэмократычную Сувязь, Цэнтральная Рада прышла да выводу, што выступаць на выбарах адным, са сваім ўласным сьпіскам немагчыма дзеля непадгатаванасьці. З магчымых хаўрусьнікаў на час выбараў зьяўляецца арганізацыя стараабрадцаў знаходзячаяся ў зьвязку з расійскай дэмократычнай Сувязьзю. Уходзячы ў блок з гэтымі арганізацыямі, і, знача, выстаўляючы агульны сьпісак Рада, магчыма, разварушыць гэтым цёмную, маласьвядомую народную гушчу. Хто-бы не прайшоў па агульнаму сьпіску ў Сойм, ён маральна змушаны будзе бараніць у патрэбе і правы, выбіраўшых яго, беларусаў.

*Алесь Карабач.*

## З Латвії.

Выбарная Кампанія у Люцыне. Выбарная кампанія ў Местовую Думу прайшла з вялікім сусьпехам для беларусаў. З 8-мі сьпіскаў, якія былі выстаўлены, беларускі сьпісак прайшоў па ліку атрыманых галасоў, на трэцім мейсцы і сабраў больш чым староверы, палякі, латгальцы і балты, якія правялі толькі на 1 дэпутата. На чале беларускага сьпіску прайшоў Кіраўнік Беларускага Аддзелу С. П. Сахараў.

Курсы Беларусазнаўства ў Люцыне. Закончыліся курсы беларусазнаўства для вучыцялёў беларускіх школ. Курсы вела грам. Паўліна Мядзіолка-Грыб, лекцыі якой мелі вялікі сусьпех. Пасьля закончаньня курсаў адбылася вечарынка.

Беларуская Гімназія ў Дзьвінску. Пачаўся рэмонт будынку беларускае ўрадовае Гімназыі у Дзьвінску. На рэмонт Беларускі Аддзел асыгнаваў 300.000 рублёў. Заняткі пачынаюцца ў верасьні.

---

## З-пад Польшчы.

Перапісь. Апошняя перапісь паказала, што ў Польшчы 17. 350. 883 палякаў і 8.012.564 іншых нацыанальнасьцяў.

Мэтрычныя Кнігі для Праваслаўных. Сьвятары праваслаўных парохій атрымалі загад ад польскай ўлады завясьці мэтрычныя кнігі на польскай мове. Побач з польскім дапускаецца паралельны тэкст на якойхоць мейсцовай мове.

Пагромы. Пасьля пагрому ў Вільні, адбыўся 8 ліпня чародны пагром у мястэчку Радуні (Лідзкі павет), зроблены польскімі кавалерыстамі. Сабраўшы ўсіх жыдоў на панадворку сынагогі іх цэлы час білі, а пасьля прыняліся за разгром жыдоўскіх кватэр у мястэчку.

---

Зьдзекі Палякаў. Што дзень атрымліваем жальбы аб ўсё ўзмагаючыхся зьверствах пялякаў над безбаронным жыхарствам, акупаванай палякамі тэрыторыі.

1) 6 ліпня г. г. ў в. Новая-Дзеражжня, Арлянскай валасьці, Лідзкага павету быў паддадзен страшэнным тартурам Даніла Кавалеўскі, 17 гадоў, за тое, што жонцы польскага сержанта-каланіста, каторая насьмехалася над беларусамі, сказаў: „Палякоў са сваей зямлі мы ўсіх прагонім“.

2) 6 ліпня ў м. Арля, Лідзкага павету, капраль паліцыі Зюк, садзіст па натуры, зьбівае беларусаў за іх нацыянальныя пераконаньня. Гэтак, ён пабіў селян: Гузеня і Язэпа Шэршаня. Улада „карае“ садыста тым, што пераводзіць яго з аднаго пункту ў другі.

3) 6 ліпня у в. Прыцяма, Арлянскай вол., па загаду паветовай судовасьледчай ўлады, арэштаваны беларускі вучыцель Іван Дрозд, школу якога польскі школьны інструктар Ковальчэвскі і паліцыя выгналі на вуліцу. Віна вучыцеля ў тым, што ён, карыстаючыся пашанай народу, быў выбіраны на розныя становішчы і пры выбарах у Варшаўскі сойм мог вельмі перэшкаджаць палякам.

4) 12 ліпня ў в. Кукры, Жалудоцкай вол. Лідзкага павету, адміністрацыя двара Саваўшчына абвінавачіла селян у перахове зборі, толькі затое, што вяскоўцы з голымі рукамі адабралі сваю скацежу, каторую, забраўшы са шкоды, дворцы сагналі ў адзін хлеў, дзе скацежа магла адна адну перэкалечыць. Многа селян пабітых да паўсьмерці, трое арэштаваны і па сягоньня томяцца ў турме.

5) 12 ліпня у в. Цярухі, Ражанкаўскай валасьці, Лідзкага павету, зьбіты польскімі жандарамі грамадзяне Лявон і Мікалай Карповічы за тое, што назваліся беларусамі і ня выдалі сына Лявонавага Івана, які жыве заграніцай.

6) 12 ліпня ў в. Стукалы, Арлянскай валасьці, Лідзкага пав. быў арэштава-

ны і зьбіты стараста, абвінавачаны ў тым, што не арэштаваў трох беларусаў-навабранцаў, якія адмовіліся ад службы ў польскім войску.

7) 12 ліпня з мэтай пагоршыць цяжкое становішча старых і хворых бацькоў арэштаванага вучыцеля Дразда, паліцыя забараніла ўсе зносіны жыхароў з імі. Быў зьбіты, арэштаваны і зьвязаным высланы ў турму, прыйшоўшый адведаць хворых старых, іхні сваяк Андрэй Ганчарук з. в. Гуты, Пацаўскай воласьці, Слонімскага павету.

8) 17 ліпня ў в. Процьма, Арлянскай воласьці, Лідзкага павету, паліцэйскі капраль Качаноўскі ў прысутнасьці паветовай палявой жандармэрыі, пасьля страшэнных зьдзекаў, зьбіў нагайкай хворую старушку 68 гадоў, матку беларускага вучыцеля Івана Дразда, Марыю Дрозд, за тое, што яна не магла сказаць, дзе знаходзіцца яе сын, які перад гэтым быў арэштаваны і ўцёк з пад арэшту. Зьдзекі даходзілі да таго, што капраль браў 6-ці гадовага хлопчыка, сына Сцепана Дразда, і пытаў у яго, якой ён нацыянальнасьці.

9) 26 ліпня—зьбіты і арэштаваны грамадзянін в. Кобялі 85-летні старэц Паскоўскі.

10) 28 ліпня ў в. Зарыны, Каняўскай воласьці, Лідзкага павету, стаіць 100 асоб польскіх салдатаў, якія самавольна капаюць бульбу, забіраюць з гумна абожжа, страшэнна ўсё крадуць і мучаць пагалоўна ўсіх жыхароў. У грам. Міхайлы Тамулевіча забралі каня, карову, быка і сьвіньню, і, пагражаючы рэвальварам, прымусілі разпісацца, што ўсё гэта дабравольна прададзена.

11) 28 ліпня ў в. Бондары, Азёрскай вол. Горадзенскага павету зьбілі грамадзяніна Чараха. Зьвязаўшы рукі і ногі, падвешывалі на кол і білі да ўтраты прытомнасьці.

12) 28 ліпня у в. Канюхі, зьбілі 55-летняга старца Чаплюка. Білі малаткамі па пятах. У вёсках Канюхі, Бондары, Кашубінцы зьбіты пагалоўна ўсе селяне.

13) 29 ліпня польскія міліцыянеры зьбілі на сьмерць жыхара в. Вешкян, Язэпа Станчыка, пры чым міліцыянеры пахваляліся, што атрымалі ад свайго начальства за гэта 2.000 марок награды.

14) 30 ліпня арэштаваны і адвезены ў Горадзенскую турму стараста в. Даржэлі, Марцінканскай воласьці, грам. Мешкініс.

15) 30 ліпня зьбіты жыхар в. Капенішкі, Болеслаў Кутас. Пасьля сьмерці зьдзерлі палякі з яго ўсю адзежу да нага. Родныя забітага прасілі аддаць ім цела,—палякі ім адмовілі і закапалі без хрысьціянскага абраду.

16) 4 жніўня арэштаваны грам. в. Мустэйкі, Якуб Тумалевіч і Іван Балевіч. Пры арэшце білі і калолі шылам. Якуб Тумалевіч адвезен у Вільню і німа ведама што з ім.

17) 5 жніўня у Горадне разстрэляны грам. вёскі Сьвіны-Лес, Бэрштаўскай воласьці, Горадзенскага павету, Эдвард Гайдзіс, разам з пасынкам сваім Іванам Валентукевічам. Перад допытам спаівалі іх гарэлкай.

18) 6 жніўня ў Клеафаса Тамулевіча в. Зарвіны, жандары злавілі партызана і, адпусьціўшы яго за выкуп, 5.000 марак, пачалі зьбіваць грам. Тамулевіча, вымагаючы ад яго таго-ж партызана.

19) 6 жніўня у грам. Івана Тамулевіча в. Зарыны, атабралі быка і вельмі зьбілі за тое, што адмовіўся даць падпіску ў дабраволънай прадажы быка.

20) 6 жніўня у грам. Ігната Тамулевіча выкапалі ўсю бульбу і зьбілі гаспадара за тое, што ён, бытцым, быў у Літве. Наагул, стала звыклым явішчам: прыходзіць афіцэр з салдатамі і пад пагрозай разстрэлу прымушае разпісвацца, што ўсё, забранае палякамі, прадаецца дабравольна; акром таго маладзеж ловяць, арыштовуюць і некуды вывозяць. Гэткі спосаб паступаньня меў мейсца, акром в. Зарвіны яшчэ у вёсках: Коша-

ты, Ліпіцы, Шурпы, Дубічы, Паддубна, Рудня і мн. другіх.

21) 29 ліпня у в. Раманавічы, Арлянскай воласьці, карацельны атрад зьбіў пагалоўна ўсіх жыхароў, за тое, што пусьцілі пасьвіць сваю скацежу на пустуючае панскае поле.

Гэткі самы крык і стогн нясецца з-пад Беластока, Бярэсьця, Пружан, Ваўкавыска, Слоніма, Вілейкі і Дзісны.

---

Паўстанцкі рух. 1) Партызанамі ўзарваны два паравозы вузка-калявіннай чугункі, праведзенай ад ст. Ськідэль у старану Шчучына, для эксплятацыі лясоў князя Друцка-Любэцкага. Узарваныя паравозы былі адзінымі францускага лясного прэдпрыемства. Першы паравоз быў ўзарваны ў 15 верстах ад м. Ськідэль, другі — каля самой ст. Ськідэль. На мейсцы ўзрыву разкідана літэратура.

2) 22 ліпня разьбіты партызанамі двор належачый да польскага афіцэра, ў 5 верстах ад. м. Ськідэль.

3) 24 ліпня разьбіт двор нідалёка ад м. Ськідэль і двор Кашубінцы памешчыка Блаўдзевіча, які займае высокае польскае становішча.

4) 16 ліпня паўстанцы памыкаліся тэрыразаваць Горадзенскага паветовага старасту. Коні запрэжаныя ў брычку, на якой ён ехаў, забіты ўзрывам бомбы, староста ацалеў і ўцёк.

5) 17 ліпня паўстаўшыя жыхары памыкаліся ўзарваць тартак у м. Азёрах, Горадзенскага павету. Палякам удалося папярэдзіць і адхіліць замах, увёўшы войскі ў тартак і аколіцы.

6) „Виленская Рѣчь“ паведамляе, ад 21. VII аб ўзрыве ж. д. маста ў 18 верстах ад Марцінканцаў і зьніштажэньні на значным абшары ж. д. палатна; дзякуючы чаму быў перарваны рух паміж Горадняй і Аранамі. Маюцца пэўныя данныя, што гэта работа беларускіх „банд“.

7) 23 ліпня лідзкі паветовы староста абстрэлены быў з кулястрэлу, калі вертаўса пад ахаронай з рэквізыцыі коней у м. Астрыно-Васілішкі, Лідзкага павету.

8) 5 жніўня паўстанцамі ў аколіцах в. Бершты, Горадзенскага павету, забіта каля 10 польскіх уланаў.

9. У Шчучыне паўстанцы спалілі палац князя Друцка-Любэцкага.

Пераход польскага батальёну на старану паўстанцаў. Батальён 6-га палка, пасланы супроць „бандытаў“, перайшоў на старану апошніх і разам з паўстанцамі вядзе змаганьне.

Правакацыя. у Бельскім павеце палякі разкрылі, дзякуючы правакацыі нейкага Ленкевіча, канцэлярыю паўстанцкага аддзелу.

Сьмяротнасьць паміж уцекачоў. Зваротны наплыў з Расіі уцекачоў беларусаў на бацькаўшчыну ў апошнія часы значна павялічыўся. Вертаюць галоўна з Сібіру і Туркенстану, пераважна горадзенцы. Паміж імі значны лік хворых. Гэтак, прыкладам, 20 ліпня прывязьлі ў Вільню 119 хворых, з якіх 80 на паваротны тыфус; 4 хворых памерла ў дарозе з Баранавіч ў Вільню. Уцекачы страшэнна ўсе зьнібыткаваны, гэта — запраўныя шкілеты абцягнутыя скурай.

Мобілізацыя. У Віленшчыне і Горадзеншчыне адбылася, ў другой палавіне ліпня, пасьпешная мобілізацыя. Мобілізаваны ўсе афіцэры да 60-летняга ўзросту і маладзеж да 27-летняга ўзросту. Также адбылася мобілізацыя коней і выбар рагатай скацежы.

Лясныя пажары. У аколі- Аран 20. VII пачаліся вялікія лесавыя пажары ў дзяржаўных лясох. Агнем абхоплены аграмадныя абшары. Згарела больш 300 дзесяцін лесу.

Польская Прэсса аб спыненьні Паўстаньняў. „Kurjer Krajowy“ № 149 ад. 9.VII.22. „Чытаем афіцыальныя паведамленьня, што паў-

станцкія банды ў Лідзкім павеце ўжо зьліквідаваны. Такія павядомленьня гэта кпіны з правоў грамадзян і толькі кпінамі іх можна назваць“—„Аддзелы гэты далей карыстаюць поўнай безкарнасьцю, нішчучы маемасьць“.

= Ліст з Лідчыны: „Беларускі рух расьце і пухне, як на дражджах. Сьвядомасьць нацыанальная расьце буйным тэмпам. Страшныя праследаваньні з боку польскае ўлады толькі ўзмацняюць стыхію народнага гневу. У іншых мясцох лес абвешчаецца ўласнасьцю народу. Адміністрацыя маёнткаў на сьмерць запалохана. Наведваюцца партызаны. Частка паноў уцякла, а ў другія маёнткі наслалі салдатаў дзеля абароны. Былі выпадкі бурных спатканьняў народу з панамі і адміністрацыяй (в. Купры). Дэзэртырства ў арміі нябывалае. Уцекаюць з-за Варшавы, Сувалак, Гродна, Аўгустова, Нова-Вілейска і іншых месц. Частка хаваецца ў доме, а значная лічба ў лесе. У павеце апавешчана ваенна-асаднае палажэньне. Гуляюць атрады карацельные і па барацьбе з дэзэртырствам, таксама палявая жандармэрыя. Многа арыштаваных. Каб не вядомыя Вам перашкоды мы былі-б сьведкамі здарэньняў шырокага маштабу, а можа і гістарычных.

З пашанаю *Ш—віч.*

---

## Пастанова Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні аб выбарах у Варшаўскі Сойм.

Беларускі Нацыянальны Камітэт на пленарным сходзе сваім 1 ліпня 1922 году, выслухаўшы рэфэрат Палітычнай Камісыі ў справе выбараў у Варшаўскі Сойм, пастанавіў:

1) Дзеля абароны правоў жыхарства, ў межах Польскага Гаспадарства задэкляраваных канстытуцыяй Польшчы, прыняць чыннае ўчасьце ў выбарах у Варшаўскі Сойм“.

Далей прынята рад практычных крокаў у гэтым напрамку. („Беларускі Звон“ № 15-21/VII—1922 г.)

І так, тое, чаго трэба было баяцца, пасьля высылкі з Вільні (5—II. 1922 г.) найбольш выдатных дзеячоў, сталася. Што пацягне за сабой гэтая пастанова—пакажа бліжэйшая будучына. Свой прынцыповы пагляд на справу выбараў у Варшаўскі Сойм Рэдакцыя „Беларускага Сьцягу“ выкажа ў чародным нумары.

Чародны, № 16 „Беларускага Звону“ ад 25/VIII—1922 году замешчае адозву аб выбарах у Варшаўскі Сойм. У склад выбарнага Камітэту ўвайшлі Старшыня—Антон Луцкевіч, Віцэ-Старшыня—Браніслаў Тарашкевіч, Скарбнік-Адам Станкевіч, Сэкрэтары—Міхал Кахановіч і Леапольд Родзевіч; кандыдаты—Фабіян Ярэміч, Мікалай Красінскі-Вячэслаў Богдановіч; дэлегаты ад расійскае меншасьці—Уладзімір Самойла, Сяргэй Качаноўскі.

Выбары назначаны на 5-е лістапада г. г.

---

## З—пад Расіі.

Райсковыя падгатаўленьня 1) Уздоўж р. Случы, на адлегласьці 5 вёрст ад лагва ракі, пасьпешна зроблена ўстаноўка драцяных загарод.

2) Кругом Менска, так-жа пасьпешна, выкапаны акопы і пастаўлены драцяныя загародкі: першая лінія ідзе ўздоўж граніцы, ў трох верстах ад ст. Радашкавічы, другая лінія—праз Сёмкаў-Гарадок і Ракаў, трэйцяя лінія—ў адлегласьці аднэй вярсты ад Менска.

3) Слуцак умацаваны дзьвема лініямі акопаў. Акопы такжа маюцца каля вёсак Істэрна, Нежаўка, пры масце перад вёскай Цараўцы, і далей ў ніз да шасэйнай станцыі Сеніца; адгэтуль лінія акопаў цягнецца да Сёмкава-Гарадка.

4) Супроць ст. Арэхаўка, ў 10 верстах ад граніцы, капаюць акопы.

5) У кругаколіцы Рэчыцы ідзе папраўка акопаў і драцяных загарод.

6) Ідзе пасьпешная папраўка мастоў на рэках Бярэзіне, Птычы і Днепры; асаблівая ўвага зьвернута на мост праз Бярэзіну,—адбываецца грунтоўная паправа маста—між іншым, усе дрэўляныя зьвеньня заменяюцца жалезнымі. Рэка Бярэзіна ўзмацняецца лініяй акопаў з драцянымі загародамі.

7) Умацовываюцца такжа гарады Барысаў, Ігумен і Бабруйск. Работамі кіруюць нямецкія інструктары.

8) Наўзмечана ўзмацаваньне акопамі р. Дзьвіны і далей па граніцы—па лініі Арэхаўка—Ілія—Радашкавічы.

9) У Смаленску газавая інструктарская школа працуе над палепшаньнем апаратаў да пушчаньня газаў; работа адбываецца пад даглядам і кіраўніцтвам нямецкіх інструктароў („Послѣдн. Новости“ Тэл. ад 12. VII. 22).

= Ураджай. „Рабочая газета“ (№ 121) паведамляе, што ў Смаленшчыне чэрві прычынілі вялікія страты сельскай гаспадарцы, агульна страт налічаюць больш чым на 1 трыльён рублёў. Асабліва вялікіе страты ад чарвей у Менчыне; ў паветах Менскім і Ігуменскім засевы саўсім зьедзены. Жыхарства блізка саўсім не змагаецца са шкоднікамі, лічучы іх „Божай карай„. У многіх вёсках змаганьне абмежаецца тым, што сьвятары кропяць пошэсныя мейсцы сьвятой вадой.

Паўстанцкі рух. Эстонскія часопісі паведамляюць аб ўспыхнуўшым паўстанцкім руху ў паветах Вітэбскай губэрні. Андрэеўская воласьць Полацкага павету занесена на чорную даску, як бандыцкая і антысавецкая. Камуністы з гэтых паветаў пасьпешна перабраліся ў гарады. Савецкая ўлада зьвертаецца да селянаў з заклікам да іх разважлівасьці і пагражае непакорным жорсткай расправай. („Голос Россіи“ 18. VII. № 1007).

= „Виленская Рѣчь“ паведамляе, што пачынаючы з 30 ліпня, між Барысавам і Менскам пачаліся крывавыя стычкі „чорных“ партызанцкіх груп з бальшавікамі. За апошнія два дні ў некалькіх мейсцох адбыліся запраўдныя бітвы з удзелам артылерыі. „Чорныя“ разбройлі дзесяць батальёнаў савецкай пяхоты. 31 ліпня на польскай тэрыторыі была чуваць гарматная стрэляніна. Паміж бальшавікоў склока. Менск акружаны войскам. З наступленьнем зьмерку спынен ўсякі рух па ўсіх дарогах. З Барысава вывезена казначэйства і эвакуаваны савецкія ўстановы. На мейсцы астаўся толькі ваенком. 2 жніўня пачалася пасьпешная эвакуацыя Менска, бо шарэнгі „чорных“ лікам да 50 тысяч з артылерыяй знайходзіцца ўсяго ў 12 верстах ад места. Савецкая конніца і 2 палкі пяхоты высланыя супроць паўстанцаў перайшлі на старану „чорных“.

Беларуская Архібіскопія. Адбыўся ў Менску сабор беларускіх праваслаўных біскупаў, які пастанавіў аднавіць быўшую даўней аўтаномную беларускую архібіскопію. На архібіскупа беларускага выбран біскуп Менскі і Тураўска-Слуцкі Мэльхісэдэк (Міхайла Паеўскі). Найсьвятарнейшы Мэльхісэдэк сын беларуса сьвятара з Горадзеншчыны. Акончыў Казанскую Духоўную Акадэмію; валадае новымі мовамі. Займае біскупскую катэдру з 1920 году. Да назначэньня на Менскую Катэдру; сьвятарскае служэньне праходзіў у роднай Беларусі, як вікарны біскуп Слуцкі. У склад Беларускай Архібіскопіі пакуль што ўвайшлі Эпархіі: Менская, Магілёўская, Мсьціслаўская і Полацка-Вітэбская.

---

## Са студэнцкага жыцьця ў Празе.

Паміж студэнтаў беларусаў, хоць і ня зусім ясна, акрэсьліліся два кірункі думкі—адзін грунтоўна адраджэнскі і другі інтэрнацыанальны. У момант, калі агульным поглядам беларускай палітычнай думкі зьяўляецца цьвёрдае пераконаньне,—што да інтэрнацыаналу народы прыдуць толькі праз нацыянальнае адраджэньне.—такі нахіл групы „дзікіх“ шкодны беларускаму адраджэньню і, беларускае студэнцтва павяло змаганьне з інтэрнацыаналістамі. Пазыцыя

інтэрнацыаналістаў была слабая і яны не знайшлі лепшага выхаду, як схавацца за плечы расійскага Камітэту, які ахвотна даў ім стыпэндыі. Да якой палітычнай думкі ў расійскім камітэце яны далучацца німа ведама.

У Празе маецца дэмакратычнае аб'еднаньне расійскіх студэнтаў і некалькі чалавек студэнтаў грамадзян РСФСР.

Пакуль што ёсьць адна карысьць, што гэны элемэнт звольніў сем стыпэндый для больш верных і карысных працаўнікоў на ніве адраджэньня.

## Ліст з Чэхаславакіі.

Мінуўшчына старых часоў—архітэктура і гісторыя, якая выглядае з кождай шчэліны Залатой Прагі, сьведчыць аб цьвёрдасьці нацыанальных поглядаў і аднадумнасьці ўсяго Чэскага народу.

Чэх перш за ўсё—Чэх, а потым ўсё іншае. Дух народных будзіцеляў-Паляцкага, Гаўлічка і сучаснага Прэзыдэнта Масарыка цьвёрда жыве ў сэрцах Чэскага народу.

Трудна уявіць сабе старану, апрача Чэхаславакіі, дзеб аднадумнасьць ў будове Рэспублікі так зьлівалася з душой ўсяго Чэхаславацкага народу.

Шырыня пагляду і ўяленьне нясконченай барацьбы з суседзямі, як напрыклад: немцамі і палякамі, пры поўнай свабодзе поглядаў усіх груп і партый, ня гледзячы на польскі і нямецкі антаганізм і прапаганду манархізма, асабліва паміж славакамі і карпацкімі русінамі,—ідзе правідловай і цьвёрдай дарогай ўзмацаваньне Рэспублікі.

Парлямэнцкая „пяцёрка“, аб'еднаўшая ўсе кірункі палітычнай думкі Рэспублікі, дае цьвёрды грунт Ураду вясьці безупынна свой народ да лепшай і лепшай будучыны.

Прамысловасьць і ратайства пастаўлены на незвычайную вышыню—ўзвышка кароны ня ёсьць штучная валютная ігра, а звычайны вынік шырока-пастаўленай і добра выкананай прамысловай і гаспадарчай індустрыі.

Праўда, адчуваецца недахват рынкаў для збыту фабрыкатаў, але гэта ня ёсьць хвароба выключна Чэхаславакіі, а ўсей Эўропы. Карэнь гэтага зла ляжыць у спэкулятыўнай палітыцы Дзяржаў Антанты, якія робяць стаўку на аканчальны развал Немцаў—вынікам чаго зьяўляецца ненормальнае паніжэньне нямецкай валюты. Побач з сабою Чэхі ня маюць ніводнага суседа з больш менш сталай валютай, апрача Югаславіі, а пры такіх варунках ніякі тавараабмен не магчымы. Рынкі завалены таварам а вываз малы. Разумеецца такое становішча часовае

На абшарах Чэхаславацкай Рэспублікі і ў цэнтры яе—Празе знаходзяць прытулак, апеку, братнюю прыхільнасьць і нават асьвету за кошт Чэхаславацкай Рэспублікі ўсе нацыанальнасьці быўшай Расійскай Імпэрыі.

Калі ў 1921 годзе яшчэ ў некаторых колах не палітычных, а грамадзянскіх,—цьвёрда трымаўся пагляд на адзіную і не падзельную Расію, то пад уплывам конгломэрату ўсіх нацый пражываючых у Празе—ён зьмяніўся і амаль усе приходзяць да пераконаньня, што такой Расіі, як была, больш ня будзе—а можна з пэўнасьцю сказаць, што прыдуць злучаныя штаты Усходу на аснове вольнага саюзу нацый паміж сабою.

Вучоныя, прафэсары, юрысты, аграномы, студэнты, партыі і ўся эміграцыя гасьцінна прынятая ў Чэхаславакіі гадамі ўзгадовуецца на гэтай думцы і лепшые яе, дэмократычные і соцыалістычные прэдстаўнікі панясуць гэту думку на Ўсход каб будаваць свае дзяржавы супольна і ў поўнай згодзе і братэрскай сувязі паміж сабою.

Так думаюць, разумецца, радыкальна-соцыалістычные і дэмократычные групы. Гордае вялікадзержаўе Расіі разпадаецца на вачох: німа паноў і падданых, німа народу Воляй Божай, а ёсьць

браты-народы. Толькі злые шавіністы, ці людзі ўзгадаваные на чужой працы ня хочуць бачыць гэтага, але так сама як яны гэтага не бачаць цяпер, так ніхто ня зьверне на іх увагі пасьля, калі настане час будаваньня новай эры чалавеччага жыцьця. Яны сойдуць са шляху гісторыі ў цемру, адкуль яны і прыйшлі. У Чэхаславакіі мы гэта усё ўжо бачылі, хутка ўбачым і ў сябе.

*П. К.*

# Бібліографія.

## Першая Соцыялістычная Беларуская Брашура.

Адзін з украінскіх бібліофілаў прыслаў нам з Жэневы кніжку пад загалоўкам: „Про багацтво да біедносьць“. Пьераклад з Украінскаго. Жаньева, Друкарньа „Работника“ і „Громади“. Выдана кніжка ў 1881 г., фармат 12 + 16, цм. стр. 32. Акладка сьветла-вішнёвага коляру, пры чым на апошняй страніцы зьмешчана абавестка „Ат видавцов кніжкі“

Кнішка гэтаја била пьерш напісапа украјінцом дльа свајіх зьемльаков. Потим јана пьераробльена дльа пальакав, і названа „Opowidanie starego gospodarza“. Цьепьер јана пьераробльена дльа работнікав з Бьеларуссіјі; јешче пригатавльајецца пьераклад јаје літовско-жмудскіј і малдавскіј. Толькі тагды багацтво і бьедносць шчезньe і замьеніцца ровносцьу між льудзьмі, калі бьедниje льудзі всьуди пазнајуцьаткуль ідзье цьепьерашньаја ньеровносць. А дльа таго треба, штоб наука пра багацтво да бьедносць прапавьедивалась разом на всьех мовах бьедних льудзьеј.

Гэтая абвестка сьведчыць аб зьместе самой кніжкі, Складаецца кніжка з чатырох маленькіх разьдзелаў і апаведае аб тым, як каля будаванай чугункі ўкруг вогнішча група беларусаў з Палесься і Віленшчыны гутарыць аб сваім жыцьці-нядолі, чакаючы вячэры. Сярод гэтых людзей „якіх не пабачыш прайшоўшы нават тысячы вёрст па Расіі, па Украіне і па іншых землях“ выдзеляўся „дзед з доўгаю, мала не да паяса сівою аж белаю барадою; малады парабак Кастусь— „сын беднага мужыка Віленскай гунэрні“, які выбіўся на вучыцеля і якога зжыў са службы поп за тое, што бытцым ён „людзей бунтуе проці начальства“. Гутараць яны аб тым-як цяжка жыць на сьвеце бедным людзям. Дзед Карпа апаведае, як пад старасьць гадоў павінен быў кінуць гаспадарку, ўзяцца за капагу і йсьці на тую праклятую чугунку. Прычынай таму— нестача зямлі пасьля царскай „волі“ і арэрдатар Лейба, які ўсю панскую зямлю абрабляе нашымі (мужыцкімі) рукамі.

Нягоду селянскага жыцьця тлумачыць прысутны Кастусь, які кажа, што „найбольшае ліха ў тым, што чалавеку за яго работу нікол і не плацяць столькі, сколькі ён вырабіць сваей працай“. Што „работніку за яго працу заўсёды плацяць толькі такую плату, каб з яе абы як небудзь пражыў на сьвеце, ня ўмёр з голаду“. Селяне з вёскі Карпы таму ўзбунтаваліся, тлумачыць Кастусь, што“ „хазяін толькі і глядзіць, каб мець з іх найбольш барыша, найбольш лішняга проціў нашай працы тавару ці грошаў“

Гутарку работнікаў падслухаў „адзін з даглядчыкаў, нейкі ляшок, які меся-

цаў з дзесяць таму назад паявіўся на чыгунку галодны ды абзерты, а цяпер разсыцеў, як кабан, і насіў залаты гадзіннік з вялікім ланцужком“. Ен зазлаваў, але не захацеў проста прычапіцца і пачаў здалёка: „як вы, дурныя мужыкі, разважаеце, што вы дарэмна робіце на хазяіна. Хіба вы не знаеце, што ён палажыў на будаваньне лініі свае грошы, свой капітал і мусіць браць з таго капіталу працэнты“. Гэтая заява даглядчыка дала Кастусю повад разтлумачыць прысутным увесь нрацэс узросту капіталу: „вось з тых грошы, што астануцца гаспадару з работніка найміта больш чым сколькі ён заплаціць найміту, з тых толькі грошы ў хазяіна і стала кішэнь поўная, з тых грашэй у яго і робіцца капітал, як кажа надсмотршчык“. „Грошы не павінны былі-б даваць ніякай карысьці, а толькі сама праца“— разважае далей Кастусь. Дзед Карпа знаходзіць, што думкі Кастуся зусім правільны ў стасунку да зямлі, але адзін з прысутных—Сымон Хмурый—цяжка ўздыхнуўшы заявіў, што „відаць такая нашая доля, што мы ніколі ня выб'емся з нашай бяды. Не з нас пачалося, не намі яно і кончыцца“. У адказ на гэткі вывад Кастусь гавора гарачую прамову, ў якой вымагае, каб кожды жыў сваей працай: праца—вялікая рэч на сьвеце, толькі яна адна дае людзям багацьце: што селянам „трэба воля не канцэлярская, напісаная, толькі на паперы, якую нам далі цар, паны, вялікія і дробныя канцэлярысты, а воля праўдзівая, воля шчырая, са усей зямлёй. Бо пакуль будуць багатыя і бедныя, пакуль бедныя будуць рабіць на багатых, а багатыя наймаць бедных—да тэй пары ніякай волі німа, а ёсьць толькі крыўда і злая няволя.“ „Трэба каб земля належала да сельскіх г р а м а д, а ўсе заводы і фабрыкі—работнікам, якія на іх працуюць.“ Аб тым, як гэта зрабіць, Кастусь абецаў сваім землякам разсказаць другі раз.

Зьмест кніжкі сьведчыць, што яна была напісана пад уплывам марксізма і мела сваей мэтай даць у папулярнай форме кароткі выклад яго галоўнай ідэі. Заданьня яе безумоўна агітацыйныя, пры чым аб нацыанальнай справе, аб нацыанальным прыгнечаньні там німа нічога. Арфаграфія кніжкі тая самая, якая ўжывалася ў тыя часы украінствам: и—ы; е—э; j—й. Адсутны мягкія я, ы, ю, ё, якія адпаведна заменяны цьвердымі з j пасьля галосных, і ь—пасьля сугалосных· ja=ья=я; jу=ьу=ю; je=ье =е; jo=ьо=ё; прыклад: „згаварились між собоjу, штоб наньяць панскуjу зьемльу всьеjу грамодоjу і паслалі да пана трох вибарных“ (стр 11). Бракуе так сама ў, якое ў часе друкаваньня брашуры было ўжо вядома (Першы ўвеў П. Баброўскі ў сваіх „Матеріалах па Гродненскай губ.“ 1863 г., пасьля ўжываў П. Безсонов— „Пѣсни“ 1871 г.) Характэрна для аўтараў кніжкі ўжываньне падвойнага ліку— „пане (ы), грунте (ы), часе (ы), Туравце (ы) і г. д., а так сама імен пры прыметніках жаночага роду (украінская асобнасьць): „праца справди таго варт“.

Як відаць з прыведзянай вышэй заявы выдаўцоў, брашура „Про богацтво да бьеднасьць“ была сперша напісана па украінску, а пасьля перакладзена на беларускую мову. Пераклад зроблен вельмі удатна, відаць перакладчык быў добра знаем з беларускай жывой мовай Гродна-Пінскай ваколіцы (замест „ці“ ужываецца „чи“); аднак сустрачаецца у тэксьце не мала полёнізмаў і ўкраінізмаў: „прентко“, „ружніца“, „врешцье“, „ніц“ „jест“, „балакали“ і інш.

Хто быў фактычным аўтарам брашуры, нет ведама. У Б. Кістековскаго („М. П. Драгоманов, его политическіе взгляды, литературная дѣятельность и жизнь“) мы знаходзім зьменку аб тым, што цікавячая нас кніжка была напісана М. Драгомановым р а з а м з С. А. Падолінскім. Гэта найбольш праўдападобна, бо па ўкраінску яна выйшла ў 1876 г., зн. ў часе супрацоўніцтва ў справе палітычнай прапаганды Драгоманова ў Жэнеўскай „Грамадзе“. Перакладчык зусім невядомы; гэта паводле ўсіх праўдападобнасьцяў быў адзін з беларусаў, сяброў драгаманаўскай „Грамады“ імя якога нідзе не адмечана.

*А. Ц-ч.*

= К. Е. Цыгельман. „Аснаўныя Пачаткі Арытмэтыкі“. Пераклад з расійскага Ю. Лістапада. Другое выданьне Навукова Літэрацкага Аддзелу Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р. Бэрлін, 1922 Стр. 108.

Другое выданьне гэтага падручніка ў параўнаньні з першым—многа лепшае, як з зьнешнага боку так і па акуратнасьці ў сэнсе большага захаваньня чыстаты мовы і выпраўкі ўсіх абмылак, якіх у першым выданьні было залішне многа, навет у арытмэтычных дзеяньнях. Што да зьместу, то гэты падручнік трэба лічыць няўдачным для ніжэйшых школ, а для сярэдніх толькі і можа служыць канспэктам для паўтарэньня курсу арытмэтыкі, бо зьмест уложан вельмі суха, часам моваю трудна зразумелаю для вучняў; амаль зусім німа жыцьцёвых прыкладаў, якія лепей за ўсё тлумачаць дзецям самыя трудныя матэматычныя паняцьця і выкладкі.

= А. Кругалёвіч. Элемэнтарная Альгэбра. І частка. Выданьне Навукова-Літэрацкага Аддзелу Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р. Бэрлін, 1922. 103 страніцы.

Першая альгэбра на беларускай мове і трэба сказаць, што па апрацоўцы яна ёсьць лепшы з падручнікаў, якія выходзілі да сяго часу. Хоць аўтор у прадмове папярэджае аб немагчымасьці, дзеля няўхільнае патрэбы як найхутчэй выдаць беларускую альгэбру, — „адпаведна апрацаваць гэты падручнік“, але прачытаўшы яго адразу відаць з якой любасьцю да сваёй працы адносіўся аўтор. Кожды навет маленькі аддзел дапаўняецца шэрагам абдумана падабраных задачак, якія па труднасьці разьвязаньня разьлічаны на вучняў з сярэднімі здольнасьцямі. Найбольш трудныя альгэбрычныя паняцьця тлумачацца пры дапамозе графік (геомэтрычных прадстаўленьняў) і звычайных жыцьцёвых прыкладаў. Зьмест уложан срога матэматычнаю моваю, пры чым тэрміналёгія апрацавана добра. Адразу кідаецца ў вочы розьніца ў тэрмінах паміж „Арытмэтыкаю“ Цыгельмана і гэтым новым падручнікам: у арытмэтыцы — „дробязъ“, „дробязны“, у альгэбры — „дроб“, „дробавы“, паказвае нашу неастоеннасьць у навуковай тэрміналёгіі і прымушае нас, усіх беларускіх інтэлігентаў, зьвярнуць на гэта сур'ёзную ўвагу. Выкладаньне навуковых дысцыплін і ўменьне апэраваць абстрактнымі паняцьцямі — гэта адно з самых найважнейшых заданьняў нашае адраджэнскае працы. І калі гэты пробны камень, аб які яшчэ болесна рэжуцца нашыя рукі, будзе адшліфаваны, то мы бязумоўна хутчэй пойдзем наперад у дзедзіне асьветы і культуры. Таму-ж нельга не адзначыць надта ўдачны дадатак у першай нашай альгэбры — „Слоўнік тэрмінаў“ блізка 200 тэрмінаў, дзякуючы якому лягчэй магчыма будзе ўнікаць у будычыне разнагалосіцы у матэматычнай тэрміналёгіі, прытрымоўваючыся раз пададзеных тэрмінаў ці ў выпадку ўводу новых азначэньняў пісаць раней паданыя ў косках побач, каб вучням лягчэй было разьбірацца і прывучацца да новых слоў.

= Ул. Тэрраўскі. Беларускі Лірнік. Сьпеўнік на чатыры галасы. Выданьне Навукова-Літэрацкага Аддзелу Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р. Бэрлін, 1922. Стр. 92.

Надрукаваны ў аднэй з лепшых лейпцыгскіх нотадрукарань, на спэцыяльнай нотнай паперы, зьмешчаючы ў сабе 99 сьпеваў гарманізаваных арганізатарам нашага першага сурь'ёзна пастаўленага хору — гр. Тэрраўскім (невялікая лічба сьпеваў гарманізавана іншымі аўтарамі — Рагоўскім, Шымкусам, Кашыным, Гацкім, Славянскім) — трэба спадзявацца адчыніць сабою пэрыяд усестароньнага разьвіцьця нашае нацыянальнае музыкі. Разам з аўтарам мы верым, што дзякуючы гэтаму сьпеўніку „шмат хто ўбачыць хараство родных мэлёдый, унясе іх з сабою ў жыцьцё й, можа быць, ня раз дзякуючы ім, знойдзе духовы супакой“ (з прадмовы

к сьпеўніку „Ад аўтора“). Разам з аўторам паўтараем, што пашырэньне сярод грамадзянства нашае нацыянальнае музыкі „мае вялікую вартасьць для разьвіцьця і захаваньня культуры“. У „Лірніку“ зьмешчаны згарманізаваныя чыста беларускія народныя творы.

На жаль з сучасных песьняў рэвалюцыйна-адраджэнчага пэрыаду ёсьць вельмі мала: „Беларуская марсельеза“ (Ад веку мы спалі...), „А хто там ідзе“, „Панам мы песьні не сьпяваем“ і „Інтэрнацыанал“ (пераклад Я. Купалы з арыгіналу напісанага Эжэнам Пот'е) — ўсе гарманізаваны Тэрраўскім.

Лічым сваім абавязкам успомніць аб тым, што ў даны момант аўтор „Лірніка“ жыве ў далёкім Архангельску, куды яго саслала менская чрэзвычайка.

=Цішка Гартны. Песьні працы і зьмаганьня. (Зборнік вершаў). Выданьне Навукова-Літэрацкага Аддзелу Камісарыяту Асьветы. Б. С. С. Р. Бэрлін, 1922.

Кніга месьціць у сабе 68 вершаў, складаецца з трох частк. І. Ппсьні працы, 2. Чырвоны золак, і 3. Змаганьне.

=Цішка Гартны. Сокі цаліны. Раман у трох частках. І. Бацькава воля. Выданьне Навукова Літэрацкага Аддзелу Камісарыяту Асьветы Б. С. С Р. Бэрлін, 1922. 158 стр.

Абедзьве кнігі Гартнага вымагаюць асобнага разгляду і крытыкі, чаму будзе пасьвячан спэцыяльны артыкул у „Б. С“.

=„Белорусский Этнографъ“. Издание этнографической Комиссии состоящей при этнографическом Кабинете Витебского Отделения Московского Археологического Института. Редактор А. О. Шлюбский. Витебск. 1922 № 1 Апрель. № 2. Май.

Пісаны на пішучай машынцы і гэктаграфаваны. Аkладка мастацкай работы, гэткай-жа работы пачатковыя літары і застаўкі ўзятыя са старабеларускіх, пераважна XVI ст., друкаў.

У № 1. зьмешчаны стацьці: М. Мелешко — Задачи белорускoго этнографа. Ив. Кузьмин — О записи отдельных выражений и слов народной речи. А. Шлюбский — Программа по собиранию сведений о религиозных верованиях белоруссов.

У № 2 стацьці: Сапунов А. И. Краткая характеристика белорусса. В. В. Добровольский — Дунай в славянском фольклоре и прародина славян.

Дзеля таго што Рэдакцыя паставіла мэтай журналу кіраваць работай любіцеляў ўперша прыступаючых да азнаёмленьня з этнографіяй; маючы на ўвазе самы шырокі круг чытачоў, невыстачаюча падгатаваных да гэтага — стацьці напісаны ў папулярнай форме.

Між іншым адзначана: „дзеля популярнасьці і тэхнічных невыгод“ беларуская мова заступлена расійскай. Гэта і дзіўна і незразумела чаму ў беларускім Вітэбску беларускім этнографам — „тэхнічныя невыгоды“ не даюць магчымасьці выдаваць у роднай мове свой журнал?

У канцы абодвых нумэроў дадзена немала матэрьялу аб чыннасьці навучных арганізацый. Не глядзя на цяжкія матэрьяльныя варункі жыцьця ў Беларусі, навучная работа ў ей не замірае. Этнографічная камісыя напр., за 4 зімовых месяцы 1921-1922 г. г. мела 14 паседжаньняў дзеля праслуханьня рожных дакладаў, з дапамогай, часам, пеяньня запісанных песень. Сябрамі Камісыі сабрана немала матэрьялаў. На чале Камісыі стаіць этнограф А. Шлюбскі.

Сустрэчаем у кроніцы паведамленьня аб работах „Камісыі па дасьледаваньню Вітэбскай губэрні“ „Таварыства Полацка-Вітэбскай Беларусі“, „Кошэвіцкага этнографічнага кружка“, сустрэчаем таксама і жальбы аб затрудненьнях, робленых мейсцовай адміністрацыяй навуч-

най працы у Вяліжскім павеце.

Адмечана навучная экспэдыцыя Менскіх студэнтаў у Слуцак дзеля дасьледаваньня беларускай народнай творчасьці. Экспэдыцыя гэта выслана была „Беларускім Акадэмічным Цэнтрам“ і за 6 тыднёў працы яна сабрала багацейшыя матэрьялы.

У Петраградзе выйшаў новы том працы вядомага беларусаведа праф. Е. Карскага „Белоруссы“. Том III. Старая беларуская літэратура.

Журнал адмечае тры вялікія утраты, дазнаныя апошнімі часамі беларусскай навукай: у Смаленску забіты дасьледчык Смаленшчыны, адзін з выдатнейшых беларускіх этнографаў і аўтор „Смоленского Областного Словаря“ праф. В. Н. Добравольскі, ў Маскве памер беларускі этнограф праф. Н. Янчук, у Вітэбску пахавалі зьбірача беларускіх народных песень палкоўніка К. І. Руткоўскага.

=Шлюбский А. А. „Сведения по Собиранию Устного Народного Творчества в Белоруссии“. Велиж. Издание Составителя. 1919. Цена 15 Руб.

У маленькай брашурцы „Беларускі Этнограф“, А. Шлюбскі, дасьледчык Вітэбшчыны, дае падручнік для зьбірачоў памятнікаў беларускай народнай творчасьці. Праца гэта вельмі цэнна, тым больш, што літэратура ў гэтай галіне дагэтуль яшчэ не багата. Шлюбскі ссылаецца на дзьве працы: Карскій Е. Ѳ. Программа для собиранія особенностей Бѣлорусского нарѣчія (Выдана Акадэміяй Навук) С. П. Б. 1897 г. і Клетнова Е. Н. Изученіе родного края. М. 1918 г. На жаль абедзьве апошнія кніжкі зьяўляюцца сягоньня ўжо бібліографічнай рэдкасьцю.

= „Беларускі Партызан“. Месячн. безпартыйная часопісь змагароў за Бацькаўшчыну. Цана асобнага нумэру 20 польскіх марак. Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Галоўны Штаб Беларускіх Партызанаў — Белавежская Пушча. № 1 Жівень (аўгуст) 1922. 22+18 стр. 8.

Зьмест: Да чытачоў. Да польскіх вешацеляў—Г. К. Ультыматум пасланы Паўстанцкім Штабам Начальніку Польскай Дзяржавы Пілсудскаму. Браты Беларускіе Партызаны (адозва Галоўнага Штабу Б. П.). Што нас чакае?—І. III. Апэрацыйная сводка дзейнасьці Беларускіх партызанаў. Апошнія весткі. Песьня— С. К—а. Выдавец: Галоўны Штаб Беларускіх Партызанаў. Рэдактар: Гэрман Скамарох.

---

Litania Narodu Białoruskiego, 4 стр. 21×7 цм. Друкавана на шапірографе сіняй фарбай з двумя рысункамі: на першай страніцы абраз Маці Божаи і абапал гэрб пагоня. У тэксце літаніі знаходзім ніжэй-пісаныя модлы:

Nad Białorusią, razdartą Ojczyzną naszą,
Nad ludem wiernym Tobie,
Zmiłujsię, Panie!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Od naszej długiej, cieżkiej, pokuty,
Od kajdan niewoli,
Od jarzma polskiego,
Od ducha niezgody,
Od kaplanów obszarniczych, zdrajców ludu białoruskiego,
Od kapłanskich podszeptów zdrady,
Od wrogów naszych złości,
Od gnusności polskiej,
Od pokuty w więzieniach Polski,
Od złości, nienawiści i wszelkiej złej woli,

Od śmierci wiecznej,
Wybaw nas, Panie.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Winy szlachty naszej, która się wyrzekła wiary i ojczyzny,
Winy pasterzy naszych, agitujących w kościołach za Polskę,
Winy ojców i braci naszych,
Winy całego narodu białoruskiego, który jeszcze wierzy w zgodę i porozumienie z Polską i nie występuje zbrojnie przeciwko niej
Przebacz, o Panie.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Głos krwi męczenników naszych,
Głos krwi żołnierzy naszych,
Płacz matek, ojców, żon i sierot,
Jęki z więzień Warszawskich, Krakowskich, Poznańskich i kresowych,
Jęki z szachtów Dąbrowskich,
Głosy umierających z głodu, pod ciężarem robot i tortur, któremi uciemiężają okupanci,
Płacz dzieci pozbawionych szkół ojczystych,
Płacz pracowników i nauczycieli naszych katowanych i wygnanych za swój naród,
Żal rolników i wszystkich pracowników, wypędzonych z ojczyzny,
Westchnienia ludu roboczego, ujarzmionego i krzywdzonego przez panów obszarników,
Brzęk pękających kajdan niewoli
Usłysz, o Panie!

На апошняй страніцы Хрыстос, сідзячый пад крыжам і абапертая аб грудзі Хрыста жаночая фігура, сымволізуючая Беларусь. Каля группы (Хрыстос і Беларусь) зьнізу і абапал тэкст вершам:

Słowo twoje nas uczyło:
Każdy włos nasz policzony,
Boże, policz te mogiły,
Te płaczące matki, żony.

My już tyle krwi przeleli,
Że nią zmyty ojców grzechy,
My już tyle łez wyleli,
Że nie stanie łez pociehy,

Boże, padłszy na kolana,
Scielem ci się dziś w pokorze,
Łzami, krwią Białoruś zlana,
Krwią i łzami wskrześ ją, Boże!

*
* *

Wiecznie, jak pomnik Twojego gniewu,
Sterczy ku Tobie błagalna dłoń,...
Bieleją włosy od jęku-śpiewu,
Śpiew ten: „O Boże, od Polski broń!“

Подпісана: М—В. Друк прысланы ў Рэдакцію з Віленшчыны.

БЕЛАРУСКІ КАТЭХІЗМ 1835 ГОДУ. У Рэдакцыю газэты „Przegląd Wileński“ з віленскай правінцыі нехта прыслаў рэдкую беларускую кніжачку п. з. „Krótkie zebranie nauki chrzescijańskiej dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim (?) wyznania rzymsko-katolickiego“. Wilno w drukarni dyecezalnej 1835.

Кніжка мае фармат 10 х 15 цм. стр. 24.

На адваротнай старане загалоўнай страніцы апрабата: „Roku 1835 dnia 5 czerwca w Wilnie. Ten krótki katechizm zawiera w sobie naukę zdrową i dla prostaczków pożyteczną. Biskup rządzący Dyecezją Wilenską Orderow Kawaler Jędrzej Benedykt Kłągiewicz“.

Пасьля духоўнай апрабаты ідзе урадовае пазваленьне друкаваць, падпісанае іменем тагочаснага цэнзара Кукольніка.

На стр. 3-15 зьмешчан каталіцкі катэхізм ў беларускай мове. Стр. 15-19 заняты каталіцкімі пацерамі па польску, рэшта страніц (19-24) друкаваны ізноў па беларуску і на закончаньне зьмешчана песьня „O mój Boże! wierzę Tobie“.

З прычыны гэтай кніжачкі А. Солодух у „Przegl. Wilensk.“, зьмешчае цікавыя разважаньня, што памянёная кніжачка:

„мае асаблівае значэньне як вымоўны довад таго, што ў чацьвертым дзесятку мінуўшага сталецьця ніхто ў нас ў Вільні з ўплывовых сфэр ня думаў аб пасьпешным, як сягоньня, польшчаньню праз касьцёл Беларусаў, карыстаючы з іхнай нацыянальнай несьвядомасьці. Адначасна гэтая кніжачка зьяўляецца нязьбітным довадам высокай культуры тагочаснага біскупа Клонгевіча і таго асяродзішча, якое падняло думку аб навучаньні беларусаў ў іх ўласнай мове, а прынамні запачаткавала гэту справу.

Прыпадковае адкрыцьце гэтай кніжачкі, з надпісам алуўком: „Ex libris sacerdotis Iosephi Avižonis“, саўсім слушна можа быць палічана, як адкрыцьце таго саўсім незнанага нам факту, што не ў далёкім Магілеве, або высунутым на ўсход Менску, але тут у Вільні адчувалі, хоць па свойму, актуальнасьць беларускага пытаньня, мабыць памятаючы, якой мовай паслугоўваецца большасьць селян (бяз рожніцы рэлігіі) на абшарах б. губэрній Віленскай і Горадзенскай. Дагэтуль было ведама што ў сваім часе клалі сваю подпісь пад беларускім катэхізмам толькі кіраўнікі магілеўскай дыяцэзыі (ў Пецярбурзе) як пралат Дэнісэвіч, вядомы са сваіх сымпатый да беларускага народу—сягоньня прыбывае незвычайна цэнны факт, што гэткую самую подпісь у 1835 гаду палажыў пад беларускім катэхізмам доктар свтэалёгіі Андрэй Бэнэдыкт Клонгевіч біскуп суфраган віленскі адміністратар дыяцэзыі (1828-1839), пазьней (1839-1841) біскуп віленскі. Як паляк, ураджэнец Інфлянтаў, ён добра ведаў, што толькі тоненькая плеўка польскіх памешчыкаў і мешчан прыкрывае сабой стульную массу народу, безсумнеўнага паходжаньня літоўскага або беларускага.

Як прафэсар аддзелу тэолёгічнага, пасьля рэгенс сэмінарыі і ўрэшце доўгалетні кіраўнік дыяцэзыі, Клонгевіч, выдаючы беларускі катэхізм, выяўляў гэтым сваё глыбокае пераконаньне, што рымска-каталіцкі касьцёл не павінен кагось дэнацыяналізаваць, але наадварот больш падыходзіць яго ўласьцівай місыі браньне ў апеку слабейшых народаў пад напорам дужэйшых. Ці-ж народ менш варт чым палявая трава і лён пылісты, якіх, паводле эвангеліі, не хацеў ступой сваей таптаць Хрыстос?“.

Годзячыся зусім з грам. А. Солодухом што да яго вывадаў з факту выданьня беларускага катэхізму ў 1835 гаду, мы змушаны зрабіць папраўку, што да рэдкасьці кніжачкі, якая не зьяўляецца унікатам і хоць Эстрэйхару яна запраўды не была вядома, але ў калекціях беларускіх дзеячоў, як, напр. В. Ластоўскага і нябошчыка Івана Луцкевіча даўно мелася і праф. Карскі адмеціў яе ў адным з тамоў яго працы „Беларусы“.

Запраўды вялікай рэдкасьцю зьяўляецца іншая кніжка „Kantyczka“ беларуская, выданая ў канцы XVIII ст. ў Полацку, экзэмпляр якой быў у сямьі пішучага гэту заметку, ў яго дзіцячыя гады.

**Л.**





# СВАЯ ПОЧТА.

М. ТАЛЕРЦЫ. Вашы вершы „Ня сьпі“ і „Думкі беларуса селяніна“ маюць недахваты нават з чыста тэхнічнай стараны. Радзім Вам добра прагледзіць! Смирновскій „Теорія словесности“. Затое Вы нас абрадавалі цікавымі беларускімі словамі, як напр. „Сьлібіць расой дзядовы сад“.

ПАЭТУ-ЛІНГВІСТУ. Ваша цытата з народнай песьні:

„Паклякная верба ды на мора паклякла“,
„Ды дзевачкам дарожку заняла“.

вельмі цікава з славарнай стараны. Будзем ўдзячны Вам за прысылку болей падобных цікавых слоў і зваротаў. Чэкаем абецанай стацьці ў чародны нумэр. Расійскае слова „ощутительно“ тлумачыцца беларускім — пачовіста, пачоўна.

ВІЗ. Распіску „тры кавалкі“ — атрымалі. Чакаюць ад Вас адповедзі на лісты. Ладзімір абецаўся перэсылаць навіны ад Вас.

СТАЎРОВІЧУ. У кніжцы Сапунова „Западная Двина“ Вы знойдзеця шуканыя Вамі весткі аб Беларусі. Там маюцца ўсе выпіскі са скандынаўскіх „Сагоў“, а так-жа выпіскі з грэцкіх і лацінскіх пісьменьнікаў, дзе ў іх была мова аб Дзьвіне і тэрыторыі Беларусі.

3-051136


# НОВА УКРАЇНА,

безпартійний двохтижневик, містить статті по економичних, культурно-просвітних та громадських питаннях. Стежучи за життям чужих народів і держав та аб'ективно розглядаючи становище на Вкраїні,

**НОВА УКРАЇНА**

шукае засобів і форм відбудови рідного краю.

Видае П. Богацький. Редагуе колегія.

Відповідальний редактор Др. ПОГУБОВА. Адреса Редакції й Контори:

**Praha III, Serikovà 4, III p.**

| Передплата в коронах чеських | Для Чахословаччини | Для України, Польщі, Румунії, Австрії, Германії | Для инших країв |
|---|---|---|---|
| На рік . . . . . | 100 k. č. | 60 k. č. | 120 k. č. |
| На півроку . . . . | 50 k. č. | 30 k. č. | 60 k. č. |
| Окреме число . . . | 5 k. č. | 3 k. č. | 6 k. č. |

Передплату з теренів Польщі, Галичини та Волині просимо надсилати по адресі: Львів, Ул. Гауснера, 5. Я. Зозуля.

## ЕЖЕНЕДЕЛЬНИК
# „ВОЛЯ РОССИИ",

выходящій под редакціей: В. И. Лебедева, М. Л. Слонима и В. В. Сухомлина. Издатель Е. Е. Лазарев.

УСЛОВИЯ ПОДПИСКИ:

| | на 1 год | на 6 мес. | на 3 мес. | на 1 мес. |
|---|---|---|---|---|
| Чехословакия, Финляндия . . . | 240 | 120 | 60 | 20 |
| Скандинав. страны в швед. крон. | 24 | 12 | 6 | 2 |
| Германия, Литва, Польша, Латвия, Эстония . . гер. мар. | 640 | 330 | 168 | 56 |
| Франц., Бельгия, Турция франк. | 60 | 30 | 15 | 5 |
| С. Ш. Сев. Америки . . дол. | 6 | 3 | $1^1/_2$ | 50 цент. |
| Англия . . . . . . . . . ф. ст. | 1 | 10 шил. | 5 шил. | 2 шил. |
| Швейцария . . . . . . . шв. фр. | 30 | 15 | 7.50 | 2.50 |
| Италия . . . . . . . . . лир. | 120 | 60 | 30 | 10 |

Просят г.г. подписчиков при перемене адреса и при всех запросах прилагать почт. марку, равную $2^1/_2$ чешск. кр., в виду повышения почтовой оплаты на 100%.

Присылаемые в редакцию рукописи возвращаются по желанию отправителя лишь при посылке 10 Кр. ч. на почтовые расходы.

Адрес конторы и редакции:

„Volja Rossii", Uhelny 1, Prague, Tchècoslovaquie.